А.М. КУШНЯРЭВІЧ

# КУЛЬТАВАЕ ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ XIII – XVI СТСТ.

**ГІСТАРЫЧНАЕ І АРХІТЭКТУРНА-АРХЕАЛАГІЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ**

Мінск
«Навука і тэхніка»
1993

# УСТУП

Культавая архітэктура XIII—XVI стст.— адна з яркіх і цікавых з'яў у гісторыі беларускага мастацтва, якая адпавядае перыяду фарміравання беларускай народнасці, яе мовы і культуры. У перыяд сярэднявечча царкоўныя пабудовы найбольш поўна акумулявалі дасягненні будаўнічай тэхнікі, жывапісу, скульптуры. Яны з'яўляліся асноўным відам манументальнага дойлідства, таму толькі пры іх вывучэнні можна прасачыць асаблівасці эвалюцыі архітэктуры таго ці іншага народа.

Развіццё культавага дойлідства XIII—XVI стст. выявілася ва ўдасканаленні будаўнічай тэхнікі, пашырэнні тыпалогіі і стварэнні самабытных помнікаў, пры ўзвядзенні якіх былі захаваны не толькі традыцыі беларускага дойлідства папярэдняй эпохі, але і выкарыстаны дасягненні еўрапейскай архітэктуры.

Готыка ўзнікла ў Францыі ў XII ст., затым распаўсюдзілася ў заходнееўрапейскай архітэктуры і існавала да XVI ст. Калі разглядзець архітэктуру суседніх краін, то ў пачатку XIV ст. гатычныя пабудовы ўжо ўзводзілі ў Польшчы [289, *178*] [1], а ў канцы стагоддзя таксама ў Літве [300, *253*].

[1] У дужках указваецца парадкавы нумар крыніцы ў спісе літаратуры, старонка курсівам. Рымскімі лічбамі пазначаны том шматтомных выданняў. Спасылкі ў адных дужках на некалькі прац раздзяляюцца кропкай з коскай.

На Беларусі готыка знайшла выкарыстанне пераважна ў архітэктуры заходніх і часткова цэнтральных земляў, якія ўяўлялі сабой актыўную кантактную зону з еўрапейскай культурай. У беларускім дойлідстве другой паловы XIII ст. (Камянецкая вежа) ужо сустракаюцца элементы гатычнай архітэктуры (крыжовыя скляпенні, вокны спічастай формы). Аднак канчаткова готыка тут усталявалася толькі ў сярэдзіне — другой палове XIV ст., калі замест балтыйскай (вендскай) пачалі ўжываць гатычную муроўку сцен. Унутраную прастору пабудоў гэтага часу (паўночна-ўсходняя вежа другой паловы XIV — пачатку XV ст. Лідскага замка, грамадзянская пабудова другой паловы XIV ст. Навагрудскага замка), а таксама ўзведзеных у канцы XIII — пачатку XIV ст., але перабудаваных у другой палове XIV ст. (Верхняя царква ў Гродне, храм Навагрудскага замка) перакрылі крыжовымі скляпеннямі, якія мелі ўласцівыя готыцы нервюры з прафіляванай цэглы. У архітэктуры Беларусі перыядам готыкі з'яўляецца другая палова XIV — першая палова XVI ст. Аднак збудаванні, якія ўкладваюцца ў традыцыйную «гатычную» схему, працягвалі ствараць у другой палове XVI — пачатку XVII ст. побач з рэнесансавымі і барочнымі. У архітэктуры Беларусі і суседніх народаў готыка не прайшла праз пачатковую стадыю развіцця, а бы-

ла ўспрынята, калі ў заходнееўрапейскім дойлідстве наступіла позняя стадыя яе эвалюцыі [291, *239*].

У адрозненне ад большасці заходнееўрапейскіх краін на беларускіх землях, як і ў раёнах Паўночнай Германіі, значнай частцы Польшчы, Прыбалтыкі, адсутнічаў натуральны камень, які дастаткова лёгка можна было апрацаваць, таму тут будавалі ў асноўным з цэглы, што прывяло да распаўсюджання на гэтых тэрыторыях своеасаблівай «цаглянай» готыкі, якая зарадзілася на поўдні Францыі, у Альбі [153, *86*].

Асноўнымі канструкцыйнымі элементамі цагляных гатычных пабудоў, што прымаюць распор скляпенняў, з'яўляюцца слупы, а таксама сцены значнай таўшчыні і контрфорсы. Заходні і ўсходні фасады завяршаюцца франтонамі трохвугольнай формы ці з прыступкавым абрысам. Для змяншэння інертнай масы франтоны ўзводзілі танейшымі за сцены асноўнага аб'ёму. Часткова з гэтай мэтай у франтонах рабілі нішы, якія надавалі фасадам таксама пэўную дэкаратыўнасць. Інтэр'еры перакрывалі пераважна крыжовымі, зорчатымі, сотавымі скляпеннямі.

На асаблівасці готыкі Беларусі паўплывала багатая ўсходнеславянская архітэктурная спадчына XI—XII стст. Яе адметнасць таксама вызначалася не толькі суседствам з краінамі, дзе была распаўсюджана готыка, але і з Маскоўскай дзяржавай, у дойлідстве якой дамінаваў візантыйскі стыль, што атрымаў тут своеасаблівую трактоўку [274, *17*].

Далучанасць беларускага мастацтва да аднаго з накірункаў еўрапейскай культуры — з'ява заканамерная, падрыхтаваная ходам папярэдняга эканамічна-палітычнага і культурнага развіцця беларускіх зямель. Інтэграцыя іх культуры ў сусветную пачалася яшчэ ў канцы X—XI ст. з распаўсюджаннем хрысціянства пры пасрэдніцтве Візантыі — прамой пераемніцы антычнай цывілізацыі.

У архітэктуру Беларусі готыка была запазычана, напэўна, з Валыні, дзе рамана-гатычныя элементы ўжо выкарыстоўваліся ў дойлідстве другой паловы XIII ст., але гэта мог быць і вынік непасрэдных сувязей з мастацтвам Польшчы, Паўночнай Германіі, Прыбалтыкі [184, *98*].

Пра характар гэтых сувязей разважаць даволі цяжка. У першай палове XIV ст. важным цэнтрам беларускай, літоўскай, польскай і заходнееўрапейскай культуры становіцца велікакняжацкі двор у Вільні, дзе працавала шмат замежных рамеснікаў, музыкантаў. У канцы XIV ст. адбылося дзяржаўна-палітычнае збліжэнне Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, што спрыяла ўстанаўленню паміж імі актыўных культурных кантактаў [117, *391*]. Так, беларускія і ўкраінскія майстры ўпрыгожылі шэраг гатычных пабудоў Польшчы: храмы ў Гнезна і Сандаміры, калегіяты ў Вісліцы, капліцы Св. Тройцы і Св. Крыжа ў Люблінскім і Вавельскім замках [119, I, *173—174*]. Не выключана, што сярод гэтых мастакоў былі таленавітыя дойліды, якія, вярнуўшыся дадому, кіравалі ўзвядзеннем манументальных пабудоў. Вядома таксама, што ў першай палове XIV ст. Гедымін запрасіў з ганзейскіх гарадоў у Вялікае княства Літоўскае рамеснікаў, у тым ліку і муляраў. Ён даў дазвол пасяліцца ў княстве манахам-дамініканцам і францысканцам [312, *518—519*],

якія мелі звычайна ўласныя будаўнічыя арцелі [289, *63*].

Працавалі тут і вандроўныя дойліды з Прыбалтыкі, што прапаноўвалі свае паслугі за добрую аплату. Удзел у канцы XIV—пачатку XV ст. кваліфікаваных майстроў з Прыбалтыкі, напрыклад ва ўзвядзенні замкаў на землях Беларусі, быў звычайнай справай [240, *28*]. Запрашэнне замежных майстроў не азначае адсутнасці мясцовых дойлідаў, проста іх было, відаць, недастаткова для будаўніцтва шматлікіх замкаў і культавых пабудоў.

Актыўныя палітычныя і культурныя кантакты сведчаць пра адсутнасць рэгіянальнай адасобленасці беларускіх зямель, іх творчае супрацоўніцтва з суседнімі краінамі. Гэта прывяло да папаўнення арсенала канструкцыйных і мастацкіх прыёмаў культавай архітэктуры Беларусі, а таксама яе пераарыентацыі ад візантыйскага стылю да готыкі з улікам мясцовых традыцый. Безумоўна, готыка не распаўсюдзілася б у беларускай архітэктуры, калі б свядомасць майстроў і заказчыкаў храмаў не была падрыхтавана да ўспрыняцця мастацкага вопыту еўрапейскіх краін. Гэта сведчыць пра высокі ўзровень беларускай культуры, які быў забяспечаны эканамічным, сацыяльна-палітычным пад'ёмам мястэчак і гарадоў Беларусі, што пачаўся ў XIV ст. [279, *65—105*; 157, *87—88*] як вынік аб'яднання беларускіх зямель разам з літоўскімі і ўкраінскімі (да 1569 г.) у Вялікае княства Літоўскае.

У сферу нашай увагі ўваходзяць мураваныя храмы Беларусі, а таксама праваслаўныя цэрквы тых тэрыторый Літвы (Вільня, Трокі, Коўна) і Польшчы (Беластоцкае ваяводства), дзе ў XIV—XVI стст. пераважала па колькасці беларускае насельніцтва ці была яго вялікая канцэнтрацыя [103, *116*; 239, *95*; 301, *127—128*). Гісторыя архітэктуры Беларусі будзе няпоўнай без уліку гэтых помнікаў.

У XIV—XVI стст. узводзілі на Беларусі культавыя пабудовы і такія этнічныя групы, як татары і яўрэі. Мы не сабралі матэрыялы пра мураваныя мячэці і сінагогі. Відаць, гэтыя помнікі былі драўлянымі і не захаваліся. Вызначыць адметныя рысы культавай архітэктуры Беларусі можна пры параўнанні з храмамі Літвы. Разглядаць жа архітэктуру двух народаў як адзінае цэлае будзе няправільным, бо яны розняцца архітэктурнай перадгісторыяй, фактарамі эканамічнага развіцця, канфесіянальнай сітуацыі, а таксама неаднолькавым уплывам язычніцтва.

Аўтар лічыў неабходным на аснове вынікаў гістарычнага і архітэктурна-археалагічнага даследавання папоўніць колькасць і акрэсліць больш дакладна кола вывучаемых помнікаў XIII—XVI стст., удакладніць іх датаванне, планіровачную структуру, вызначыць храналагічныя рамкі і паказаць працэс распаўсюджвання і ўзаемадзеяння готыкі з іншымі мастацкімі стылямі ў архітэктуры Беларусі.

Важна было ўзняць пытанне пра гісторыю культавай архітэктуры XIII ст., якая з'яўляецца сувязным звяном паміж усходнеславянскім дойлідствам XI—XII стст. і беларускай архітэктурай XIV—XVI стст.

Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць даследчыкам Санкт-Пецярбурга А. М. Кірпічнікаву, М. У. Малеўскай, Вал. А. Булкіну, А. М. Іянісяну, Беларусі — Г. В. Штыхаву, Т. В. Габрусь, А. А. Трусаву, В. М. Ляўко, М. Ф. Гурыну, В. В. Калні-

ну за парады і крытычныя заўвагі, выказаныя ў працэсе напісання працы, С. Ф. Адамовіч за фотаматэрыялы 30-х гадоў XX ст., прысвечаныя помнікам Новага Свержня. Вельмі ўдзячны супрацоўнікам інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» Г. Жаровінай, Г. Босак, Л. Паўлавай, Інстытута кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў Літоўскай Рэспублікі А. Самукене, А. Мейлунасу за дазвол уключыць у працу чарцяжы фасадаў і разрэзы шэрагу помнікаў, а таксама фатографам У. Суцягіну і В. Карбоўскаму за дапамогу ў падрыхтоўцы ілюстрацый.

Аўтар шчаслівы, што меў магчымасць карыстацца парадамі выдатных даследчыкаў П. А. Рапапорта, В. Р. Слюнчанкі, М. А. Ткачова.

# ПАЧЫНАЛЬНІКІ ДАСЛЕДАВАННЯ

У навуковай літаратуры, прысвечанай архітэктуры і мастацтву Беларусі, да апошняга часу не быў асветлены ў храналагічнай паслядоўнасці працэс назапашвання і эвалюцыі гісторыка-архітэктурных ведаў пра беларускае культавае дойлідства XIII—XVI стст. Пытанні яго крыніцазнаўства і гістарыяграфіі часткова разгледжаны ў працах М. С. Кацара, М. А. Ткачова, А. А. Трусава, што было абумоўлена профілем і задачамі іх даследаванняў [147, *6—8*; 23, *3—10*; 245, *35—58*]. Разгляд гэтых пытанняў больш глыбока і поўна, чым было зроблена папярэднімі вучонымі і намі раней [167, *20—22*; 171, *73—80*], дазволіць уявіць, на чым грунтуюцца сучасныя высновы пра культавае дойлідства Беларусі і якія задачы стаяць перад даследчыкамі ў галіне яго вывучэння.

Першыя адзінкавыя звесткі пра помнікі дадзенай эпохі сустракаюцца на старонках беларуска-літоўскіх летапісаў XV—XVI стст., якія сведчаць пра будаўніцтва ў XIV ст. праваслаўных храмаў у Віцебску і Троках (зараз Тракай Літоўскай Рэспублікі) [110, *97*; 179, *194*].

У «Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жмудскай і ўсёй Русі» М. Стрыйкоўскага таксама сустракаюцца звесткі пра віцебскія цэрквы XIV ст. [327, *14*]. Гэтыя крыніцы і вынікі археалагічных даследаванняў сярэдневяковых храмаў Навагрудскага і Гродзенскага замкаў сведчаць пра бесперапыннасць развіцця беларускага культавага дойлідства XIV ст.

Цікавыя факты з гісторыі праваслаўных цэркваў XIV—XVI стст. Вільні, Трок утрымліваюцца ў «Зборы грамат і актаў гарадоў Вільні, Коўна, Трок» [235].

Больш шырокія гістарычныя даныя змешчаны ў «Актах, выдадзеных Віленскай археаграфічнай камісіяй» і «Археаграфічным зборніку дакументаў» [81, *83*], што сабрала і надрукавала Віленская археаграфічная камісія. У асноўным гэта фундушавыя запісы, пацвярджальныя граматы, судовыя дэкрэты і агляды храмаў. Гэтыя дакументы называюць час будаўніцтва і рамонту шэрагу помнікаў, іх месцазнаходжанне і стан у XVII—XVIII стст.

Значную інфармацыю па культаваму дойлідству Беларусі XV—XVI стст. можна атрымаць пры даследаванні картаў, гравюр і малюнкаў беларускіх гарадоў. Найбольш вядомымі з'яўляюцца працы гравёра, картографа і друкара Т. Макоўскага з відамі Нясвіжа, Клецка, Вільні, Гродна.

Паглыбляюць веды па архітэктуры Беларусі таксама гравюра Вільні са збораў Броэль-Плятара,

гравюра М. Цюнда (Гродзенскі замак, 1568), малюнак С. Пахалавецкага «Аблога Полацка войскамі С. Баторыя 11—30 жніўня 1579 г.», выява Полацка на карце канца XVII — пачатку XVIII ст., гравюры Брэста 1657 г., план Полацка 1707 г. Гэты матэрыял дазваляе ўявіць не толькі прынцыпы і структуру абарончых збудаванняў названых гарадоў, сістэму іх планіроўкі, тыпы гарадскіх пабудоў, але і аднавіць агульны выгляд шматлікіх разбураных ці перабудаваных храмаў XV—XVI стст.

Творы мастацтва на архітэктурныя тэмы пастаянна прыцягваюць увагу даследчыкаў дойлідства Беларусі. Напісаны яны пераважна ў другой палове XIX ст., калі ў беларускім мастацтве склаліся традыцыі рамантызму. Прадстаўнікі гэтай плыні цікавіліся нацыянальнай культурай і гісторыяй свайго народа. Вывучэнне роднага краю захапіла таксама мастакоў, якія рабілі натурныя замалёўкі помнікаў архітэктуры і археалогіі, этнаграфічных аб'ектаў [270, *46—47*].

З малюнкаў, прысвечаных культавай архітэктуры разглядаемага перыяду, самымі вядомымі з'яўляюцца творы Н. Орды, В. Гразнова, Э. Паўловіча. Архітэктурныя пейзажы Н. Орды, выкананыя пасля вяртання з эміграцыі пад час падарожжа па Беларусі, Літве і Польшчы, былі выдадзены ў васьмі серыях у Варшаве на працягу 1873—1883 гг. [270, *47*]. У першых чатырох серыях надрукаваны ў асноўным малюнкі замкавай архітэктуры. Культавае дойлідства прадстаўлена відамі Ішкалдскага і Гнезнаўскага касцёлаў XV—XVI стст.

Вялікую навуковую і культурную каштоўнасць уяўляюць таксама малюнкі Сынковіцкага, Мураванкаўскага, Супрасльскага, Коднянскага і іншых храмаў, выкананыя беларускім краязнаўцам і мастаком В. Гразновым у час экспедыцыі па выяўленні на тэрыторыі Беларусі і Літвы праваслаўных храмаў.

Значны аб'ём інфармацыі ўтрымліваюць таксама акварэлі Э. Паўловіча з відамі Барысаглебскай царквы XVI ст. у Навагрудку і касцёла XV ст. у в. Ішкалдзь.

Вельмі цікавай з'яўляецца акварэль сярэдзіны XIX ст. Мураванкаўскай царквы, што выяўлена намі ў Аддзеле рукапісаў Віленскага універсітэта. Яе аўтар — настаўнік малявання адной з віленскіх гімназій Пятроў [169].

Творы гэтых мастакоў маюць для беларускай гісторыі і культуры вялікае навуковае і мастацкае значэнне, хоць часта ў іх адсутнічае дакументальная дакладнасць выявы, што ў асноўным абумоўлена індывідуальным успрыманнем кожнага помніка. Аднак іх малюнкі даюць добрае ўяўленне пра агульныя рысы многіх храмаў, якія зараз не захаваліся ці вельмі змяніліся ў выніку пазнейшых рамонтаў і перабудоў.

Архіўныя дакументы прадстаўлены копіямі фундушаў, вопісамі і метрыкамі касцёлаў, якія знойдзены намі ў архівах Мінска, Вільнюса, Санкт-Пецярбурга. У асноўным гэта дакументы XVIII—XIX стст. Яны дазваляюць удакладніць датаванне, планіровачную структуру, будаўнічую гісторыю і афармленне інтэр'ераў шматлікіх помнікаў. Фатаграфічны матэрыял дае магчымасць уявіць выгляд касцёлаў і цэркваў у 20—30-я і 50-я гады XX ст. Многія з гэтых храмаў не захаваліся, што надае фотаздымкам вялікую навуковую каштоўнасць.

Вывучэнне культавай архітэкту-

ры Беларусі XIV—XVI стст. пачалося ў другой палове XIX ст. у сувязі з неабходнасцю абгрунтаваць законнасць прэтэнзій царскага ўрада на ўладанне беларускімі і літоўскімі землямі. З гэтай мэтай арганізоўваліся спецыяльныя экспедыцыі для выяўлення на тэрыторыі Беларусі і Літвы праваслаўных храмаў і манастыроў. Сабраная інфармацыя была ўключана ў выданні П. М. Бацюшкава, дзе маецца цікавы фактычны і ілюстрацыйны матэрыял па беларускаму культаваму дойлідству разглядаемага перыяду [91, *211*].

Матэрыялы збіралі не толькі члены навуковых арганізацый, але і афіцэры Генеральнага штаба. У канцы 50-х гадоў XIX ст. некаторым з іх было даручана напісаць даведкі па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі і статыстыцы заходніх губерняў Расіі [87, *64*]. У выніку гэтай працы ў 60-х гадах з'явілася шматтомнае выданне «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба». У адрозненне ад выдання, прысвечанага Мінскай губерні, у даведках па Гродзенскай і Віленскай губернях надрукаваны гістарычныя нарысы гарадоў і мястэчак, дзе апісваецца Супрасльская царква [95, *1024—1032*], а таксама згадваецца Гальшанскі кальвінскі збор [158, *732*].

У другой палове XIX ст. вялікую працу па вывучэнні гісторыі і культуры роднага краю правёў беларускі этнограф, археолаг і грамадскі дзеяч А. Кіркор. У адным з тамоў «Жывапіснай Расіі» ён змясціў каштоўныя звесткі па гісторыі праваслаўных храмаў Вільні і Супрасльскай царквы [136, *142*, *201*].

У канцы XIX — пачатку XX ст. членамі Віленскай археаграфічнай камісіі Ю. Ф. Крачкоўскім, Ф. М. Дабранскім і гісторыкам А. А. Вінаградавым [107; 108; 132; 161; 162] былі выдадзены працы, прысвечаныя гісторыі і архітэктуры Вільні. Аўтары папоўнілі звесткі пра храмавае дойлідства гэтага горада новымі гістарычнымі фактамі. У кнігах Ф. М. Дабранскага і А. А. Вінаградава апісана не толькі гісторыя Вільні і яе праваслаўных храмаў, але таксама касцёлаў і помнікаў грамадзянскай архітэктуры. Для гісторыкаў і архітэктараў, якія вывучаюць культавае дойлідства гэтага горада, цікавасць уяўляюць матэрыялы, прысвечаныя помнікам, разбураным у XVII—XVIII стст., што пашырае ўяўленне пра колькасць праваслаўных храмаў і інтэнсіўнасць іх будаўніцтва ў Вільні ў XIV—XVI стст. У працы А. А. Вінаградава зроблены спасылкі на крыніцы, якія разам з цікавымі ілюстрацыямі адрозніваюць яе ад выданняў Ф. М. Дабранскага і Ю. Ф. Крачкоўскага. Аднак усім гэтым выданням уласцівы тэндэнцыйны падыход да разглядаемага матэрыялу, аднолькавая структура яго выкладання, аднабаковая характарыстыка помнікаў, часты паўтор адных і тых жа фактаў.

У другой палове XIX ст. з уздымам грамадска-палітычнай думкі ажывілася дзейнасць перыядычнага друку па вывучэнні і прапагандзе помнікаў гісторыі і культуры. У гэты час у газетах «Гродненские губернские ведомости» і «Виленский вестник» былі змешчаны артыкулы, прысвечаныя Сынковіцкаму і Супрасльскаму храмам [89, *108*]. Матэрыял пра Сынковіцкую царкву быў узяты з выдання П. М. Бацюшкава «Белоруссия и Литва» [91]. Артыкул пра Супрасльскі храм падрыхтаваў А. А. Вінаградаў, які апісаў не толькі раней вядомыя факты,

але і ахарактарызаваў яго будаўнічую гісторыю XVII—XVIII стст.

Шэраг артыкулаў пра Сынковіцкую, Мураванкаўскую, Супрасльскую цэрквы быў надрукаваны ў «Литовских епархиальных ведомостях» [85, *221*] святарамі, якія апісалі гісторыю будаўніцтва храмаў, жыццё і дзейнасць фундатараў, духоўных асоб, а таксама падзеі, звязаныя з гэтымі помнікамі.

У пачатку XX ст. былі праведзены архітэктурныя даследаванні шэрагу помнікаў культавага дойлідства Беларусі XVI ст. Так, П. Пакрышкін вывучаў Супрасльскую царкву, якую ў гэты час рэстаўрыравалі [211]. Ён упершыню абмераў, выканаў падоўжны разрэз, чарцяжы яе плана і фасадаў, а таксама зрабіў шмат фотаздымкаў. Гэтыя матэрыялы ўяўляюць зараз вялікую навуковую каштоўнасць. П. Пакрышкін зрабіў таксама кваліфікаванае натурнае апісанне помніка.

І. Ядкоўскі даследаваў цэрквы абарончага тыпу XVI ст. па даручэнні Маскоўскай археаграфічнай камісіі, членам якой з'яўляўся [142]. Ён, маючы добрую архітэктурную эрудыцыю, дастаткова крытычна падышоў да шматлікіх пісьмовых крыніц, што дазволіла яму правільна датаваць гэтыя помнікі. Іх апісанне І. Ядкоўскі пацвердзіў шматлікімі фотаздымкамі і чарцяжамі. Большасць з іх была зроблена ўпершыню і пазней выклікала ў даследчыкаў вялікую цікавасць. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца матэрыялы па Асташынскаму кальвінскаму збору, які не захаваўся.

Польская гістарычная навука XIX — пачатку XX ст. прытрымлівалася свайго погляду на гісторыю і культуру Беларусі. У навуковых і папулярных выданнях, энцыклапедыях, а таксама шматлікіх газетах і часопісах выказвалася меркаванне, што на тэрыторыі Рэчы Паспалітай існавала толькі польская і ў меншай ступені літоўская культура [286; 308; 326].

З больш дэмакратычных пазіцый асвятляў гісторыю і культуру Беларусі польскі і беларускі паэт, гісторык У. Сыракомля, які некалькі разоў падарожнічаў па Беларусі і Літве. У выніку сабраў па гісторыі, этнаграфіі і культуры багаты матэрыял, надрукаваны ў нарысах «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» і «Нёман ад вытокаў да вусця». У іх пададзены факты з гісторыі і зроблена лаканічнае апісанне Мірскага, Нясвіжскага замкаў, а таксама касцёлаў у Новым Свержні і Міры [329, *57, 193*; 330, *21*].

Шмат інфармацыі па культаваму дойлідству Беларусі XIV—XVI стст. змяшчае праца М. Балінскага і Т. Ліпінскага «Старажытная Польшча», дзе прыведзены факты з гісторыі многіх беларускіх гарадоў, мястэчак і іх архітэктурных помнікаў [280].

Цікавы матэрыял па храмах Вільні ўтрымліваецца і ў працы Т. Нарбута [313, *216*].

Звесткі пра шэраг помнікаў XV—XVI стст. можна знайсці таксама ў выданні «Нашы касцёлы» [314].

У артыкуле А. Шышкі-Богуша, прысвечаным храмам абарончага тыпу на тэрыторыі Польшчы (Брохаўскі і Ленчыцкі касцёлы), Украіны (Астрожская і Суткаўская цэрквы), Беларусі (Сынковіцкі, Мураванкаўскі і Супрасльскі храмы), цікавымі з'яўляюцца фотаздымкі, планы помнікаў беларускай архітэктуры і разважанні па іх абарончаму выкарыстанню [332].

Такім чынам, у XIX — пачатку XX ст. распачаты збор і сістэматы-

зацыя фактычнага і ілюстрацыйнага матэрыялу па культаваму дойлідству Беларусі XIV—XVI стст., у асноўным праваслаўных храмаў, радзей касцёлаў і кальвінскіх збораў, што дазволіла толькі часткова акрэсліць кола даследуемых помнікаў.

Новы этап у вывучэнні гісторыі і культуры беларускага народа быў пачаты працай М. М. Шчакаціхіна «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», які з'яўляўся супрацоўнікам створанага ў 1922 г. Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта). Калі раней даследчыкі прыводзілі факты з гісторыі асобных помнікаў ці ў лепшым выпадку рабілі іх апісанне, то М. М. Шчакаціхін паспрабаваў на аснове мастацтвазнаўчага аналізу паказаць вытокі і эвалюцыю культавай архітэктуры Беларусі XVI ст. [266, *242—270*].

У гэты час маскоўскі даследчык А. І. Някрасаў засяродзіў увагу на Сынковіцкім, Мураванкаўскім, Супрасльскім храмах і адзначыў у іх архітэктуры рысы полацка-смаленскага дойлідства XII ст. [199, *176—180*].

Як бачна, у 20—30-я гады XX ст. працягвалася назапашванне звестак па культаваму дойлідству Беларусі пераважна XVI ст. Адначасова была зроблена першая спроба яго тэарэтычнага асэнсавання і выяўлення агульнай карціны эвалюцыі.

У перыяд знаходжання заходнебеларускіх зямель пад уладай Польшчы помнікі беларускай архітэктуры сярэдневякоўя былі абвешчаны помнікамі польскай культуры. У 20—30-я гады польскія вучоныя даследавалі і папулярызавалі шэраг храмаў Беларусі XV—XVI стст.

Е. Рэмер агледзеў і апісаў Сынковіцкую, Мураванкаўскую царквы, касцёл у в. Ішкалдзь і іншыя помнікі [322, *43—45*]. Д. Пшэворская падрыхтавала цікавы артыкул, прысвечаны Супрасльскай царкве [318]. Матэрыял па архітэктуры Беларусі маецца таксама ў краязнаўчай літаратуры, турысцкіх даведніках, якіх было шмат выдадзена ў Польшчы ў 20—30-я гады. Сярод гэтых выданняў асабліва цікавымі з'яўляюцца працы І. Жмігродскага, С. Лёрнтца, Х. Лаўмянскага, М. Маралёўскага [302; 304; 311; 335].

Польскія вучоныя на тэрыторыі Беларусі праводзілі таксама архітэктурна-археалагічныя даследаванні. У сувязі з будаўніцтвам помніка А. Міцкевічу яны даследавалі Навагрудскі замак. У 1931 г. на пляцоўцы Малога замка быў насыпаны ў яго гонар курган дванаццаціметровай вышыні. Значная частка зямлі была ўзята з тэрыторыі Замкавай гары, дзе на ўсёй плошчы знялі слой таўшчынёй каля двух метраў. Польскія архітэктары Р. Гютлер, А. Шышка-Богуш, Е. Рэмер выкарысталі гэтыя работы для вывучэння і кансервацыі архітэктурных помнікаў Замкавай гары [129, *181—188*]. У выніку яны прасачылі лініі замкавых сцен, выявілі падмуркі дзвюх вежаў і палаца, а таксама часткова расчысцілі сярэдневяковы храм [321, *181—188*].

У 1928 г. была створана камісія па ўмацаванню Замкавай гары ў Гродне, якая размывалася Нёманам. Для падсыпкі схілу, што пагражаў сценам замка з боку Нёмана, быў зняты грунт з Замкавай гары [111, *18—19*]. Пад час гэтых работ, якімі кіраваў І. Ядкоўскі, былі выяўлены дзве царквы — Ніжняя і Верхняя. Аднак апошняя ў працэсе раскопак І. Ядкоўскага аказалася выраванай са стратыграфічнага акружэння, што вельмі ўскладніла датаван-

не помніка і характарыстыку яго будаўнічай гісторыі.

Польскія гісторыкі сабралі значную інфармацыю па асобных помніках беларускай архітэктуры, але пакінулі таксама шмат нявырашаных пытанняў. На іх можна было адказаць толькі ў выніку больш глыбокага навукова-гістарычнага падыходу да матэрыялу, а таксама ў працэсе больш дэталёвых архітэктурна-археалагічных даследаванняў з улікам нацыянальна-гістарычных асаблівасцей і мясцовых архітэктурных традыцый.

Новы перыяд у вывучэнні культавага дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. пачаўся ў пасляваенны час з абагульняючай працы па горадабудаўніцтву і архітэктуры Беларусі «Горадабудаўніцтва Беларусі» Ю. А. Ягорава, дзе разглядаюцца Сынковіцкая і Мураванкаўская цэрквы, якія маглі выкарыстоўвацца, на думку аўтара, для абароны мястэчак [135, *36—41*].

Гэтыя два помнікі, а таксама Супрасльскі храм разгледзеў М. С. Кацар у кнізе «Беларуская архітэктура», які адзначыў іх сувязь з усходнеславянскім дойлідствам XII ст. і праваслаўнымі храмамі Вільні XVI ст. Аўтар прапанаваў падзяліць абарончыя храмы Беларусі на два тыпы: цэрквы з байніцамі і вежамі і храмы, абнесеныя мурамі з вежамі ці землянымі валамі [147, *45—52*].

Грунтоўнае асвятленне культавага дойлідства Беларусі зроблена К. Д. Квітніцкай ва «Усеагульнай гісторыі архітэктуры». Да апошняга часу яна з'яўлялася першым і адзіным даследчыкам, які разгледзеў пачатак эвалюцыі культавай архітэктуры дадзенага перыяду на аснове помнікаў XVI ст. Навагрудскага і Гродзенскага замкаў, а не цэркваў абарончага тыпу канца XV — першай паловы XVI ст. [114, VI, *463—468*]. Гэта дазволіла К. Д. Квітніцкай паказаць у агульных рысах карціну эвалюцыі культавага дойлідства Беларусі XIV—XVI стст., а таксама даць больш поўнае ўяўленне пра яго навуковую і культурную каштоўнасць. У далейшым К. Д. Квітніцкая працягвала вывучаць культавую архітэктуру Беларусі. У выніку яна папоўніла аб'ём інфармацыі па шэрагу храмаў XV—XVI стст. [148, *3—12*], а таксама ўвяла ў навуковы зварот два раней невядомыя касцёлы XVI — пачатку XVII ст. [149, *79—87*].

У 50—60-я гады Інстытутам будаўніцтва і архітэктуры АН Беларусі і Беларускім політэхнічным інстытутам праведзена вялікая праца па абмерах вядомых і выяўленні новых помнікаў. У выніку шматгадовых даследаванняў У. А. Чантурыя напісаў «Гісторыю архітэктуры Беларусі», якая неаднаразова была перавыдадзена і зараз з'яўляецца добрым падмуркам для пастаноўкі і вырашэння новых гісторыка-архітэктурных праблем [254—257].

В. В. Церашчатава карэнным чынам змяніла нашы ўяўленні пра беларускі манументальны жывапіс XV—XVI стст. Даследчыца больш дэталёва ў параўнанні з А. І. Рогавым [221; 223] апісала фрэскі Блавешчанскай царквы XVI ст. Супрасльскага манастыра [253].

Вялікае значэнне для гісторыі і культуры беларускага народа мае выданне «Беларускай савецкай энцыклапедыі», «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». У гэтых фундаментальных працах прадстаўлены храмы, якія захаваліся і вядомыя ў выніку архітэктурна-археалагічных даследаванняў, што зрабіла больш даступ-

ным для спецыялістаў і шырокага кола чытачоў назапашаны па гэтых помніках матэрыял.

Разам з энцыклапедычнымі выданнямі вельмі важнай з'яўляецца таксама калектыўная праца абагульняючага характару «Гісторыя беларускага мастацтва». Адзін з яе раздзелаў прысвечаны культаваму дойлідству канца XV—XVI ст. [119, I, *156—173*]. Аўтар раздзела Т. Габрусь на аснове мастацтвазнаўчага аналізу паказала асаблівасці помнікаў гэтага перыяду.

Культавае дойлідства Беларусі прыцягвае таксама ўвагу літоўскіх вучоных. Сярод іх даследаванняў асабліва цікавымі з'яўляюцца працы А. Янкявічэне. У артыкуле «Самабытныя рысы беларускай готыкі» даследчыца паспрабавала вызначыць характэрныя для беларускай готыкі тыпы і формы храмаў, а таксама асноўныя элементы дэкаратыўнай кампазіцыі іх фасадаў [274]. А. Янкявічэне ўдакладніла і межы распаўсюджвання готыкі ва Усходняй Еўропе, адзначыла ролю беларускага, літоўскага і ўкраінскага дойлідства ў гэтым працэсе [291]. Цікавым з'яўляецца таксама яе даследаванне, прысвечанае тром праваслаўным храмам Вільні, якія захаваліся да нашага часу [273].

С. С. Абрамаўскас, В. К. Левандаўскас вывучалі Верхнюю царкву ў Гродне, якую яны датуюць другой паловай XIII ст. [80, *7*; 177, *12*]. Даследчыкі адзначылі наяўнасць у архітэктуры помніка асаблівасцей раманскага дойлідства і традыцый усходнеславянскага будаўнічага мастацтва XII ст.

Шэраг храмаў Беларусі XVI ст. (Сынковіцкая царква, кальвінскі збор у Смаргоні і інш.) разгледжаны літоўскімі вучонымі ў абагульняючай працы «Гісторыя літоўскай архітэктуры» [300].

Неабгрунтаваным з'яўляецца таксама залічэнне маскоўскім даследчыкам А. Я. Фліерам Сынковіцкага, Мураванкаўскага, Супрасльскага храмаў, Барысаглебскай царквы ў Навагрудку да помнікаў архітэктуры Літвы [249].

Польскі вучоны В. Каханоўскі на аснове шматлікіх архіўных і літаратурных крыніц зрабіў цікавае гістарычнае і архітэктурнае апісанне Супрасльскай царквы XVI ст. і прылягаючага да яе манастырскага комплексу [297]. Другі польскі гісторык — С. Александровіч выявіў невядомы малюнак С. Пахалавецкага «Аблога Полацка войскамі С. Баторыя 11—30 жніўня 1579 г.» Гэты матэрыял дазволіў яму сцвярджаць, што Полацкая Сафія была роданачальніцай чатырохвежавых храмаў Беларусі [278, *8*].

У пасляваенны час сабрана шмат навуковай інфармацыі па культаваму дойлідству Беларусі XIV—XVI стст. у працэсе архітэктурна-археалагічных даследаванняў. У 1949 г. М. М. Воронін праводзіў даследаванне Верхняй царквы на тэрыторыі Гродзенскага замка. Гэты храм быў амаль страчаны для навукі, як адзначалася вышэй, у выніку раскопак І. Ядкоўскага. Таму П. А. Рапапорт, які быў адным з удзельнікаў экспедыцыі, каб сабраць максімальную колькасць даных, вывучыў, абмераў і апісаў Верхнюю царкву, якую М. М. Воронін датаваў канцом XIV — пачаткам XV ст. [111, *183—186*].

М. К. Каргер пашырыў веды па Барысаглебскай царкве ў Навагрудку. У працэсе раскопак даследчык устанавіў, што помнік, які зараз існуе, пабудаваны ў першай палове XVI ст. на месцы невядомага храма

XII ст. П. А. Рапапорт адзначыў шэраг архітэктурна-мастацкіх асаблівасцей храма XVI ст. [216, *35—36*].

Цікавая інфармацыя была атрымана Г. В. Штыхавым пры вывучэнні Праабражэнскай царквы ў Заслаўі, якая ўзведзена, на думку вучонага, на падмурку пабудовы, што існавала раней [262, *140*].

Каштоўныя матэрыялы выявілі пецярбургскія археолагі пад кіраўніцтвам М. У. Малеўскай. Яна даследавала на тэрыторыі Навагрудскага замка падмуркі сярэдневяковага храма, які ў 30-я гады часткова раскапалі польскія вучоныя. На аснове фармату цэглы, будаўнічай тэхнікі, стратыграфіі даследчыца датавала помнік першай паловай XIV ст., а таксама адзначыла яго сувязь з усходнеславянскім дойлідствам XII — пачатку XIII ст. і архітэктурай Польшчы, Літвы [183—188].

У 70-я гады архітэктурна-археалагічным вывучэннем абарончага дойлідства Беларусі займаўся М. А. Ткачоў. Ён больш паслядоўна і лагічна, чым польскі гісторык С. Александровіч, даказаў, што першым цытадэльным храмам на беларускіх землях была Полацкая Сафія [240, *130*; 243]. У сваіх працах М. А. Ткачоў упершыню даў рознабаковую характарыстыку абарончым храмам і тым самым пашырыў уяўленне аб іх першапачатковым выглядзе [239, *180—222*; 240, *115—137*; 242, *62—87*].

Больш інтэнсіўна праходзіла вывучэнне архітэктуры Беларусі разглядаемага перыяду пасля стварэння Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў Міністэрства культуры Беларусі (зараз інстытут «Белспецпраектрэстаўрацыя»), дзе сфарміраваліся ўласныя кадры даследчыкаў.

А. А. Трусаў упершыню распрацаваў класіфікацыю і храналогію муровак, будаўнічых матэрыялаў, што з'яўляецца добрай асновай пры датаванні помнікаў і вызначэнні іх пазнейшых перабудоў [245, *243*]. Даследчык таксама правёў археалагічнае вывучэнне Барысаглебскай царквы ў Навагрудку і фары Вітаўта ў Гродне, што яму дазволіла больш поўна характарызаваць іх будаўнічую гісторыю (Архіў ін-та «Белспецпраектрэстаўрацыя». Аб'ект 122/87). Гісторык Р. Баравы апісаў [88] раней невядомы помнік XV ст.— касцёл ва Уселюбе (Навагрудскі раён).

У 1985—1989 гг. намі праведзены архітэктурна-археалагічныя даследаванні 14 храмаў XV—XVI стст. Сярод іх такія помнікі, як Уселюбскі касцёл, Мураванкаўская, Сынковіцкая цэрквы, Барысаглебскі храм у Навагрудку, касцёл у в. Гнезна (Гродзенская вобл.), Успенская царква і Петрапаўлаўскі касцёл у в. Новы Свержань (Мінская вобл.) і іншыя помнікі [49—60].

Атрыманыя звесткі дазволілі нам удакладніць першапачатковую планіровачную структуру, датаванне і будаўніча-тэхнічныя асаблівасці шэрагу помнікаў [164—176].

Такім чынам, гісторыя вывучэння культавага дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. сведчыць, што хоць да апошняга часу па гэтай тэме не было ні аднаго спецыяльнага даследавання, аднак ужо праведзена вялікая работа па выяўленні помнікаў, іх апісанні і абагульненні вядомага матэрыялу. У працах па гісторыі архітэктуры і мастацтва Беларусі прысвечаны яму раздзел падаецца даволі канспектыўна, бо помнікам даецца толькі лаканічная

архітэктурна-мастацкая характарыстыка, якая не ўтрымлівае звестак пра гісторыю іх эвалюцыі і будаўніча-тэхнічны аспект.

Гэтыя працы адлюстравалі таксама слабую вывучанасць даследчыкамі помнікаў культавага дойлідства XIII—XV стст., якія не захаваліся ці цалкам перабудаваны. Пры іх нязначнай колькасці незразумелым з'яўляецца з навуковага пункту гледжання нежаданне беларускіх гісторыкаў архітэктуры і мастацтвазнаўцаў уводзіць у агульны кантэкст беларускага дойлідства вынікі археалагічных даследаванняў храмаў XIV ст.— Навагрудскага і Гродзенскага замкаў, што абмяжоўвае магчымасці, а таксама не дазваляе больш рэльефна паказаць агульную карціну эвалюцыі культавага дойлідства Беларусі XIV—XVI стст.

2. Зак. 180

# ДА ГІСТОРЫІ КУЛЬТАВАГА ДОЙЛІДСТВА XIII ст. ПАЧАТАК СТЫЛІСТЫЧНАЙ ПЕРААРЫЕНТАЦЫІ

Архітэктура Беларусі гэтага перыяду, відавочна, у многім застанецца загадкай для даследчыкаў. Уся складанасць яе вывучэння ў тым, што калі захаваных і вядомых у выніку археалагічных раскопак помнікаў XII ст. на тэрыторыі Беларусі налічваецца 18 [219, *92—105*], то культавыя пабудовы XIII ст. адсутнічаюць. Аналагічная з'ява назіраецца і ў архітэктуры іншых усходнеславянскіх зямель, што было абумоўлена мангола-татарскім нашэсцем. Так, у Кіеўскай Русі будаўніцтва храмаў было перапынена больш чым на 200 гадоў. Ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі іх не ўзводзілі больш за сто гадоў [218, *59*]. У паўночна-ўсходняй Русі ўзвядзенне цэркваў было адноўлена толькі ў канцы XIII ст. (сабор Св. Спаса ў Цвяры) [97, *53—79*]. У Ноўгарадзе, які вёў барацьбу з Лівонскім ордэнам і Швецыяй, мураваныя храмы будавалі ў вельмі абмежаванай колькасці.

Адсутнасць культавых пабудоў XIII ст. на Беларусі ўздымае шэраг істотных пытанняў: ці не таму спынілася іх будаўніцтва, што не было яшчэ тут кваліфікаваных майстроў, а навыкі па ўзвядзенні храмаў страціліся?

Для падобных сцвярджэнняў няма падстаў па той прычыне, што дакументы, напісаныя ў Полацкай зямлі яшчэ ў дамангольскі час, як і летапісы, не захаваліся. Рускія летапісы таксама нічога не паведамляюць, і толькі некалькі фактаў з палітычнай гісторыі Полаччыны пачатку XIII ст. змяшчае Наўгародскае летапісанне. Таму важнай крыніцай па гісторыі Полацкай зямлі з'яўляецца «Хроніка Лівоніі» Генрыха Латвійскага. Аднак пасля каланізацыі ліваў, хрышчэння латгалаў, пагаднення з Полацкам крыжаносцы пачалі заваёўваць эстаў і пра Полацкую зямлю ў «Хроніцы» больш нічога не гаворыцца [82, *286*].

Звесткі пра будаўніцтва мураваных храмаў у Полацку можна знайсці ў апрацаваных А. Л. Харашкевіч граматах, якія ў XIV ст. падпісалі полацкія князі з нямецкімі гарадамі. З гэтых дакументаў вядомы тры храмы: Св. Сафіі з капліцай Св. Тройцы, Іаана Прадцечы і Св. Спаса, а таксама манастыры: Барысаглебскі ў Бельчыцах, Пятроўскі на Верхнім замку, заснаваны князем Міхаілам у 1235 г., Мікалаеўскі на Лучне, Міхайлаўскі за р. Палатай, Васкрасенскі на Ніжнім замку, Троіцкі і Св. Спаса на гандлёвым двары, Казьмадзям'янаўскі за р. Палатай, Багародзіцкі, Праабражэння, Георгіеўскі ў Полі, Пятніцкі на р. Бельчыцы.

Большасць гэтых манастыроў, як лічыць А. Л. Харашкевіч, заснаваны ў XII—XIII стст. [251, V, *121*]. Некаторыя з іх, відаць, мелі мураваныя храмы, што былі ўзведзены ў XIII ст. У гэты час іх цяжка было будаваць так шмат, як у папярэдні перыяд, што тлумачыцца складаным палітычным становішчам: у XIII ст. Полацк стрымліваў пад сваімі сценамі наступленне крыжакоў на ўсходнеславянскія землі [82, *292*]. Ваеннае супрацьстаянне назіралася і ў Прынямонні, дзе ў другой палове XIII ст. вялі

паміж сабой барацьбу літоўскія і галіцка-валынскія князі за валоданне тутэйшымі землямі.

У такіх складаных палітычных умовах узровень развіцця прадукцыйных сіл беларускіх зямель не мог адначасова задаволіць патрэбы вядзення паспяховай барацьбы са знешнімі ворагамі і будаўніцтва каменных храмаў у ранейшых маштабах, хоць у гэты час дастаткова паспяхова развіваліся сельская гаспадарка, промыслы, рамёствы [111, *200*; 130, *222*; 129, *145, 154*; 264, *142—144*]. Гэта дазволіла гарадам Полацкай зямлі (Полацк, Віцебск) устанавіць у XIII ст. шырокія знешнія сувязі з Ноўгарадам, Псковам, Рыгай, Готландам і Ганзейскім саюзам [93, *91*; 196, *329—330*; 197, *32—42*; 236, *162—170*].

У сваю чаргу гарады Панямоння (Навагрудак, Гродна і інш.), што знаходзіліся пад моцным уплывам Галіцка-Валынскага княства, гандлявалі з Венгрыяй, Польшчай і Прыбалтыкай [128, 130]. Беларускія купцы, вандроўнікі не толькі абменьваліся таварамі, але і знаёміліся ў гарадах Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы з мураванымі пабудовамі, правіламі іх узвядзення. У беларускія гарады прыбывалі разам з замежнымі купцамі, напэўна, і майстры-муляры. Такія кантакты садзейнічалі пранікненню архітэктурна-будаўнічых прыёмаў у беларускія землі з еўрапейскіх краін.

Вялікую цікавасць уяўляе касцёл, узведзены ў XIII ст. нямецкімі купцамі ў Полацку, якія тут заснавалі таксама і сваю кантору [284, *108, 226*]. Для больш дакладнага яго датавання і вызначэння ўжытага будаўнічага матэрыялу трэба звярнуць увагу на аналагічныя пабудовы ў Ноўгарадзе і Смаленску. Яны тут былі ўзведзены толькі пасля пагадненняў, якія забяспечвалі нямецкім купцам свабоду і бяспеку гандлю. Напрыклад, у Ноўгарадзе імі пабудаваны мураваны храм толькі пасля пагаднення 1189 г. [290, *38*].

Выяўлены ў Смаленску касцёл П. А. Рапапорт па фармату цэглы датаваў 70—80-мі гадамі XII ст. [113, *149—150*; 219, *87*]. Аднак прафесар гісторыі Страсбургскага універсітэта Ф. Долінгер, які напісаў змястоўную і арыгінальную працу па гісторыі Ганзы, сцвярджае, што яго ўзвялі толькі пасля заключэння ў 1212 г. пагаднення з Полацкам. Гэта дазволіла нямецкім купцам, на яго думку, спачатку дабрацца да Віцебска, а затым да Смаленска, дзе яны заснавалі канторы і пабудавалі касцёл [284, *39*]. Гэты храм упамінаецца ў дагаворы 1219 г. Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам, значыць, яго ўзвялі ў першай чвэрці XIII ст. Тым больш што ў другой палове XIII ст. нямецкія купцы не наведвалі Смаленск [284, *42*], а праз Полацкую зямлю іх не прапускалі ў канцы XII — пачатку XIII ст. [82, *286*]. Да таго ж храм у Смаленку, відавочна, не быў пабудаваны раней заснавання Рыгі, якая з'яўлялася апорным пунктам іх гандлю па Дзвіне з усходнеславянскімі землямі [284, *40*].

У сувязі з гэтым даволі лагічным выглядае сцвярджэнне, што касцёл нямецкіх купцоў у Полацку ўзведзены, напэўна, у першай палове XIII ст., бо гэты горад іх цікавіў не менш, чым Ноўгарад і Смаленск. Таму і ў Полацку нямецкі храм быў хутчэй за ўсё мураваным. Ускосным пацвярджэннем таму з'яўляецца таксама прафесійная спецыфіка заказчыка, які выкарыстоўваў гэты касцёл, напэўна, не

толькі для захоўвання каштоўнага царкоўнага і ўласнага інвентару, але і тавару.

Не выключана, што касцёл у Полацку, як і ў Смаленску, уяўляў сабою ратонду. Магчыма, гэта было аднаслуповае збудаванне, дастаткова распаўсюджанае ў архітэктуры XI—XIII стст. Скандынавіі, Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы [307, *10—12*].

Храм у Полацку таксама быў узведзены пад кіраўніцтвам іншаземнага дойліда, бо ён добра ведаў будаўнічыя традыцыі і тыпы пабудоў, якія выкарыстаны пры ўзвядзенні манументальных пабудоў па заказу нямецкіх купцоў, у прыватнасці ў Прыбалтыцы [252, *112*]. Таму касцёл у Полацку не быў выключэннем. Яго пабудавалі, як і ў Смаленску, хутчэй за ўсё з плінфы мясцовыя майстры [113, *150*], якія мелі багаты вопыт па яе вытворчасці і выкарыстанні.

Цікавым для дойлідства Беларусі дадзенага перыяду з'яўляецца **храм з бакавымі апсідамі Бельчыцкага манастыра** ў Полацку. План храма моцна выцягнуты ў даўжыню з чатырма шырока расстаўленымі падкупальнымі слупамі. З



*1. Храм з бакавымі апсідамі Бельчыцкага манастыра ў Полацку. План*

усходу помнік заканчваўся паўкруглай апсідай. Яна па шырыні раўнялася галоўнаму нефу. Да цэнтральнай часткі бакавых фасадаў прымыкалі адкрытыя ўнутр паўкруглыя выступы, якія, напэўна, былі прарэзаны дзвярнымі праёмамі. Галоўны ўваход зроблены ў тоўшчы заходняй сцяны. Пры будаўніцтве храма была ўжыта плінфа. У рошчыне прасочваліся дамешкі тоўчанай цэглы. Сярэдзіна сцен была запоўнена валунамі. П. А. Рапапорт лічыў, што ён узведзены ў XII—XIII стст. [219, *99*]. А. М. Паўлінаў, які агледзеў рэшткі храма і апісаў мураўку, датаваў яго XII ст. [205, *12*]. Аналагічны помнік выявіў у 1959 г. В. А. Багусевіч на дзядзінцы Пуціўля і датаваў яго канцом XII ст. [96, *168*].

Б. А. Рыбакоў правёў кантрольныя раскопкі гэтага храма і вызначыў, што яго пабудавалі ў першай чвэрці XIII ст. [225, *154—156*]. Таму не выключана, што царква з бакавымі апсідамі ў Полацку ўзведзена ў канцы XII — першай палове XIII ст. Запазычаны гэты тып пабудовы з архітэктуры балканскіх краін — Афона, Балгарыі, Румыніі і асабліва Сербіі [112, *104*], дзе быў вельмі распаўсюджаны ў царкоўным дойлідстве XI—XVII стст.

У XIII ст. даволі актыўнае мураванае будаўніцтва было распачата ў заходнебеларускіх землях. У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца пра ўзвядзенне ў другой палове XIII ст. у Гродне, Камянцы, Брэсце **вежаў валынскага тыпу** [143, *878, 925, 927*]. У гэты перыяд яны былі таксама пабудаваны ў Навагрудку, Тураве. У пачатку XIV ст. аналагічная вежа з'явілася і ў Полацку [241, *327—329*]. У XIII ст. вежы валынскага тыпу былі асноўным відам манументальнага дой-

лідства Беларусі. Значная іх колькасць сведчыць пра наяўнасць кваліфікаваных майстроў-муляроў на беларускіх землях, зближэнне іх архітэктуры з заходнееўрапейскай.

Тут яшчэ важна ўлічваць, што крапасныя збудаванні, як устанавіў У. У. Костачкін, узводзілі не якія-небудзь асобныя спецыялісты, а тыя ж дойліды, што будавалі храмы [163, *6*]. Гэта яшчэ больш пераканаўча выглядае, калі ўлічыць, што ў Іпацьеўскім летапісе адзначана сінхроннае будаўніцтва валынскім князем Уладзімірам Васількавічам вежы і Благавешчанскай царквы ў Камянцы, а ў Брэсце — храма Св. Пятра. Вось што пра гэта гаворыцца: «Создание въ нем (Камянцы) столпъ Каменъ высотою 16 саженен судивленію всъе зрящим нань, и црквъ постави Благовещеніа стна Бца...» [143, *925*]. Благавешчанская царква ў Камянцы стаяла на пагорку, які пасля яе разбурэння стаў называцца Кладучай гарой [206, *9*]. Пра ўзвядзенне аналагічных пабудоў у Брэсце сказана так: «В Берестї же създа стявнъ каменъ высотою яко и Каменецкый, поставиж и црквъ стго Петра» [143, *927*]. Відаць, знішчаны і падмуркі храма Св. Пятра ў Брэсце пры будаўніцтве крэпасці ў 30—40-х гадах XIX ст.

Гэтыя цэрквы ўзведзены, напэўна, з такой жа цэглы (26,5×13,5×8 см), што і Камянецкая вежа. Аналагічнага фармату цэгла выяўлена П. Ф. Лысенкам ў слоі XIII ст. пры раскопках дзядзінца ў Тураве і Брэсце [245, *103*]. Да таго ж на Валыні ў другой палове XIII ст. яе ўжо выкарыстоўвалі замест плінфы [220, *27*].

На аснове тэхнікі муроўкі помнікаў другой паловы XIII — пачатку XIV ст., якія захаваліся ці вядомы ў выніку раскопак (Камянецкая вежа, Георгіеўскі храм у Любомлі, Дзмітрыеўская і Пакроўская цэрквы ў Луцку) [184, *355*], можна сцвярджаць, што храмы ў Камянцы і Брэсце былі пабудаваны ў вендскай (балтыйскай) сістэме перавязкі швоў.

Не выключана, што царква Св. Пятра ў Брэсце з'яўлялася крыжова-купальнай пабудовай з трыма апсідамі. Яна паказана на рэканструкцыі П. Ф. Лысенкі старажытнага дзядзінца Бярэсця [173, *387*].

У Іпацьеўскім летапісе таксама паведамляецца пра заснаванне князем Войшалкам манастыра «на Немне межи Литвою и Новогрудком» [149, *496, 519*], дзе зараз знаходзіцца сучасная в. Лаўрышава (Гродзенская вобл.) [136, *374*]. Там ім была ўзведзена Уваскрасенская царква.

У 1988 г. мы планавалі яе выявіць. У працэсе археалагічных даследаванняў расчышчаны толькі падмуркі з валуноў драўлянай царквы XIX ст., што была разбурана ў першую сусветную вайну. Сцвярджаць пра будаўніцтва ў XIII ст. у Лаўрышаве мураванага храма ў нас пакуль няма падстаў, паколькі не знойдзены не толькі яго рэшткі, а нават цэгла і праслойкі будаўнічага смецця таго часу.

Узвядзенне ў сярэдзіне — другой палове XIII ст. мураваных абарончых і культавых пабудоў у заходніх землях Беларусі было заканамернай з'явай, бо ў гэты час на тэрыторыі былых Гродзенскага, Навагрудскага, Берасцейскага, Тураўскага княстваў назіраецца хоць і кароткачасовы, але яркі эканамічны і культурны росквіт гарадоў [241, *330*].

Не даводзіцца таксама сумнявацца, што ў XIII ст. на беларускіх

землях акрамя ўзвядзення пералічаных вышэй пабудоў праводзілі рамонты ўжо існуючых. Роля гэтых рамонтаў была вельмі вялікай, бо яны садзейнічалі захаванню навыкаў, тэхнічнай пераемнасці і назапашванню будаўнічых ведаў [92, *6*].

Такім чынам, у XIII ст. працягвала развівацца культавае дойлідства Беларусі, хоць нашы даныя сведчаць пра нязначную колькасць храмаў гэтага часу. Аднак не выключана, што акрамя вышэйназваных былі пабудаваны і іншыя помнікі, пра якія ў нас зараз няма звестак. Магчыма, яны не трапілі на старонкі таго ж Іпацьеўскага летапісу, а затым у хуткім часе пасля будаўніцтва іх маглі разбурыць, што не дазволіла зафіксаваць гэтыя цэрквы ў больш позніх пісьмовых крыніцах.

Для эвалюцыі культавага дойлідства Беларусі XIII ст., як сведчаць даследаванні гісторыкаў і археолагаў [128; 179; 193; 194; 233; 248; 261], у наяўнасці былі асноўныя эканамічныя перадумовы: рост эканамічнай магутнасці гарадоў, развіццё рамяства, гандлёвыя сувязі з краінамі Еўропы, дзе ў XIII ст. высокага ўзроўню дасягнула манументальнае дойлідства. Еўрапейскі архітэктурны фон з'яўляўся творчым імпульсам для развіцця беларускага дойлідства, бо «шырыня сувязей з іншымі высокакультурнымі краінамі з'яўляецца вельмі спрыяльным фактарам для эвалюцыі ўласнай культуры» [238, *445*].

Такія сувязі садзейнічалі стылістычнай пераарыентацыі архітэктуры Беларусі, якая пачалася ў другой палове XIII ст., пра што сведчыць ужыванне такіх рамана-гатычных элементаў, як крыжовыя скляпенні, брусочная цэгла, вендская (балтыйская) тэхніка муроўкі, вапнава-пясчаная рошчына.

## КУЛЬТАВАЕ ДОЙЛІДСТВА XIV ст. ПРАЦЯГ РАСПАЎСЮДЖВАННЯ ГОТЫКІ

Новы этап у развіцці культавай архітэктуры Беларусі пачаўся ў XIV ст. Пытанні яе генезісу, асноўных уласцівасцей, маштабаў будаўніцтва з'яўляюцца самымі складанымі. Прычына гэтаму — дрэнная захаванасць помнікаў.

Найбольш раннія помнікі культавага дойлідства XIV ст. прадстаўлены праваслаўнымі храмамі, што абумоўлена спецыфікай распаўсюджвання хрысціянства ў межах разглядаемага рэгіёну. Увядзенне праваслаўя пачалося на беларускіх землях яшчэ ў канцы X ст. пад час хрышчэння Русі. У XIV—XVI стст. яно з'яўлялася адной з асноўных рэлігій на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. У першай палове XVI ст. у Вільні праваслаўныя цэрквы па колькасці пераважалі над касцёламі [162, *34, 36—57*]. У Навагрудку ў сярэдзіне XVI ст., напрыклад, быў адзін касцёл і дзесяць цэркваў [125, *458*].

Пасля заключэння ў 1385 г. Крэўскай уніі пачалося актыўнае будаўніцтва касцёлаў. Так, у апошняй чвэрці XIV ст. Ягайла заснаваў касцёлы ў Абольцах (1387), Крэве (1387), Быстрыцы (1390), Навагрудку (1393), Ашмянах



*2. Стары замак у Гродне. Рэшткі Верхняй царквы. Агульны выгляд. Фота 1939 г.*

(1398) [315, *59—63*]. Відавочна, большасць гэтых храмаў былі драўлянымі і не захаваліся.

Адзін з вядомых мураваных помнікаў гэтага перыяду — **Верхняя царква** ў Гродне. І. Ядкоўскі датаваў яе сярэдзінай XIII ст. [300, *14*]. Я. Вайцяхоўскі час будаўніцтва помніка таксама вызначыў сярэдзінай XIII ст. [333, *130*]. З. Дурчэўскі лічыў, што царква ўзведзена ў XIII ст. [285, *4*]. Вынікі вывучэння фармату цэглы, рошчыны, тэхнікі муроўкі дазволілі літоўскаму вучонаму В. К. Левандаўскасу сцвярджаць, што помнік пабудаваны ў сярэдзіне — другой палове XIII ст. [178, *16*]. Беларускі археолаг А. А. Трусаў на аснове аналізу будаўнічага матэрыялу Верхняй царквы прыйшоў да высновы, што яна ўзведзена ў канцы XIII — пачатку XIV ст. [252, *50*]. М. М. Варонін датаваў гэты храм канцом XIV — пачаткам XV ст. [111, *183*]. Адным з асноўных яго аргументаў на карысць прапанаванага ім датавання з'яўляецца ўзровень падлогі храма, якая ляжыць, паводле сцвярджэння даследчыка, на 0,5 м вышэй адносна выбрукоўкі часоў Вітаўта [111, *183*]. У дадзеным выпадку М. М. Варонін сам сабе супярэчыць. Так, ён піша, што вакол помніка была парушана стратыграфія [111, *19*], аднак карыстаецца яе данымі. Верхняя царква да таго часу была перанесена па частках у пабудаваны для яе захавання павільён. Немагчыма адназначна прымаць яго датаванне адносна гэтай выбрукоўкі яшчэ і таму, што невядома, як яна прымыкала да падмурка храма. Звычайна для куль-

тавых пабудоў выбіралася высокая кропка рэльефу і таму выбрукоўка магла ляжаць пад нахілам адносна сцен храма. Не выключана, што ўзровень падлогі быў прыўзняты адносна дзённай паверхні зямлі таго часу пры будаўніцтве Верхняй царквы.

Выклікае сумненні таксама аргументацыя датавання на аснове рознавачасовых знаходак, выяўленых, як адзначае М. М. Варонін, у яме пад гэтым храмам. У ёй знойдзены кавалак донца шклянога сасуда з хвалістым краем, фрагменты галаснікоў і плінфы, брусочная цэгла, каменныя ядры, гаршковая кафля і дымленая кераміка [111, *182*]. Аднак дымленая кераміка ў XIV ст. не выраблялася на беларускіх землях, што яшчэ раз сведчыць пра супярэчлівасць яго вывадаў.

З усходу Ніжнюю царкву, на месцы якой была ўзведзена Верхняя, часткова перакрываў слой пажару. Яго М. М. Варонін, хоць і з вялікай асцярогай, датуе на аснове знаходкі ў гэтым жа слоі брусочнай цэглы 1393 ці 1398 г. [111, *160*]. Але гэтая цэгла магла ўжывацца і ў першай палове XIV ст.

Пагадзіцца з прапанаванай М. М. Варонінам датай пабудовы Верхняй царквы не дазваляе таксама яе вялікапамерная цэгла, якая не супадае па фармату (27—28×12—13×8,5 см) з цэглай замка Вітаўта канца XIV — пачатку XV ст. Непраўдападобным з'яўляецца ў яго трактоўцы будаўніцтва ў канцы XIV — пачатку XV ст. у замку Вітаўта мураванага праваслаўнага храма, а на тэрыторыі пасада — драўлянага касцёла, вядомага пад назвай фара Вітаўта.

Таму пры вызначэнні дакладнай даты ўзвядзення помніка трэба кіравацца ў першую чаргу вынікамі аналізу яго планіровачнай структуры, будаўнічай тэхнікі, а таксама матэрыялу, з якога ён узведзены. Адначасова трэба крытычна ставіцца да прапанаваных М. М. Варонінам даных стратыграфіі.

План Верхняй царквы квадратнай формы (8,9×8,8 м), з усходу заканчваецца паўкруглай апсідай. Вуглы моцна скошаны, што з'яўляецца адной з рыс гродзенскай архітэктурнай школы XII ст. Сцены рознай таўшчыні маюць лускавую канструкцыю, пабудаваны ў тэхніцы муроўкі, для якой характэрны розная таўшчыня швоў (1—5 см) і іх няправільная перавязка [111, *185*]. Гэтая муроўка не адпавядае сапраўднаму ўзроўню развіцця будаўнічай тэхнікі беларускіх земель у канцы XIV — пачатку XV ст., таму што ўжо к сярэдзіне XIV ст. тэхніка муроўкі была ўдасканалена і стала правільнай ланцужковай [178, *29*].

Пабудавана Верхняя царква з плінфы (28—29×17—20×4,5—6 см), якая адрозніваецца памерамі ад прасочанай у муроўцы сцен Ніжняга храма (25—26,5×15×3,5—4 см). Гэта сведчыць аб тым, што паміж разбурэннем Ніжняй і будаўніцтвам Верхняй царквы ляжыць значны прамежак часу, бо плінфа не была паўторна выкарыстана. Па фармату (29,5—31×18—20×4,5 см) яна блізкая да плінфы церама Гродзенскага замка.

Такім чынам, для будаўніцтва Верхняй царквы плінфа была, напэўна, узята з развалін невядомага нам помніка, паколькі ў другой палове XIII ст. ужо выкарыстоўвалі буйнапамерную цэглу.

Пры ўзвядзенні Верхняй царквы была ўжыта таксама цэгла (30—31×15—16×7—8,5 см). Амаль аналагічнай таўшчыні (7—9 см) цэглу

выраблялі ў Літве ў XIII — першай палове XIV ст. [175, *11*]. Прыкладна такіх жа памераў цэгла знахозіцца ў сценах Крэўскага і Лідскага замкаў [245, *50*].

У муроўку сцен Верхняй царквы былі пакладзены для ўпрыгожання фасадаў камяні з шліфаванай паверхняй, якія не ўсюды выступаюць вонкі гэтай паверхняй. Аднак у такім размяшчэнні валуноў усё ж бачна тыпалагічная прыкмета гродзенскай архітэктурнай школы XII ст. Таму цяжка пагадзіцца са сцвярджэннем М. М. Вароніна, што гэтыя валуны выкарыстаны толькі ў якасці будаўнічага матэрыялу.

Сцены Верхняй царквы, як і падмуркі, што складзены з двухтрох радоў валуноў, пабудаваны з ужываннем вельмі тлустай рошчыны. Яна падрыхтавана з вапны, змешанай з напаўняльнікамі ў адносінах 1 : 0,3—1 : 0,4. У сярэднім напаўняльнік змяшчае 52% тоўчанай цэглы [176, *11*]. Яе наяўнасць у рошчыне сведчыць пра ўплыў на архітэктуру храма традыцый усходнеславянскага дойлідства XII ст.

У архітэктуры Верхняй царквы шмат мастацкіх і тэхнічных рыс, характэрных для культавага дойлідства Гродна XII ст., якія сведчаць пра больш раннія, чым канец XIV — пачатак XV ст., храналагічныя рамкі будаўніцтва помніка. На аснове сукупнасці даных, атрыманых пры аналізе тэхнікі муроўкі, складу рошчыны, фармату цэглы, асаблівасцей канфігурацыі плана, даных стратыграфіі, можна сцвярджаць, што найбольш верагодным часам узвядзення Верхняй царквы з'яўляецца канец XIII — першая палова XIV ст. Гэтаму не супярэчаць знаходкі XIII ст., выяўленыя пад ёй у пахаваннях [111, *179—181*].

У адпаведнасці з першапачатковай планіровачнай структурай помніка гэта было аднанефавае з адной апсідай збудаванне. Калі звярнуцца да яго далейшай будаўнічай гісторыі, то ў другой палове XIV — пачатку XV ст. у інтэр'еры былі пабудаваны слупы [111, *185*]. Вялікую цікавасць выклікае іх размяшчэнне перад алтарнай часткай. Тут яны пастаўлены таму, што дойліды, відаць, не змаглі ўзвесці аднапралётную арку, якая несла б часткова нагрузку скляпенняў асноўнага аб'ёму і апсіды, а таксама завяршэнне ўсходняга фасада.

Унутраная прастора царквы была перакрыта, як сведчаць вынікі даследаванняў помнікаў XIII—XIV стст. (Камянецкая вежа, грамадзянская пабудова сярэдзіны—другой паловы XIV ст. Навагрудскага замка, паўночна-ўсходняя вежа другой паловы XIV — пачатку XV ст. Лідскага замка), крыжовымі скляпеннямі. Гэтыя аналогіі дазваляюць сцвярджаць, што нервюры скляпенняў былі зроблены з цэглы стрэлападобнай формы. Вялікая колькасць гэтай цэглы выяўлена М. М. Вароніным вакол месцазнаходжання Верхняй царквы [111, *186*].

Для больш поўнай характарыстыкі помніка варта разгледзець дзве яго рэканструкцыі. Першая вядомая нам рэканструкцыя храма захоўваецца ў фондах Гродзенскага абласнога гісторыка-археалагічнага музея. Выканана яна ў 1938 г. памочнікам З. Дурчэўскага архітэктарам Т. Андрэячэкам, які пры яе распрацоўцы зрабіў шэраг значных памылак. У яго рэканструкцыі адразу звяртае ўвагу вялікіх памераў барабан і купал сферычнай формы, цяжар і распор якіх сцены храма не вытрымалі б пры такой

тэхніцы муроўкі і магутнасці падмуркаў. Вельмі нелагічным з'яўляецца таксама размяшчэнне хораў на слупах, якія павінны былі падтрымліваць скляпенні.

Больш рэальнай з'яўляецца рэканструкцыя Верхняй царквы А. А. Трусава [245, *51*]. Праўда, у ёй таксама насцярожвае шэраг момантаў. Па-першае, незразумелым з'яўляецца моцны выступ у завяршэнні заходняй сцяны, асноўная частка якога звычайна знаходзіцца пад дахам. Па рэканструкцыі атрымліваецца, што ўнутраная паверхня франтона і заходняй сцяны былі роўнымі. Па-другое, пры невялікіх памерах храма непраўдападобным выглядае вялікая колькасць вокнаў на заходнім фасадзе. Не адпавядае рэчаіснасці і адсутнасць вокнаў у апсідзе. На рэканструкцыі варта было б пазначыць цокаль, які ў аснове сцен прасачыў М. М. Варонін [111, *184*].




*3. Верхняя царква ў Гродне. 1 — рэканструкцыя Т. Андрэячэка; 2 — рэканструкцыя А. Трусава*

Рэканструкцыю Верхняй царквы спрабаваў зрабіць і аўтар, аднак пераканаўся, што яна, як і дзве папярэднія, не будзе пазбаўлена вялікай долі гіпатэтычнасці, бо пры такім плане храма не хапае аргументаў для праўдападобнай рэканструкцыі завяршэння яго аб'ёмнай кампазіцыі.

У першай палове XIV ст. была пабудавана **царква Навагрудскага замка.** План яе асноўнага аб'ёму амаль квадратнай формы ($12{,}2\times\times13$ м). З усходу храм заканчваўся паўкруглай апсідай, з захаду да яго прымыкаў прытвор, адкрыты на ўсю шырыню ўнутр помніка. Гэтаму прытвору па шырыні адпавядалі невялікія выступы на паўднёвым і паўночным фасадах. Першапачаткова царква была бясстоўпнай.

Рэшткі сцен усходняй часткі храма збудаваны ў вендскай, а заходняя сцяна і прытвор — у гатычнай тэхніцы муроўкі, характэрнай для беларускага дойлідства другой паловы XIV—XV ст. Ужыта цэгла з канаўкамі, а таксама з гладкай паверхняй ($27-28\times12-13\times7-8$ см), якая змацавана вапнава-пясчанай рошчынай. Вуглы прытвора і адпаведных яму бакавых выступаў на паўночным і паўднёвым фасадах

былі зроблены з блокаў жоўта-зялёнага вапняковага туфа, якія з'яўляюцца канструкцыйнай і дэкаратыўнай асаблівасцю муроўкі сцен. Гэтыя блокі ў спалучэнні з чырвонай цэглай надалі фасадам помніка своеасаблівы жывапісны эфект. Па перыметры царквы ўнутры сцен былі пакладзены драўляныя брусы,



*4. Царква ў Навагрудскім замку. План (паводле М. Малеўскай). 1 — першапачатковы (пачатак XIV ст.); 2 — пасля перабудовы (другая палова XIV ст.)*

ад якіх у аснове сцен захаваліся пазы квадратнага сячэння (35×38 см). Падмурак магутнасцю каля 2 м зроблены з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне [186, *354—355*; 188, *391—392*].

У сярэдзіне — другой палове XIV ст. праведзена рэканструкцыя інтэр'ера царквы. Збудавалі чатыры крыжападобныя ў плане слупы, якія, напэўна, неслі барабан з купалам, узвялі паўночна-ўсходні прытвор і высцелілі падлогу з цэглы. Слупы зрабілі з брусочнай цэглы (29—30×14—14,5×7—8 см), а таксама квадратнай (28—38×29—38×7—8 см) і фігурнай з адным закругленым вуглом. Унутраную прастору перакрылі гатычнымі скляпеннямі [183, *122*].

Атрыманыя пецярбургскім даследчыкам М. У. Малеўскай звесткі ў выніку раскопак дазволілі ёй рэканструяваць храм у выглядзе цэнтрычнага аб'ёму, завершанага барабанам з глаўкай і абкружанага больш нізкімі ў адносінах да яго апсідай, заходнім прытворам і бакавымі выступамі. Такая аб'ёмная кампазіцыя характэрная для шэрагу смаленскіх і полацкіх храмаў XII ст., якія мелі адкрытыя ўнутр прытворы [183, *122—123*; 184, *92—97*].

У літаратуры XIX ст. выяўленая ў Навагрудку царква вядома пад назвай **Св. Багародзіцы.** У канцы XV—XVI ст. яе павялічылі ва ўсходнім кірунку. Прыкладна ў той час да яе з паўночнага боку зрабілі прыбудову. У другой палове XVII ст. гэты храм быў прыстасаваны пад касцёл. Тады разбурылі яго заходнюю частку і ў гэтым месцы зрабілі прыбудову. Пасля ўсіх пераробак даўжыня помніка склала 34 м пры ранейшай шырыні 13,5 м. У канцы XVII — пачатку XVIII ст. былі пабудаваны дадатковыя памяшканні на яго паўднёва-ўсходнім вугле.

У гэтым храме да 1775 г. праходзілі сесіі вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага княства Літоўскага [139, *267*].

У XIV ст. таксама ўзводзілі храмы ў традыцыйных цэнтрах манументальнага дойлідства ўсходняй часткі Беларусі. Так, у сярэдзіне — другой палове XIV ст. у Полацку былі заснаваны Троіцкі і Іаана Прадцечы манастыры [251, I, *42, 45*]. К канцу стагоддзя апошні з іх стаў вельмі заможным і адыгрываў важную ролю ў палітычным і сацыяльным жыцці горада [251, I, *121*]. Не выключана, што адначасова на тэрыторыі гэтых манастыроў былі пабудаваны мураваныя храмы.




*5. Схематычны план розначасовых культавых пабудоў на дзядзінцы Навагрудка (паводле М. Малеўскай). 1 — царква пачатку XIV ст.; 2 — перабудова другой паловы XIV ст.; 3 — павелічэнне царквы ва ўсходнім накірунку ў канцы XV ці XVI ст.; 4 — пашырэнне царквы ў заходнім накірунку ў сярэдзіне XVII ст.; 5 — пайночная прыбудова XVI ст.; 6 — пайднёва-ўсходнія прыбудовы канца XVII — пачатку XVIII ст.*

У першай палове XIV ст. на сродкі жонкі вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Альгерда княгіні Ульяны была пастаўлена мураваная **царква Св. Духа** ў Віцебску [179, *196*]. М. Стрыйкоўскі адзначае, што Альгерд «дзве царквы ў Віцебску пабудаваў па грэчаскаму звычаю, як я сам бачыў: адну — у Ніжнім замку, другую — у полі, за ручаём ці замкавым ровам» [327, *14*], але іх не называе. А. Сапуноў меркаваў, што царква ў Ніжнім замку — гэта Благавешчанскі храм, а царква за ручаём — Св. Духа [229, *15*; 230, *5*].

Зараз дакладна вядома, што Альгерд не ўзводзіў культавай пабудовы на тэрыторыі Ніжняга замка ў Віцебску, а толькі правёў значны рамонт Благавешчанскай царквы. А. М. Паўлінаў і М. М. Шчакаціхін высветлілі, што скляпенні, якія яе перакрывалі, зроблены ў XIV ст. [205, *5*; 266, *114*]. Гэта зафіксаваў Г. В. Штыхаў у раскопах, закладзеных побач з паўднёвым фасадам храма. На глыбіні каля 2 м даследчык прасачыў праслойку старажытных будаўнічых матэрыялаў (фрагменты плінфы, кавалкі вапны, тынкоўкі з фрэскамі), што ўтварылася ў другой палове XIV ст. у выніку разбурэння прытвора царк-



*6. Пятніцкая царква ў Вільні. Малюнак І. Трутнева. 1807 г.*

вы і яе грунтоўнай перабудовы [264, *39*].

А. М. Паўлінаў таксама лічыў, што царква за ручаём, пра якую пісаў М. Стрыйкоўскі,— гэта Святадухаўскі храм і пабудаваны ён у XIV ст. [205, *67*]. У 1661 г. быў праведзены яго рамонт [179, *195, 200*]. Уяўленне пра знешні выгляд царквы, хоць і даволі ўмоўнае, можна атрымаць з «Чарцяжа» г. Віцебска 1664 г. Бачна, што яна мела план крыжападобнай формы. Яе аб'ёмную кампазіцыю завяршала пяць главак. Да асноўнай часткі прымыкалі з усходу апсіда, а з захаду прытвор. Па баках апсіды стаялі два прытворы, якія завяршаліся шатром канічнай формы, светлавым барабанам і глаўкай з крыжам [271, *71*]. У першай палове XVII ст. царква была перададзена уніятам. У 1687 г. пры Святадухаўскім храме заснаваны базыльянскі кляштар [228, *175*].




*7. Пятніцкая царква ў Вільні. План і знешні выгляд. Выканаў паручнік Смалякоўскі. 1841 г.*



*8. Пятніцкая царква ў Вільні. Унутраны выгляд. Выканаў паручнік Смалякоўскі. 1841 г.*

У 1986 г. В. М. Ляўко правяла яго архітэктурна-археалагічнае даследаванне. У працэсе гэтых работ выяўлены рэшткі храма і жыллёвага корпуса XVII—XVIII стст. Аднак не выключана, што падмуркі з валуноў у шурфах 1—2 [61, *43*] належалі да больш ранняй царквы.

У XIV ст. даволі інтэнсіўнае бу-




*9. Праект рэканструкцыі Пятніцкай царквы ў Вільні. Сярэдзіна XIX ст.*

даўніцтва праваслаўных храмаў вялося ў Вільні. У 1345—1346 гг. па загаду княгіні Марыі Віцебскай, першай жонкі Альгерда, была ўзведзена мураваная **Пятніцкая царква** [127, *9*; 161, *152*; 162, *19*]. У 1557 г. яе моцна пашкодзіў пажар [84, *223*]. Па сведчанні нямецкіх купцоў, якія прыбылі ў Вільню ў 1587 г., яна мела хоры і была падобная на кіеўскія і наўгародскія храмы [127, *9*]. Не выключана, што тады гэты помнік у асноўным захоўваў першапачатковы выгляд. У 1610 г. ён яшчэ раз гарэў і толькі ў пачатку XVIII ст. (паміж 1700 і 1702 гг.) быў адноўлены [69, IX, *224*].

У XIX ст. Пятніцкая царква аказалася ў запусценні і к 1864 г. ад яе засталася толькі адна сцяна. У 1874 г. быў пабудаваны новы храм [160, *152*], які захаваўся да нашага часу. У 1986—1988 гг. яго рэстаўрыравалі, аднак пры гэтым не было праведзена архітэктурна-археалагічнае даследаванне помніка.

Не меншую цікавасць уяўляе таксама **Мікалаеўская царква,** якую ўзвялі ў Вільні ў другой палове XIV ст. на сродкі другой жонкі Альгерда княгіні Ульяны. У першай палове XVI ст. яе моцна перабудавалі [162, *24*]. Да апошняга часу не праведзена архітэктурна-археалагічнага даследавання помніка, не выяўлена яго апісанняў. Таму пра архітэктуру храма XIV ст. зараз цяжка разважаць.

Мураваным помнікам першай паловы XIV ст. з'яўляецца, напэўна,

і **Прачысценская** царква ў Вільні, пабудаваная па загаду вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Альгерда [91, *84*].

Летапісы сведчаць, што ў другой палове XIV ст. па волі князя Вітаўта была ўзведзена **Благавешчанская царква ў Троках** [100, *154*]. У XIV ст. тут была пабудавана таксама мураваная **царква Прачыстай Багародзіцы,** пры якой дзейнічаў праваслаўны манастыр. У другой палове XVI ст. яна прыйшла ў запусценне. У 1702 г. прасочвалі толькі рэшткі сцен царквы [235, *102—103*], якія былі моцна пашкоджаны ў 1981 г. пры пракладцы газаправода. Падмуркі храма ў гэты час даследаваў археолаг Інстытута праектавання кансервацыі помнікаў Літоўскай Рэспубліке С. Паткаўскас. Дрэнная іх захаванасць дазволіла даследчыку вызначыць толькі агульныя памеры царквы (11×18 м). Ім было таксама ўстаноўлена, што яе збудавалі з цэглы (26,5—27×12—13×8,5 см), якая мае канаўкі, на вапнава-пясчанай рошчыне. Улічваючы фармат цэглы і засноўваючыся на літаратурных крыніцах, С. Паткаўскас датуе гэты помнік XIV ст. [78, *5*].

Такім чынам, на аснове летапісных паведамленняў, вынікаў гістарычных і архітэктурна-археалагічных даследаванняў можна сцвярджаць, што культавае дойлідства на Беларусі ў XIV ст. распаўсюджана было даволі шырока. У архітэктуры помнікаў гэтага перыяду прасочваюцца рысы ўсходнеславянскага дойлідства XII ст., што асабліва рэльефна выявілася ў аб'ёмнай кампазіцыі храма Навагрудскага замка, асаблівасцях плана і дэкаратыўнага вырашэння фасадаў Верхняй



*10. Пятніцкая царква ў Вільні. Сучасны выгляд*

царквы ў Гродне. Адначасова адбываўся працэс збліжэння з заходнееўрапейскай архітэктурай, які адлюстроўваўся ва ўжыванні новай будаўнічай тэхнікі (брусочная цэгла, вапнавая рошчына, вендская і гатычная сістэмы перавязкі швоў), а таксама элементаў гатычнага дойлідства (скляпенні з нервюрамі, прафіляваная цэгла).

## ГОТЫКА Ў КУЛЬТАВЫМ ДОЙЛІДСТВЕ XV ст.

Да апошняга часу ў працах па гісторыі архітэктуры і мастацтва Беларусі помнікі дадзенага перыяду былі прадстаўлены толькі Ішкалдскім касцёлам другой паловы XV ст. Такі абмежаваны фонд помнікаў з вялікай доляй умоўнасці адлюстроўваў архітэктурна-мастацкія працэсы, якія адбываліся ў культавым дойлідстве XV ст.

У гэты час было пабудавана шмат праваслаўных і каталіцкіх храмаў: мураваныя цэрквы Св. Сергія і Св. Вакха ў Брэсце, праваслаўныя храмы ў Браславе, Кобрыне і шэрагу мястэчак [133, *27—47*]. У ваколіцах Полацка таксама з'явілася некалькі храмаў. Пачала дзейнічаць Бабынічская царква Міколы Цудатворцы, заснаваная на сродкі Корсакаў, а ў Старым Сяле — храм Св. Ушэсця [251, V, *124*]. Не выключана, што сярод гэтых помнікаў былі мураваныя. Праводзіліся таксама рамонты раней узведзеных храмаў (Прачысценская царква XII ст. у Гродне) [259, *76*].

У XV ст. было заснавана, калі браць межы сучаснай Беларусі, больш пяцідзесяці касцёлаў: у Віцебску (каля 1450 г.), Гродне (1430), Браславе (1423), Клецку (1437), Полацку (1498) і іншых гарадах і мястэчках [312, *63—67*] [1].

Безумоўна, большасць касцёлаў і цэркваў XV ст. былі драўлянымі і не захаваліся да нашага часу. Мураваныя помнікі разбураны ў час шматлікіх войнаў, а таксама перабудаваны ў XVI—XIX стст. Зараз іх можна выявіць толькі ў працэсе архітэктурна-археалагічных даследаванняў, што дазволіла нам увесці ў навуковы ўжытак два раней невядомыя касцёлы XV ст. (ва Уселюбе і Іўі).

[1] Па падліках аўтара.

Адным са старажытных помнікаў культавай архітэктуры Беларусі XV ст. з'яўляецца **фарны касцёл** у Навагрудку, пабудаваны на сродкі вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Вітаўта ў канцы XIV—пачатку XV ст. [326, XII, *257*]. У 1712—1723 гг. на яго месцы быў узведзены касцёл у стылі барока. У яго аб'ёмную кампазіцыю ад першапачатковага помніка ўключылі толькі 2 капліцы [139, *266*]. У 1987 г. мы спрабавалі вызначыць планіровачную структуру помніка канца XIV — пачатку XV ст., аднак з-за шэрагу абставін не змаглі яго дэталёва даследаваць.

Цікавыя вынікі намі атрыманы пры вывучэнні **касцёла ў в. Уселюб** (Гродзенская вобл.), які знаходзіцца на яе паўднёва-ўсходняй ускраіне, побач з пейзажным паркам XIX ст. [1] Асноўны аб'ём храма мае план амаль квадратнай формы, заканчваецца з усходу прэсбітэрыем і гранёнай апсідай. З паўночнага бо-

[1] У аснову матэрыялу па гэтаму помніку пакладзены сумесны з гісторыкам інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» Р. В. Баравым артыкул, падрыхтаваны для штогодніка «Помнікі культуры. Новыя адкрыцці».



*11. Уселюбскі касцёл. Выгляд з паўночна-заходняга боку. Фота аўтара. 1987 г.*

ку да прэсбітэрыя прымыкае сакрысція, а з паўднёвага — яшчэ адна пабудова. У інтэр'еры даўжыня асноўнай часткі 12,8 м, шырыня — 9,8 м. Агульныя памеры помніка 23,5×13 м. У аб'ёмнай кампазіцыі касцёла дамінуе трох'ярусная вежа, выкананая ў неагатычным стылі. Узвышаецца яна ў цэнтры галоўнага фасада.

Да апошняга часу касцёл не прыцягваў увагі даследчыкаў беларускага дойлідства. Таму яго не ўпамінаюць ні ў БелСЭ, ні ў адпаведным томе «Збора помнікаў...» [139]. Не разглядаецца помнік і ў працах польскіх гісторыкаў архітэктуры 20—30-х гадоў XX ст. Так, напрыклад, Е. Рэмер у сваім аглядзе помнікаў манументальнай архітэктуры Навагрудчыны нават не называе Уселюбскі касцёл [322, *49*].

У польскіх краязнаўчых выданнях XIX і пачатку XX ст. шэраг аўтараў пры апісанні Уселюба ўпамінаюць касцёл, датуючы яго XV ці XVI ст., а некаторыя нават XVII ст. [280, *650*; 314, *331*; 326, *65*].

Польскі гісторык М. Балінскі адзначае, што першыя звесткі пра Уселюб знаходзяцца ў пісьмовых крыніцах 1433 г. Пры гэтым ён спасылаецца на даравальную грамату князя Сігізмунда Кейстутавіча Ан-

дрэю Неміровічу, дзе разам з іншымі маёнткамі згадваецца і Уселюб [280, *650*]. Уселюбам спачатку валодаў Ян Няміра, канюшы вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Вітаўта [281, *205*], у 1412—1413 гг. староста Полацка [334, *44*]. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца той факт, што Мікалай Неміровіч (брат Андрэя) называе сябе ў дакуменце 1471 г. «дзедзічам Уселюба». Гэта азначае, што Уселюб належаў не менш чым тром пакаленням роду і з'яўляўся галоўным родавым маёнткам Неміровічаў [283, *дак. № 197*].

У XVI—XVII стст. мястэчка належала пачаргова Дэвойнам, Радзівілам, Пацам. У пачатку XVII ст. яно было перададзена ва ўладанне навагрудскаму кашталяну А. Навасельскаму. У канцы XVIII ст. яго купілі Арурркавічы [326, XIV, *124*].



*12. Уселюбскі касцёл. Выгляд з усходняга боку. Фота аўтара. 1987 г.*

У вышэйзгаданым дакуменце 1471 г. вырашаюцца пытанні маёмаснага забеспячэння пабудаванага ў гэты час Мікалаем Неміровічам касцёла ў сваім маёнтку Ішкалдзь. Цяжка ўявіць, што Мікалай Неміровіч будаваў бы мураваны касцёл у Ішкалдзі, калі б у яго родавым гняздзе такі касцёл яшчэ не быў узведзены [87, *23—24*].

Будаўніцтва мураванага касцёла ва Уселюбе, напэўна, звязана з соймам 1413 г. у Гародлі, калі 47 беларуска-літоўскіх баяр (па выбару самога Вітаўта) былі прыняты польскімі панамі ў свае гербы і сталі «гербавымі братамі» вядомых польскіх родаў. Абавязковай умовай была прыналежнасць «гербавых братоў» да каталіцтва. У ліку першых беларуска-літоўскіх баяр, атрымаўшых гербы ў Гародлі, крыніцы называюць Яна Няміру (герб Ястржэнбец) [325, *96—103*]. Ім і быў, напэўна, пабудаваны мураваны касцёл ва Уселюбе. Гэта ён мог зрабіць не толькі да, але і пасля 1413 г., бо не выключана, што каталіком стаў значна раней [88, *23*]. Яго прыналежнасць да ўзвядзення помніка пацвярджаецца таксама тым, што ў «Візітных вопісах...» XVIII—XIX стст. касцёл упамінаецца пад назвай Іаана Хрысціцеля. Гэтаму святому быў прысвечаны таксама адзін з алтароў.

Як бачым, дакументальныя крыніцы дазваляюць выказаць дастаткова абгрунтаваную гіпотэзу пра будаўніцтва мураванага касцёла ва Уселюбе ў першай чвэрці XV ст.

Вывучаныя намі інвентары першай чвэрці XVIII — пачатку XX ст. [24; 28—32; 35—38] дазваляюць уявіць, як выглядаў помнік да асноўных перабудоў. У XVIII ст. да заходняга фасада прымыкаў невялікі прытвор. Над уваходам былі



*13. Уселюбскі касцёл. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку. Фота 30-х гг. XX ст.*

драўляныя хоры. У вопісе касцёла за 1830 г. ужо значацца «мураваныя хоры». У тоўшчы заходняй сцяны, у паўднёва-заходнім куце, былі зроблены сходы, што вялі на хоры і на паддашак касцёла.

У XVIII ст. у прытворы і асноўным аб'ёме падлога была цаглянай. Сцены храма расчлянялі пяць вокнаў, у «волава апраўлены». У сакрысціі было адно акно. Прытвор меў адно, а асноўная частка — два сутарэнні. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожваў галоўны і тры малыя алтары. Прэсбітэрый і паўночная сакрысція (паўднёвая прыбудавана на мяжы XIX—XX стст.) былі перакрыты мураванымі скляпеннямі, а асноўны аб'ём — плоскай драўлянай столлю на бэльках. Заходні фасад завяршаўся, напэўна, трохвугольным франтонам і быў акцэнтаваны выявай крыжа вялікіх памераў з перапаленай цэглы.

У XVIII ст. касцёл, як вынікае з яго вопісаў, быў пакрыты гонтай. На даху ўзвялі невялікіх памераў драўляную вежу-званічку, «гонтам абітую». Побач з касцёлам узвышалася драўляная званіца, якая стаяла насупраць брамы. Тэрыторыя вакол касцёла была абнесена драўляным парканам.

Вопісы помніка сведчаць, што асноўныя перабудовы адносяцца да 1790—1810 гг. і 1897 г., калі, паводле вопісу 1907 г., заходні фасад набыў сучасны выгляд [24, *2*].

У выніку праведзеных намі ў 1987 г. архітэктурна-археалагічных даследаванняў [55] устаноўлена, што сцены касцёла ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (28—29×13—14×8—9 см) на вап-



*14. Уселюбскі касцёл. Выгляд з паўночнага боку. Фота 30-х гг. XX ст.*



*15. Уселюбскі касцёл. План. Выканала група архітэктараў пад кіраўніцтвам В. Ткачова*



*16. Уселюбскі касцёл. Цэгла з сеткавым арнаментам. Фота аўтара. 1987 г.*

нава-пясчанай рошчыне. Ужыта цэгла светла-чырвонага колеру і перапаленая цёмнага адцення. Аднак на фасадах не выяўлена якой-небудзь паслядоўнасці ў выкарыстанні перапаленай цэглы. На бакавых гранях шэрагу цаглін маецца сеткавы арнамент. Унутраная частка сцен запоўнена валунамі сярэдніх памераў і цэглай. Швы рошчыны таўшчынёй 2—3 см і зрэдку 3,5 см. Яны загладжаныя і маюць роўную паверхню.

Першапачаткова паўночны фасад быў прарэзаны адным акном, а паўднёвы — двума. У апсідзе было два акны. Пра іх завяршэнне, якое мела спічастую форму, можна меркаваць па аднаму з вокнаў паўднёвага фасада, дзе выяўлены профіль першапачатковай перамычкі. У заходнім фасадзе было адно акно невялікіх памераў, змешчанае аднosна восі сіметрыі ў паўночны бок, якое завяршалася паўцыркульнай перамычкай. Вокны мелі шырокія адхоны, якія не былі апрацаваны фасоннай цэглай.

Унутраная прастора сакрысціі асвятлялася праз акно спічастай формы. Сюды можна было прайсці праз дзвярны праём, зроблены ў паўночнай сцяне прэсбітэрыя. Гэты праём быў акцэнтаваны фасоннай цэглай складанага профілю. У паўднёва-ўсходнім куце сакрысціі выяўлены рэшткі зорчатых скляпенняў.

Асноўны аб'ём быў злучаны з прэсбітэрыем аркай, якая мела, напэўна, спічастую форму. Арка абапіралася на ўсходнюю сцяну і несла нагрузку не толькі франтона, але і часткова скляпенняў асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі. Сляды гэтых

скляпенняў прасочаны на паўночнай і заходняй сценах касцёла.

У працэсе раскопак устаноўлена, што сцены стаяць на падмурках, складзеных з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на рошчыне. Паміж камянямі ўстаноўлены кліны з цэглы. У ніжняй частцы падмуркаў два першыя рады валуноў пакладзены насуха. Падмурак расшыраецца вонкі і ўнутр на 0,4—0,5 м, што зрабіла яго таўсцейшым за сцены на 0,8—1 м. Магутнасць падмурка ад старажытнага ўзроўню зямлі, якая знаходзіцца на глыбіні 1,1 м да падэшвы, раўняецца 1,6—2 м.

Падэшва падмуркаў ляжыць на



*17. Уселюбскі касцёл. Уваход у сакрысцію. Фота аўтара. 1987 г.*



*18. Уселюбскі касцёл. Фрагмент падмурка паўднёвай сцяны і контрфорса. Фота аўтара. 1987 г.*

мацерыку з гліны. Цагляная муроўка сцен пачынаецца на глыбіні 0,5—0,7 м. У аналагічнай тэхніцы выкананы і падмурак паўночнай сакрысціі. Толькі там ужыты валуны меншых памераў. Паміж падмуркамі касцёла і сакрысціі маецца перавязка, што ўказвае на іх сінхроннае будаўніцтва. Звонку на вуглах апсіды, асноўнага памяшкання, а таксама ў цэнтры паўночнага і паўднёвага фасадаў касцёла выяўлены контрфорсы, якія мелі план прамавугольнай формы. Іх вынас ад вонкавай плоскасці сцен раўняецца 2 м, шырыня — 1,3—1,5 м. Яны, як



*19. Нервюрная цэгла з Уселюбскага касцёла. Фота аўтара. 1987 г.*

і два з боку галоўнага фасада, былі двухприступкавымі.

Унутры касцёла, у цэнтры асноўнага аб'ёму, расчысцілі важнейшы з канструкцыйных элементаў яго тэктанічнай структуры — падмурак апорнага слупа квадратнай у плане формы (2,1×2,2 м). Ён таксама выкладзены з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на рошчыне. Захаваўся падмурак усяго на вышыню 1,2 м. У яго верхняй частцы прасочана цэгла (28×13×9 см) з гладкай паверхняй. Падмурак слупа шчодра паліты рошчынай. Цікава, што склад рошчыны і памеры цэглы адпавядаюць знойдзеным у сценах касцёла. Гэта ўказвае на тое, што слуп з'яўляецца часткай першапачатковай яго канструкцыі.

Наяўнасць контрфорсаў, падмурка слупа, слядоў скляпенняў на сценах касцёла, нервюрнай цэглы ў культурным слоі гаворыць аб тым, што пры ўзвядзенні касцёла яго інтэр'еры перакрылі мураванымі скляпеннямі, якія абваліліся, напэўна, у другой палове XVI ст. Пра гэта сведчыць надбудова верхняй часткі сцен прэсбітэрыя, выкананая з цэглы XV ст., аднак у тэхніцы рэнесансавай муроўкі. Пры перабудове, якую мы датуем канцом XVI — першай паловай XVII ст., выкарыстана цэгла нервюрных скляпенняў, а таксама счасаных контрфорсаў бакавых фасадаў і апсіды. У паўночнай сакрысціі нервюры скляпенняў, напэўна, былі счасаны, што даволі часта практыкавалася ў еўрапейскай архітэктуры перыяду Рэнесанса. У працэсе гэтых работ асноўны аб'ём быў перакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Мураваныя скляпенні былі адноўлены, як сведчаць вопісы касцёла, толькі у прэсбітэрыі. Тады ўпершыню вонкавыя паверхні сцен былі атынкаваны. У даху, які першапачаткова, напэўна, быў пакрыты гонтай, выкарысталі пляскатую дахоўку (39—38,5×17—16×2—2,5 см). Яе шматлікія фрагменты выяўлены ў працэсе раскопак. Сустракаюцца таксама фрагменты таўшчынёй 3 см. Мацавальны шып вышынёй 4 см мае трохвугольную форму. Супрацьлеглы ад яго бок закруглены. На знешняй паверхні дахоўкі прасочваюцца неглыбокія барозны. Іх пакінуў майстар пасля выбаркі лішняй цэглы з драўлянай формы грабеньчатым ін-




*20. Уселюбскі касцёл. План. Рэканструкцыя аўтара. Выканаў В. Гліннік*

струментам. Была таксама дахоўка з гладкай паверхняй.

У другой палове XVII — пачатку XVIII ст. вокны бакавых фасадаў былі павялічаны ў шырыню, сведчаннем чаму з'яўляецца цэгла-пальчатка (26—25×14—13×6—5 см) гэтага часу, якая выкарыстана для замуроўкі ніжніх і пераробкі верхніх частак вокнаў. У паўночным фасадзе касцёла было зроблена яшчэ адно акно. Уваход у сакрысцію замураваны, а для новага, які захаваўся на сённяшні дзень, была прабіта і расчасана вялікапамерная ніша. Тады ж у касцёле, напэўна, былі пабудаваны сутарэнні. У муроўцы іх сцен прасочана шмат пляскатай дахоўкі. У скляпеннях ужыта цэгла вышэйадзначаных памераў. З аналагічнай цэглы, якая змацавана рошчынай і пакладзена на падрыхтоўку з слоя жоўтага пяску і гліны, была зроблена падлога. Да гэтага часу ў касцёле ляжала драўляная падлога. Замест пляскатай дахоўкі была ўжыта хвалістая— таўшчынёй 1,5 см з мацавальным выступам прамавугольнай формы.

Атрымліваецца, касцёл ва Уселюбе першапачаткова быў аднаслуповым гатычным збудаваннем. Да апошняга часу пра існаванне такога тыпу храма ў архітэктуры Беларусі не было вядома [170, *21—22*]. Аднак беларускія дойліды былі знаёмы з такімі пабудовамі яшчэ ў XIV ст. Пра гэта сведчыць выяўленая санкт-пецярбургскім даследчыкам М. У. Малеўскай на тэрыторыі Навагрудскага замка аднаслуповая грамадзянская пабудова, датуемая сярэдзінай — другой паловай XIV ст. [183, *124*]. У культавым дойлідстве Прыбалтыкі гэты тып прадстаўлены толькі храмам XII ст. у Ікшкіле (Латвія) і касцёлам XV ст. у Рысці (Эстонія) [90, *404*; 183, *90*]. Значна шырэй аднаслуповыя пабудовы распаўсюджаны ў заходнееўрапейскай архітэктуры, дзе яны бытавалі ў XI—XVI стст. [320, *212*].



*21. Уселюбскі касцёл. Заходні і паўднёвы фасады. Рэканструкцыя аўтара. Выканаў В. Глінік*



*22. Троіцкі касцёл ў Ішкалдзі. Малюнак Н. Орды. 60-я гг. XIX ст.*

У XIII — першай палове XIV ст. іх будавалі ў Скандынавіі. У XIII—XIV стст. шэраг аналагічных касцёлаў быў узведзены ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Аўстрыі, Германіі. У грамадзянскім і культавым дойлідстве краін Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы іх налічваецца 160 [307, *22*]. І хоць беларускія землі ў XIV—XV стст. мелі развітыя эканамічныя і культурныя адносіны з Чэхіяй, Германіяй і іншымі краінамі, разгледжаны тып культавай пабудовы запазычаны, напэўна, з суседняй Польшчы, з якой у канцы XIV — пачатку XV ст. склаліся пастаянныя цесныя сувязі як палітычнага, так і чыста сакральнага характару.

Такім чынам, на аснове дакументальных крыніц, фармата цэглы, тэхнікі муроўкі сцен і аналагаў лічым, што Уселюбскі касцёл пабудаваны ў першай чвэрці XV ст. Застаецца толькі невядомым, у якой ступені гэты тып касцёла быў распаўсюджаны ў архітэктуры Беларусі. Магчыма, гэта была толькі асобная рэпліка на інтэнсіўнае будаўніцтва аналагічных помнікаў у Цэнтральнай і Паўночнай Еўропе. Аднак несумненна, што касцёл ва Уселюбе з'яўляецца вынікам мастацкага супрацоўніцтва беларускіх зямель з заходнееўрапейскімі краінамі ў XIV—XV стст. і адначасова важным звяном у агульным ланцугу эвалюцыі культавага дойлідства Беларусі.

**Касцёл у в. Ішкалдзь,** што на Брэстчыне,— адзін з самых вядомых помнікаў беларускай гатычнай архітэктуры. Нягледзячы на шматлікія рамонты, ён захаваў амаль першапачатковы выгляд, што вызначае яго вялікую навуковую каштоўнасць. Дзякуючы гэтаму цікаваму і ў некаторай ступені нават загадкаваму помніку атрымала вядомасць і мястэчка, якое ў XV ст. належала Неміровічам. У пачатку

XVI ст. ім ужо валодалі Іллінічы, а пазней Радзівілы, Вітгенштэйны [326, *12, 308*].

Беларуска-польскі паэт і краязнаўца У. Сыракомля ў сваёй працы «Падарожжа па маіх былых ваколіцах» адзначаў, што храм быў перароблены з язычніцкага капішча [329, *6*]. Я. Курчэўскі ў даведніку па Віленскай епархіі сцвярджае, што касцёл пабудаваны ў 1472 г. на сродкі ўладальніка мястэчка Мікалая Неміровіча [299, *180*]. Польскі архітэктар Е. Рэмер, які ўпершыню ўвёў помнік у навуковы ўжытак, датаваў яго першай паловай XVI ст. [321, *49*]. Выяўленыя А. Ярашэвічам у жыццеапісаннях віленскіх біскупаў звесткі сведчаць, што М. Неміровіч пабудаваў у Ішкалдзі мураваны касцёл, асвечаны ў 1471 г. [275, *30*]. Прыкладна такую ж дату пацвярджаюць інвентарныя вопісы касцёла XVII—XVIII стст., дзе значыцца, што яго ўзвялі пад назваю Святой Тройцы ў 1472 г. на сродкі М. Неміровіча [16, *1*; 30, *1—2*; 34, *5*; 42, *1*]. Важным аргументам на карысць прапанаванага датавання з'яўляецца таксама архаічны выгляд храма, што выяўляецца не толькі ў асаблівасцях будаўнічай тэхнікі, але і ў архітэктурных формах. Таму можна лічыць, што касцёл у Ішкалдзі пабудаваны прыкладна ў 1471—1472 гг.

У другой палове XVI ст. касцёл быў ператвораны ў кальвінскі збор, каля 1640 г. вернуты католікам. У 1868 г. яго перадалі праваслаўнаму духавенству. З пачатку XX ст. ён зноў з'яўляецца касцёлам [148, *10*].

Безумоўна, такія змены адмоўна адбіліся на яго знешнім выглядзе і інтэр'ерах. Самы ранні з выяўленых намі вопісаў за 1675 г. паведамляе, што «месца вакол касцёла здаўна валам абсыпана і мурам абмуравана». Пры апісанні інтэр'ераў адзначана, што яны аздоблены выявамі святых і абразамі, а такса-



*23. Троіцкі касцёл у Ішкалдзі. Малюнак Э. Паўловіча. Другая палова XIX ст.*



*24. Троіцкі касцёл у Ішкалдзі. План*

ма «старым маляваннем, акураным ад агню непрыяцеля» [30, *1*]. А. Ярашэвіч лічыць, што фрэскі на сценах касцёла напісаны не пазней сярэдзіны XVI ст. [275, *31*]. Пра гэта сведчыць і адсутнасць фрэсак у храме, які быў узведзены ў першай чвэрці XV ст. ва Уселюбе — родавым маёнтку Неміровічаў. Як вынікае з інвентара Ішкалдскага касцёла за 1782 г., палова фрэсак сцерлася, запылілася, пазелянела ад вільгаці [39, *1*]. Не выключана, што рэшткі манументальнага жывапісу яшчэ захаваліся пад слаямі пазнейшай пабелкі.

У XVII—XVIII стст. падлога была набрана з цэглы, якая «ляжала няроўна». У храме было шэсць вокнаў. У заходняй частцы, над уваходам, меліся драўляныя хоры. Пад прэсбітэрыем знаходзілася сутарэнне, якое зараз засыпана зямлёй. Над сакрысціяй была скарбніца, перакрытая драўлянай столлю. Згодна з інвентаром 1675 г., у касцёле былі дзве мураваныя сакрысціі. Над гонтавым дахам асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі ўзвышаліся дзве невялікія драўляныя вежачкі. Звонку помнік не быў атынкаваны прыкладна да першай паловы XIX ст. У XVIII—XIX стст. побач з храмам стаяла драўляная званіца [30, *1*; 34, *5*; 42, *1*].

Касцёл складаецца з асноўнага аб'ёму, план якога мае прамавугольную форму, і прэсбітэрыя з апсідай шматграннай формы. На вугле, утвораным усходнім фасадам касцёла і паўночнай сцяной прэсбітэрыя, знаходзіцца двухпавярховая сакрысція. Сцены храма ўмацаваны контрфорсамі. На нашу думку, бакавыя фасады таксама іх мелі, і толькі, напэўна, у XIX ст. контрфорсы счасалі, аднак сцены храма вытрымалі напор скляпенняў.

Па форме плана Ішкалдскі касцёл не мае прамых паралеляў у архітэктуры Беларусі і Літвы. Агульная даўжыня храма 26,4 м, шырыня — 13,5 м. Па яго асноўных параметрах бачна, што пры іх вызначэнні фундатар, напэўна, арыентаваў дойлідаў на Уселюбскі касцёл, які мае амаль аналагічныя памеры.

Сцены касцёла ў Ішкалдзі зроблены з цэглы (26—27×12,5—13××6,5—7 см) у тэхніцы балтыйскай муроўкі, якая з'яўляецца рудыментам архітэктуры больш ранняга перыяду.

Уваходных дзвярэй двое. Галоўны дзвярны праём спічастай формы, размешчаны ў цэнтры заходняга фасада і акцэнтаваны характэрнай для познеготычнай архітэктуры прамавугольнай акаймоўкай. Другі дзвярны праём паўднёвага фасада больш вузкі, дэкаратыўна не падкрэслены (напэўна, адыгрываў другарадную ролю) і завяршаецца паўцыркульнай перамычкай.

Пры аналізе ўнутранай структуры помніка адразу звяртаецца ўвага на шырыню бакавых нефаў. Яны значна вузейшыя за цэнтральны неф, чым нагадваюць абходную галерэю, што змяшчаецца за магутнымі васьміграннымі слупамі. Такая шырыня нефаў, як нам здаецца, прадыктавана жаданнем дойліда аб'яднаць незакрытую алтарную частку з месцам, дзе знаходзіцца асноўная колькасць прыхаджан, каб ім быў даступны эмацыянальна-мастацкі працэс набажэнства. Такі кампазіцыйны прыём надае інтэр'еру адзінства і велічнасць. Цэнтральны неф і алтарная частка перакрыты зорчатымі скляпеннямі. Дзякуючы ім інтэр'ер стаў выглядаць больш урачыста і прыцягальна. Бакавыя нефы маюць крыжовыя скляпенні.



*25. Троіцкі касцёл у Ішкалдзі. Выгляд з паўднёва-заходняга боку. Фота У. Суцягіна. 1988 г.*

У сярэдзіне храма размешчаны алтары, скульптурныя выявы святых, абразы. Першапачаткова ў касцёле, відаць, былі толькі прысценныя, а не прыкалонныя алтары. Таму ў паўночнай сцяне няма вокнаў, што ў нейкай ступені надае ўнутранай прасторы замкнёнасць. Праўда, уражанне ізаляцыі інтэр'ераў у значнай ступені кампенсуецца дастаткова добрым асвятленнем з вокнаў паўднёвага фасада. Вокны завяршаюцца паўцыркульнымі перамычкамі.

Асноўны аб'ём храма злучаны з прэсбітэрыем спічастай аркай. Арка нясе нагрузку ўсходняга франтона і часткова скляпенняў асноўнага аб'-

ёму і прэсбітэрыя. У паўночнай сцяне прэсбітэрыя ёсць дзвярны праём для праходу ў сакрысцію. Першы яе паверх перакрыты паўцыркульным скляпеннем, другі — плоскай драўлянай столлю на бэльках. Да заходняй сцяны сакрысціі прымыкае вінтавая лесвіца, якая вядзе на другі паверх і на паддашак касцёла.

Звонку сцены касцёла былі падзелены контрфорсамі на асобныя праслы. Гэта парушыла суцэльную маналітнасць фасадаў, якія аздоблены ў ніжняй частцы арнаментам у выглядзе ромбаў, выкананым з перапаленай цэглы.

Асноўнае дэкаратыўнае афармленне касцёла лакалізавана на галоўным фасадзе, які знаходзіцца з боку мястэчка. Вось сіметрыі гэтага фасада падкрэслена акном і трыма нішамі над парталам. Адпаведна ёй на франтоне размешчаны дэкаратыўныя нішы. У адрозненне ад помнікаў першай паловы XVI ст. на франтоне Ішкалдскага касцёла нішы не ўтвараюць асобных ярусаў, што пазбавіла храм статычнасці, надало яму маляўнічасць. Нішы, відаць, бяліліся, і гэты дэкор выглядаў вельмі эфектна на фоне муроўкі з чырвонай цэглы.

Манументальны выгляд касцёла значна змякчаюць крывалінейныя абрысы франтона заходняга фасада і ступеньчатыя па форме контрфорсы. У адрозненне ад заходняга франтона ўсходні не мае дэкаратыўных ніш і яго поўнасцю закрывае дах алтарнай часткі.

Асноўны аб'ём храма мае двухсхільны дах. Першапачаткова ён быў пакрыты паўцыркульнай з зялёнай палівай дахоўкай, якой шмат знайшлі пад час археалагічнага даследавання прылягаючага да храма культурнага слоя. Значна менш выяўлена аналагічнай непаліванай дахоўкі [177].

**Петрапаўлаўскі касцёл** у Іўі (Гродзенская вобл.), як і Уселюбскі храм, яшчэ адзін з раней невядомых помнікаў XV ст. Іўе згадваецца ў XV ст. як уладанне П. Мандзігіра. З другой паловы XVI ст. гэта ўжо мястэчка ў Вялікім княстве Літоўскім. У XVI—XVIII стст. ім валодалі Забжэзінскія, Кішкі, Сапегі, з 1752 г.—Агінскія, з XIX ст.—Тызенгаўзы і Замойскія [319, *99*].

У энцыклапедычных выданнях па гісторыі і культуры Беларусі адзначана, што Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі пабудаваны ў першай па-



*26. Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі. Заходні фасад. Фота аўтара. 1988 г.*

лове XVII ст. [139, *196*]. Гэтае датаванне, напэўна, узята з інвентарных вопісаў касцёла XIX ст., дзе адзначана, што ён узведзены ў 1631 г. мсціслаўскім ваяводам Мікалаем Кішкам [5, *320*; 10, *1*]. Цікава, што ў вопісе 1830 г. гаворыцца пра касцёл, які быў спачатку кальвінскім зборам і дакладная дата будаўніцтва якога не ўстаноўлена [9, *667*]. Вядомы гісторык каталіцкай царквы Я. М. Гіжыцкі лічыў, што Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі ўжо існаваў у першай палове XVI ст. Пазней, на працягу больш чым паўстагоддзя, ён належаў арыянам, потым кальвіністам. У 1612 г. Мікалай Кішка, на яго думку, вярнуў храм католікам [319, *99—100*]. І. Лукашэвіч таксама пісаў пра кальвінскі збор у Іўі, аднак адзначаў, што яму невядома дата яго заснавання [306, *21*]. Т. Янкоўскі меркаваў, што касцёл пабудаваў Станіслаў Кішка, бацька вышэйзгаданага Мікалая Кішкі [292, *66*]. У даведніку па бернардзінскіх кляштарах сказана, што Петрапаўлаўскі касцёл узведзены да прыезду прадстаўнікоў гэтага каталіцкага ордэна ў Іўе. Пра гэта сведчыць дакумент, у якім Мікалай Кішка звярнуўся ў 1631 г. да адміністратараў Віленскай дыцэзіі — Тышкевіча, а затым Абрама Войны. Яны дазволілі яму пры касцёле заснаваць кляштар, які спачатку быў драўляны. Далей у гэтым даведніку паведамляецца, што Мікалай Кішка ў фундушы 1633 г. на мураваны кляштар абяцае бернардзінцам хутка яго пабудаваць [296, *93*].

На аснове ўжытай вялікапамернай цэглы і гатычнай тэхнікі муроўкі мы папярэдне датавалі касцёл XV ст. [170, *21*]. Такім чынам, да апошняга часу існавала некалькі датаванняў храма.



*27. Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі. Выгляд з усходняга боку. Фота аўтара. 1988 г.*



*28. Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі. План*

У 1987 г. намі было праведзена назіранне за рамонтам касцёла і яго візуальнае вывучэнне, што дазволіла выявіць у архітэктуры помніка шэраг супярэчлівасцей. Яны праяўляюцца ў розным стылістычным вырашэнні плана асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі, неаднародных муроўцы і фармаце цэглы сцен, франтонаў і вежаў, больш познім узвядзенні скляпенняў у параўнанні са сценамі, неаднолькавым завяршэнні акна цэнтральнай грані апсіды, якое зараз замуравана, і астатніх аконных праёмаў. Гэта сведчыць, што сучасны выгляд помніка сфарміраваўся на працягу некалькіх будаўнічых перыядаў.

Зараз Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі — трохнефавае збудаванне, асноўны аб'ём якога мае план амаль квадратнай формы. З усходу яно заканчваецца прэсбітэрыем і шматграннай апсідай. Апсіда і вуглавыя часткі паўднёвай паловы асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі. З паўночнага боку да касцёла прымыкае капліца і сакрысція.

У выніку архітэктурна-археалагічных даследаванняў, праведзеных у 1989 г. [59], устаноўлена, што сцены касцёла зроблены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы цёмна- і светла-чырвонага колеру (? × 13—14×9—11; 30—31×16—16,5×8—8,5 см) з гладкай паверхняй. Ужывалася таксама перапаленая цэгла цёмнага адцення. Першаму фармату цэглы амаль адпавядае цэгла, выкарыстаная пры будаўніцтве Лідскага замка першай паловы XIV ст. Цэгла другога памеру блізкая да цэглы, прасочанай у такіх помніках XVI ст., як Мірскі замак, Супрасльская царква, храм Св. Мікалая ў Вільні. Швы рошчыны маюць роўную паверхню.

Сцены касцёла стаяць на падмурках, зробленых з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. Падэшва падмурка залягае на глыбіні 2,2 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні.

Цагляная муроўка сцен пачынаецца на глыбіні 0,6—0,7 м. Каля заходняга і паўднёвага фасадаў расчышчаны падмуркі контрфорсаў шырынёй 1,2 м. Іх вынас ад знешняй плоскасці сцен складае 1,6—1,7 м. Такія магутныя контрфорсы былі разлічаны на канструкцыйную нагрузку, якая ў помніках культа-




*29. Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі. План канца XV ст. Рэканструкцыя аўтара*

вага дойлідства Беларусі XVI ст. ужо перадавалася ў асноўным на сцены, бо контрфорсы ў гэты час мелі значна меншыя памеры.

Такім чынам, вынікі архітэктурна-археалагічнага вывучэння касцёла Св. Пятра і Паўла ў Іўі дазваляюць яго датаваць на аснове фармату цэглы, будаўнічай тэхнікі і кампазіцыі фасадаў канцом XV—пачаткам XVI ст.

Больш вузкія храналагічныя рамкі ўдалося вызначыць з дапамогай архіўных дакументаў. Яны сведчаць, што ў Іўі быў не толькі мураваны касцёл, але і драўляны — Св. Крыжа, пабудаваны Мікалаем Кішкам у 1631 г. Апошні існаваў да канца XVIII ст. У копіі яго фундуша 1631 г., якая зроблена ў 1811 г. з кнігі земскіх актаў, сказана, што «мураваны касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла 25 гадоў таму назад, пры маіх продках да ерасі аднесены, перайшоў у маё ўладанне». Адзначана таксама, што першапачатковы фундуш гэтага касцёла згублены і таму Мікалай Кішка яго абнаўляе і пашырае, бо храм знаходзіцца ў яго ўладанні. Далей гаворыцца, што фундатар выдзяляе побач з мураваным касцёлам участак зямлі, дзе стаіць крыж, для драўлянага храма і духоўнай школы, прызначаных для прыхаджан [73, *1—1 адв.*, *9—9 адв.*]. З гэтага дакумента бачна, што Мікалай Кішка не быў фундатарам Петрапаўлаўскага касцёла ў Іўі, якое да Кішкаў перайшло ў 1558 г. [292, *66*]. Ён толькі перадаў яго бернардзінцам і пачаў будаваць для іх мураваны кляштар, дзе спачатку планаваў размясціць дамініканцаў [319, *100*].

Тады ўзнікае заканамернае пытанне: хто ж пабудаваў гэты помнік? З выяўленай намі першапачатковай копіі яго фундуша [1] вынікае, што Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі ўзведзены на сродкі троцкага ваяводы маршалка Вялікага княства Літоўскага Пятра Яновіча з роду Мандзігіраў. Аднак з-за раптоўнай смерці ён не паспеў дакументальна аформіць яго будаўніцтва, што было зроблена ў 1499 г. яго сынам Янам Пятровічам. Як сведчыць дакумент, касцёл у гэты час ужо існаваў і пры ім быў, відаць, драўляны кляштар, дзе жылі чатыры манахі-францысканцы [74, *1—1 адв.*]. Калі Пётр Яновіч не паспеў аформіць фундуш з-за сваёй смерці, то можна меркаваць, што касцёл будавалі ў апошнія гады яго жыцця (1491—1495).

У фундушы Мікалая Кішкі на касцёл Св. Крыжа адзначана, што касцёл Св. Пятра і Паўла не быў дабудаваны. Вынікі праведзеных намі даследаванняў сведчаць, што першапачаткова яго інтэр'ер не перакрывалі скляпенні, хоць яны і былі запланаваны. На аснове размяшчэння вокнаў і контрфорсаў можна сцвярджаць, што калі б унутраная прастора касцёла была перакрыта скляпеннямі, то гэта было б трохнефавае збудаванне з прэсбітэрыем і шматграннай апсідай. У кожным нефе планавалася па тры травеі. Цэнтральны неф атрымаўся б шырэйшым за бакавыя. Аналагічны тып касцёла атрымаў шырокае распаўсюджанне ў архітэктуры Германіі, Польшчы, Літвы [122, *240—241*].

Зараз цяжка адназначна сказаць, чаму першапачаткова інтэр'еры касцёла не былі перакрыты

---

[1] Аўтар удзячны супрацоўніку Інстытута літаратуры АН Беларусі А. А. Жлутко за пераклад фундуша з лацінскай мовы.

4. Зак. 180




*30. Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі. План кляштара. XIX ст.*

скляпеннямі. Магчыма, пасля смерці фундатара на гэта не было сродкаў. Пра тое, што скляпенні ў касцёле былі ўзведзены ў XVII ст., сведчыць у першую чаргу фармат цэглы (28—29×14—14,5×6—7 см), з якой зроблены таксама і слупы. На больш позняе, чым XV ст., будаўніцтва скляпенняў указвае таксама размяшчэнне ў апсідзе пілястраў, якія часткова закрываюць вокны.

Першапачаткова Петрапаўлаўскі касцёл у Іўі з'яўляўся аднанефавай пабудовай. Яе інтэр'ер быў перакрыты, напэўна, плоскай драўлянай столлю на бэльках. На вугле, утвораным усходнім фасадам касцёла і паўночнай сцяной прэсбітэрыя, знаходзілася сакрысція, якую разбурылі ў XVII ст. пры будаўніцтве ўсходняга корпуса кляштара. Падмурак паўночнай сцяны сакрысціі намі прасочаны ў працэсе рамонту помніка ў калідоры ўсходняга корпуса кляштара, які часткова захаваўся. Сцены касцёла ўмацоўвалі магутныя контрфорсы. Вокны былі вялікіх памераў і мелі спічастую форму.

У метрыцы касцёла за 1892 г. адзначана, што яго даўжыня 55 аршынаў, шырыня — 24 аршыны [18,3]. Па нашых абмерах у інтэр'еры даўжыня асноўнай часткі 21,6 м, шырыня — 19,3 м. З вядомых помнікаў XV ст. (Уселюбскі, Ішкалдскі касцёлы) — гэта самая вялікая культавая пабудова.

У XVII ст. у касцёле акрамя скляпенняў зроблены, напэўна, дзве вежы на галоўным фасадзе. У другой палове XVIII ст. на гэтым фасадзе часткова зменены франтон і надбудаваны вежы, якія набылі выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі і зараз завершаны фігурнымі главамі. У сярэдзіне XVIII ст. у касцёле, над уваходам, былі ўзведзены мураваныя хоры [139, *196*].

У першай палове XVII ст. да паўночнага фасада касцёла быў прыбудаваны двухпавярховы кляштар. Спачатку мы меркавалі, што ўсходняя сцяна сакрысціі была ўключана ў яго ўсходні корпус. Аднак даследаванні паказалі, што гэты корпус узведзены ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі з цэглы (27—28×13—13,5×6,5—7 см), якая мае канаўкі на адной з шырокіх паверхняў. Амаль такіх памераў цэгла ўжыта ў палацы Мірскага замка канца XVI — пачатку XVII ст., а таксама Любчанскім і Гальшанскім замках пачатку XVII ст.

У другой палове XVII ст. кляштар пры Петрапаўлаўскім касцёле ў Іўі быў дабудаваны, на што ўказвае фармат цэглы (30×14,5—15××5,5 см) яго заходняга корпуса. Пасля заканчэння будаўніцтва кляштар уяўляў сабой двухпавярховую пабудову складанай канфігурацыі. У інвентарным вопісе 1830 г. адзначана, што даўжыня яго паўночнага корпуса 64 локці, усходняга — 18 локцяў, заходняга — 67 локцяў. Шырыня кожнага корпуса 15 локцяў [9, *23*]. У інтэр'ерах кляштара былі кафляныя печы і каміны. У 1857 г., калі кляштар быў закрыты, большасць яго памяшканняў была аддадзена пад прыходскае вучылішча [1, *155б*].

Вынікі нашага даследавання не пацвердзілі інфармацыю Л. Д. Побаля, што касцёл пабудаваны на месцы старажытнага гарадзішча [139, *196*]. Пры зачыстцы профілю ўсходняй паловы вала, які з усходняга і паўднёвага бакоў акружае касцёл, выяўлена вялікая колькасць цэглы XVII ст. (29,5×15×7 см), а таксама хвалістай дахоўкі XVIII—XIX стст. Відаць, гэты вал насыпа-

ны з будаўнічага смецця ў час рамонту касцёла.

Атрымліваецца, што касцёл Пятра і Паўла ў Іўі з'яўляецца помнікам канца XV—XVIII ст., які значна пашырае ўяўленне пра архітэктурна-мастацкія працэсы, што адбываліся ў гэты перыяд у дойлідстве Беларусі.

Вышэйразгледжаныя помнікі з'яўляюцца каталіцкімі храмамі, таму іх можна параўнаць з касцёламі Літвы XV ст. (касцёлы Св. Мікалая і Св. Гертруды ў Коўне, Св. Юрыя ў Кедайняй), якім уласцівы агульныя рысы з помнікамі Беларусі: план асноўнага аб'ёму квадратнай альбо блізкай да квадрата формы, нязначных памераў прэсбітэрый, шматгранная апсіда. У той жа час касцёлы Літвы больш маштабныя пабудовы (касцёл Вітаўта ў Коўне, францысканскі касцёл Св. Марыі ў Вільні), для некаторых характэрна асіметрычная форма плана (касцёл Св. Гертруды ў Коўне), іх фасады і інтэр'еры больш насычаны дэкаратыўнымі элементамі.

Такім чынам, калі ў XIV ст. на беларускіх землях мураваныя храмы ўзводзіліся пераважна ў гарадах, то ў XV ст. іх будавалі таксама ў мястэчках. Гэта станоўча адбілася на колькасці пабудоў і разнастайнасці іх тыпалогіі. У беларускай архітэктуры разглядаемага перыяду вядомы аднаслуповыя і трохнефавыя тыпы храмаў. Іх кампазіцыйнаму вырашэнню, арганізацыі ўнутранай прасторы і канструкцыйна-тэктанічнай структуры ўласцівы рысы гатычнай архітэктуры Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы.

Большасць з іх узведзена ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Ужыта як гладкая цэгла, так і з канаўкамі на адной з шырокіх паверхняў. Швы муроўкі загладжаны, што ўласціва архітэктуры Беларусі XIV — першай паловы XV ст. Аднак гэты прыём апрацоўкі швоў выкарыстоўваўся і ў другой палове XV ст. паралельна з іх трохграннай падрэзкай. У храмах першай паловы XV ст. перапаленую цэглу яшчэ клалі бессістэмна, і гэта таксама надавала іх знешняму вобліку вялікую маляўнічасць. У размеркаванні валуноў розных памераў у падмурках храмаў не прасочана пэўнай паслядоўнасці. Звычайна першыя два рады падэшвы падмуркаў не змацоўваліся рошчынай. Інтэр'еры перакрывалі ў асноўным крыжовымі і зорчатымі скляпеннямі. Упершыню крыжовыя скляпенні былі ўжытыя ў беларускай архітэктуры другой паловы XIII ст. пры ўзвядзенні Камянецкай вежы. Зорчатыя скляпенні, якія з'явіліся ў заходнееўрапейскім дойлідстве XIII ст. [288, *5—6*], пачалі выкарыстоўваць у пабудовах Беларусі ў пачатку XV ст. (Уселюбскі касцёл). На пачатку XIV ст. гэтыя скляпенні ўжо былі вядомыя ў архітэктуры Польшчы [288, *5*]. Вокны і дзвярныя праёмы завяршаліся перамычкамі спічастай і паўцыркульнай формы. У помніках другой паловы XV ст. (касцёл у Ішкалдзі) дойліды пачалі акаймоўваць галоўны ўваход у храм, хоць астатнім пабудовам гэтага часу ўласціва стрыманасць і лаканічнасць формаў, што праяўляецца ў адсутнасці складаных дэкаратыўных элементаў: рэльефных акаймаванняў і іншых упрыгожанняў.

Важным элементам храмаў XV ст. з'яўляюцца контрфорсы, якія былі разлічаны пераважна на прыём канструкцыйнай нагрузкі. Аднак, нягледзячы на іх магутнасць, асноўны цяжар ад распору скляпенняў прымалі сцены. Пра гэта сведчыць Ішкалдскі касцёл, які пасля

разбурэння контрфорсаў бакавых фасадаў захаваў устойлівасць. У профілі контрфорсы маюць двухпрыступкавую форму, дэкаратыўна не апрацаваныя і пастаўлены наўскос да вугла будынка. У другой палове XV ст. будавалі таксама касцёлы (Іўе), у якіх вуглавыя контрфорсы зроблены перпендыкулярна да сцяны асноўнага аб'ёму. У канцы XV—XVI ст. аналагічнае размяшчэнне контрфорсаў практыкавалася ў архітэктуры Літвы [253, 272].

З вышэйадзначанага бачна, што культавае дойлідства XV ст. творча ўвабрала дасягненні гатычнай архітэктуры Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. Пра гэта сведчыць кампазіцыя вырашэння храмаў, арганізацыя іх унутранай прасторы, канструкцыйна-тэктанічная структура.

У параўнанні з папярэднім перыядам архітэктура XVI ст. прадстаўлена большай колькасцю культавых пабудоў, якія захаваліся. Яны падзелены намі на аснове іх планіровачнай структуры на пяць тыпалагічных груп, што дазваляе больш паспяхова прасачыць у храналагічнай паслядоўнасці асаблівасці архітэктуры разглядаемых помнікаў.

## ТРОХНЕФАВЫЯ ПАБУДОВЫ

Адной з першых сярод пабудоў гэтага тыпу была ўзведзена **Мікалаеўская царква** ў Вільні па заказу віленскага кашталяна, гетмана Вялікага княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага, які ў 1514 г. атрымаў дазвол на яе будаўніцтва ад Зыгмунта I [84, X, *3—4*]. Пажары 1747—1748 гг. яе моцна пашкодзілі [108, *93*]. Напэўна, тады абваліліся скляпенні асноўнага аб'ёму, захаваліся толькі сотавыя скляпенні ў алтарнай частцы. Па размяшчэнні ў інтэр'еры лапатак бачна, што ўнутраную прастору храма першапачаткова раздзялялі чатыры слупы на тры нефы. У працэсе рамонту асноўны аб'ём быў зноў перакрыты скляпеннямі, пабудавана вежа, фасадам нададзены рысы барочнай архітэктуры [273, *6*]. У сярэдзіне XIX ст. царкву перабудавалі па праекту архітэктараў А. І. Разанава і А. І. Чагіна [193, *27*].



*31. Мікалаеўская царква ў Вільні. Выгляд з паўднёва-ўсходняга боку. Фота аўтара. 1989 г.*

Помнік складаецца з аднанефавага асноўнага аб'ёму (10,3×





*32. Мікалаеўская царква ў Вільні. План*

×13,5 м), трохапсіднай алтарнай часткі і шмат'яруснай вежы, якая прымыкае да паўднёва-заходняга вугла. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (28,8× ×13×7; 32×16×9,5 см) на вапнава-пясчанай рошчыне [273, *6*]. Не выключана, што лапаткам звонку адпавядалі контрфорсы. Бакавыя




*33. Гравюра Вільні пачатку XVII ст. 1 — Троіцкая царква*

грані лапатак зроблены з прафіляванай цэглы (валік). Такой цэглай былі акцэнтаваны таксама падпружныя аркі і слупы. Узмацняюць мастацкую выразнасць інтэр'ера сотавыя скляпенні алтарнай часткі. Відавочна, такімі скляпеннямі быў перакрыты цэнтральны неф. Ужытая прафіляваная цэгла і сотавыя скляпенні надавалі інтэр'еру храма павышаную ўрачыстасць, якой звычайна ў помніках культавага дойлідства адпавядае святочнасць знешняга выгляду.

Уявіць выгляд царквы XVI ст. можна з гравюр Вільні канца XVI—XVII ст., дзе яна паказана як невялікае збудаванне з высокім двухсхільным дахам, трохвугольным франтонам і асіметрычнай адносна галоўнага фасада вежай.

Будаўнічая тэхніка, скляпенні алтарнай часткі, дэкаратыўнае афармленне лапатак сведчаць пра наяўнасць у архітэктуры помніка гатычных элементаў. Яго трохапсідная алтарная частка нагадвае паралелі з помнікамі ўсходнеславянскага дойлідства XII—XIII стст.

Наступнай трохнефавай пабудовай з'яўляецца **Барысаглебская царква** ў Навагрудку, узведзеная ў 1519 г. на сродкі таго ж, што і вышэйапісаны храм, фундатара. У 1624 г. пры ім быў заснаваны жаночы, а ў 1628 г.— мужчынскі манастыр базыльянаў. У 30-я гады XVII ст. да заходняй часткі царквы, каб павялічыць яе ў даўжыню, зроблена прыбудова з дзвюма вежамі па вуглах. У аснове вежаў план мае прамавугольную, а вышэй — васьмі-



*34. Гравюра Вільні пачатку XVII ст. Т. Макоўскага. 1 — Прачысценская царква; 2 — Троіцкая царква*

гранную форму. Цікава, што ў вежах ёсць байніцы, якія сведчаць пра прыстасаванне храма да абароны. У XVIII ст. у алтарнай частцы быў пастаўлены мураваны іканастас. Значна перароблены храм таксама ў другой палове XIX ст. Тады разбурылі скляпенне адной з травей цэнтральнага нефа і над ёй узвялі драўляны светлавы барабан з глаўкай. Да заходняга фасада прыбудавалі прытвор. Двухсхільны дах замянілі на чатырохсхільны. У 1923—1924 гг. адноўлена скляпенне цэнтральнага нефа.

Барысаглебская царква ў Навагрудку — трохнефавая двухвежавая пабудова, план яе асноўнага аб'ёму мае прамавугольную форму. З усходу заканчваецца шматграннай апсідай, з захаду да царквы прымыкае прытвор. Яе агульная даўжыня — 23,5 м, шырыня — 16 м [148, *5—6*].



*35. Барысаглебская царква ў Навагрудку. Малюнак Н. Орды. 60-я гг. XIX ст.*

У 1986 г. намі праведзена архітэктурна-археалагічнае даследаванне храма. Устаноўлена, што падмурак цэнтральнай грані апсіды выкананы з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. Яго падэшва залягае на глыбіні 2,8 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні. Знешні край падмурка вынесены на 0,7 м ад вонкавай плоскасці сцяны. На вышыні 0,65 м ад верхняга абрэза падмурка прасочана муроўка з блокаў вапняку (28—54×10—30 см), змацаваных вапнава-пясчанай рошчынай. Акрамя вапняку ўжыта плінфа. Асобныя яе кавалкі таўшчынёй 4,5 см пакладзены для выраўноўвання двух верхніх радоў валуноў [168, *44*]. У XVI ст. былі выкарыстаны не толькі будаўнічыя матэрыялы, але і падмуркі храма XII ст., на якіх узведзены сцены асноўнага аб'ёму царквы [145, *79—85*].

У час раскопак намі выяўлена вапняковая пліта (1,8×0,65×0,2 м).



*36. Барысаглебская царква ў Навагрудку. Малюнак Э. Паўловіча. Другая палова XIX ст.*

Гэтая знаходка дазваляе сцвярджаць, што ў XII ст. нарыхтаваны вапняк аднекуль прывезлі ў Навагрудак, дзе майстры-каменячосы з кавалкаў рыхтавалі асобныя блокі. Для будаўніцтва царквы XVI ст. выкарыстана цэгла (28—29×12—13×7—8 см). На адной з яе шырокіх паверхняў прасочваюцца канаўкі.

Асноўны аб'ём помніка XVI ст. мае план амаль квадратнай формы і заканчваецца шматграннай апсідай. Інтэр'ер расчлянёны на тры роўныя па вышыні нефы. Асноўная і алтарная часткі злучаны трыма аркамі спічастай формы, якія часткова абапіраюцца на ўсходнюю сцяну і два слупы. Аналагічны прыём выкарыстаны пры будаўніцтве Верхняй царквы канца XIV — пачатку XV ст. у Гродне, Супрасльскай царквы першай паловы XVI ст. (Польская Рэспубліка), Мікалаеўскага храма XVI ст. у Вільні, касцёла XV ст. у Меркіне (Літоўская Рэспубліка).

У адрозненне ад большасці беларускіх храмаў XVI ст. слупы Барысаглебскай царквы не маюць баз, капітэлей і таму адразу пераходзяць у нервюры скляпенняў і падпружныя аркі спічастай формы. Вертыкальныя цягі слупоў паўтараюць у разрэзе форму падпружных арак. Гэта зрокава павялічвала храм у вышыню, бо разам з адсутнасцю гарызантальных адзнак не дазваляла спыніцца позірку на ўзроўні пераходу нясомых канструкцый у нясучыя. Такому ўражанню спрыяюць і нішы, працягнутыя ў інтэр'еры амаль на вышыню сцен. Своеасаблівым кантрастным фонам, які падкрэслівае вялікія памеры гэтых ніш, з'яўляюцца вокны.

Унутраная прастора храма была перакрыта зорчатымі скляпеннямі. Адчуваецца, якую вялікую ўвагу надавалі дойліды афармленню інтэр'ераў. Значная роля ў гэтым належала і добраму асвятленню, якое паступала праз вокны спічастай формы бакавых фасадаў і апсіды. Першапачаткова, як намі выяўлена, вокны былі зроблены ў кожнай яе грані. Цікава, што тут яны былі больш значных памераў, чым у сценах бакавых фасадаў. Гэтым дойліды, відавочна, хацелі ўзмацніць пранікненне канцэнтраваных патокаў святла ў алтарную частку, каб



37. Праект перабудовы Барысаглебскай царквы ў Навагрудку. 1866 г.



38. Барысаглебская царква ў Навагрудку. План



*39. Барысаглебская царква ў Навагрудку. Агульны выгляд. 20-я гг. XX ст.*

надаць ёй больш святочны выгляд, што шырока практыкавалася ў раманскіх і гатычных базіліках [141, *28*].

Асноўнымі элементамі дэкаратыўнага афармлення фасадаў Барысаглебскай царквы з'яўляюцца вертыкальныя цягі і арачкі спічастай формы. Яны зроблены з прафіляванай цэглы, якая мае адзін скошаны вугал. Аналагічны дэкор выкарыстаны для аздаблення заходняга фасада, які разбурылі ў першай палове XVII ст. [148, *5*]. Пластычную выразнасць знешняга выгляду помніка ўзмацняюць плоскія лапаткі і шматгранныя контрфорсы. Лапаткі размешчаны на бакавых фасадах, а контрфорсы ўмацоўваюць сцены асноўнага аб'ёму і апсіды.

Першапачаткова ўсходні і заходні фасады завяршаліся франтонамі [216, *35*]. Дах быў пакрыты, напэўна, непаліванай дахоўкай таўшчынёй 2 см, якая намі і папярэднімі даследчыкамі выяўлена пад час раскопак. Асабліва маляўнічы выгляд царква набыла ў першай палове XVII ст. Тады падлога была набрана з квадратных, шасціграненых, ромбападобных зялёных паліваных плітак, а для даху выкарыстана зялёная і карычневая паліваная дахоўка.

У архітэктуры Барысаглебскай царквы выразна прасочваюцца гатычныя рысы — зорчатыя скляпенні, падпружныя аркі і вокны спічастай формы, контрфорсы.

Цікавым помнікам познегатычнай архітэктуры з'яўляецца таксама **Святадухаўская царква** ў Кодне (Польская Рэспубліка), пабудаваная ў 1520 г. на тэрыторыі замка



*40. Барысаглебская царква ў Навагрудку. Фрагмент падмурка цэнтральнай грані апсіды*



*41. Святадухаўская царква ў Кодне. План*

побач з мураваным палацам [303, *3*; 316, *53*]. Яе фундатарам быў навагрудскі ваявода Павел Сапега. У 1530 г. яна была перададзена уніятам, у 1817 г. закрыта. Зараз тут размяшчаецца касцёл [303, *4*].

Гэта трохнефавае з паўкруглай апсідай збудаванне. Да паўночнай сцяны алтарнай часткі прымыкае рызніца, якая пасля перадачы царквы пад касцёл прыстасавана пад сакрысцію. Агульныя памеры помніка 28,4×17 м.

Храм пабудаваны з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі на вапнава-пясчанай рошчыне. Ужыта таксама перапаленая цэгла цёмна-ліловага адцення, якая пакладзена ў такой паслядоўнасці, што нагадвае ромбападобны арнамент.

Уваход у храм уяўляе паўцыркульную арку, акцэнтаваную рэнесансавай акаймоўкай. Інтэр'ер перакрыты скляпеннямі, размяшчэнне нервюр якіх мае сеткападобную форму. Звонку сцены царквы раздзелены шматпрыступкавымі контрфорсамі на асобныя праслы. Контрфорсы заходняга фасада дасягаюць франтона. Вокны зроблены толькі ў паўднёвай сцяне асноўнага аб'ёму, што ўласціва таксама Ішкалдскаму і Гнезнаўскаму касцёлам. Ромбападобны арнамент з перапаленай цэглы і наяўнасць на франтоне спараных ніш, якія былі атынкаваны і пабелены, надаюць помніку ўрачысты выгляд. Маляўнічасць фасадаў узмацняюць устаўкі паліхромных плітак з выявамі святых. Гэтыя дэкаратыўныя элементы былі размешчаны на франтонах. На скатах заходняга франтона, відавочна, у больш позні час зроблены невялікія

фігурныя слупкі. Храм быў накрыты высокім двухсхільным дахам.

Разгледжаныя праваслаўныя храмы можна параўнаць з касцёламі Літвы, бо яны ўтвараюць адналькавы кампазіцыйны тып пабудовы [142, *12*]. У адрозненне ад цэркваў Беларусі трохнефавым касцёлам Літвы XVI ст. (храм Св. Юрыя 1504 г. у Коўне, касцёл 1557 г. у Рыкантаі) уласціва вялікая колькасць прафіляваных дэталяў у кампазіцыі фасадаў, размяшчэнне вуглавых контрфорсаў перпендыкулярна сцяне, вокны вялікіх памераў спічастай формы.

Такім чынам, трохнефавыя храмы былі даволі распаўсюджаныя ў беларускім дойлідстве XVI ст. Асноўная іх колькасць узведзена ў першай палове XVI ст., калі ў гатычнай архітэктуры Беларусі ўжо пачалі праступаць рэнесансавыя матывы.

## ТРОХНЕФАВЫЯ ЧАТЫРОХВЕЖАВЫЯ ХРАМЫ АБАРОНЧАГА ТЫПУ

Разнавіднасцю трохнефавых пабудоў з'яўляюцца чатырохвежавыя цэрквы абарончага тыпу. Першым храмам, фланкіраваным чатырма вежамі, была Полацкая Сафія, якая такую кампазіцыйную схему атрымала ў час перабудовы 1494—1505 гг. [243, *18—23*]. На вядомай гравюры С. Пахалавецкага «Аблога Полацка войскамі Стэфана Баторыя» і плане Полацка 1707 г. царква паказана з чатырма вежамі




*42. Сафійскі сабор у Полацку. 1 — з малюнка 1579 г.; 2 — з плана 1707 г.*




*43. Выява Сафійскага сабора на гравюры XIX ст. «Ефрасіння Полацкая»*

па вуглах. Завяршаў аб'ёмную кампазіцыю помніка вежападобны купал. Цікава, што на гравюры XIX ст. «Ефрасіння Полацкая», якая зроблена са старажытнага абраза, што знаходзіўся ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры [83, *28*], Сафійскі сабор таксама мае чатыры вежы па кутах. У XVII—XVIII стст. помнік неаднаразова перабудоўвалі, што вельмі змяніла яго архітэктуру [239, *128—129;* 219, *63*; 232, *3*].

У 1975—1980 гг. ленінградскім археолагам Вал. А. Булкіным былі праведзены архітэктурна-археалагічныя даследаванні Полацкай Сафіі. Аднак рэшткі вежаў не выяўлены [97—101]. Цяжка ўявіць, што вежы былі вырашаны ў выглядзе эркера. Відавочна, падмуркі храма не былі глыбока апушчаны ў зямлю пры яго перабудове ў канцы XV—пачатку XVI ст. Не выключана, што вежы з неглыбокімі падмуркамі былі прыбудаваны да храма ў выніку вострай неабходнасці, выкліканай складанымі палітычнымі падзеямі [167, *21*].

На тэрыторыі Ніжняга замка ў Полацку знаходзіўся яшчэ адзін пяцівежавы храм, вельмі падобны на Полацкую Сафію. Гэты помнік адзначаны на плане Полацка 1707 г.

Ускосным сведчаннем распаўсюджанасці такога тыпу храма на Беларусі, напэўна, з'яўляецца таксама прывезеная адсюль у XVI ст. у Пскоў скульптура Св. Мікалая, які трымае ў руцэ мадэль царквы абарончага тыпу [199, *123*].

У пытанні пра паходжанне беларускіх чатырохвежавых храмаў мы падзяляем гіпотэзу польскага гісторыка С. Александровіча [278, *8*] і беларускага археолага М. Ткачова [243], што Полацкая Сафія была прататыпам іншых аналагічных па-



*44. Мадэль абарончага храма*

будоў — Сынковіцкай, Мураванкаўскай (Маламажэйкаўскай), Супрасльскай цэркваў, а таксама, як намі ўстаноўлена, Прачысценскага і Троіцкага храмаў у Вільні.

**Сынковіцкая царква** знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне в. Сынковічы (Гродзенская вобл.). Храм уключаны пад нумарам 414а

ў каталог помнікаў сусветнай архітэктуры [317].

Дакументы, якія б сведчылі пра час яго будаўніцтва, не захаваліся. Гэта разам з недастатковай вывучанасцю царквы з'явілася прычынай шэрагу супярэчлівых, няправільных, а часам нават яе неверагодных датаванняў.

Так, лічылася, што яе пабудавалі ці то ў часы Яраслава, ці ў перыяд нашэсця Батыя, калі ў 1240 г. Слонім быў разбураны мангола-татарамі пад кіраўніцтвам хана Қайдана [104, *236*]. Памылковай з'яўляецца таксама думка, што храм пастаўлены пры Зыгмунце III літоўскімі татарамі, якія ўцяклі са Слоніма ад каралеўскага ўціску [89, *2*]. У краязнаўчай літаратуры пачатку XX ст. адзначалася, што царква ўзведзена ў 1410 г. [302, *9*]. Сучасны краязнаўца У. Супрун адносіць час яе будаўніцтва да 1407 г., абгрунтоўваючы гэтую дату наступнымі фактамі. У 1907 г. святкавалася 500-годдзе Мураванкаўскага храма, які пабудаваны, на яго думку, адначасова з Сынковіцкай царквой [234, *34—35*]. Мы ўжо пісалі пра непрымальнасць гэтай аргументацыі для датавання царквы [174,




*45. Сынковіцкая царква. Заходні фасад, план, паўднёвы фасад, папярэчны разрэз (паводле У. Чантурыі)*



*46. Сынковіцкая царква. Фрагмент падмурка паўднёвай сцяны і паўднёва-ўсходняй вежы*

*70*]. Далей У. Супрун звяртае ўвагу на звон з надпісам «Anno Domini. 1460 г.», выяўлены пад падлогай у час аднаго з рамонтаў царквы ў XIX ст. Значыць, яна ўзведзена, як ён лічыць, у пачатку XV ст., бо званы выраблялі пасля будаўніцтва храмаў [234, *351*]. Аднак тут не ўлічваецца тое, што ў пачатку XV ст. у в. Сынковічы, магчыма, была пабудавана драўляная царква, якую У. Супрун атаясамлівае з вядомым помнікам першай паловы XVI ст. Затым званы храма пачатку XV ст. маглі перанесці на новую мураваную царкву.

У 1841 і 1880—1881 гг. праводзіліся рамонты, якія не ўнеслі істотных змен у архітэктурны выгляд помніка.

У 1888—1889 гг. вакол храма зроблена агароджа. У 1891 г. недалёка ад уваходу ў царкву пабудавана званіца [142, *198—299*], якая стылістычна не адпавядае помніку.

Упершыню яго вывучаў І. Ядкоўскі, які датаваў храм пачаткам XVI ст. [142, *300*]. М. М. Шчакаціхін лічыў, што царква ўзведзена ў канцы XV — першай палове XVI ст. [266, *245*]. Польскі архітэктар Ст. Лёрэнтц датаваў яе XVI ст. [302, *9*]. М. А. Ткачоў на аснове архіўных дакументаў пераканаўча даказаў, што храм паставілі ў першай палове XVI ст. [79, *66*]. Мы таксама прытрымліваемся гэтай даты.

Сынковіцкая царква крыху асіметрычная ў плане. М. А. Ткачоў гэта тлумачыць ужываннем пры яго разбіўцы не вельмі дакладных вымяральных інструментаў [79, *68*]. Аднак не выключана, што першапачаткова план храма быў акрэслены геаметрычна правільна, а адхіленні

былі дапушчаны ў працэсе будаўніцтва. Помнікі з аналагічна вырашаным планам сустракаюцца таксама ў культавым дойлідстве Літвы XV ст. (касцёлы Св. Мікалая і Св. Гертруды ў Коўне) [122, *238—239*].

З усходу Сынковіцкая царква заканчваецца трыма паўкруглымі апсідамі, характэрнымі для ўсходнеславянскай архітэктуры XII—XIII стст., якія адпавядаюць шырыні нефаў. Усе апсіды аднолькавай вышыні, ніжэйшыя за асноўны аб'ём. З заходняга боку да гэтага аб'ёму прымыкае прытвор.

Па вуглах храма знаходзяцца чатыры вежы. Заходнія вежы ў ніжняй частцы маюць чатырохвугольную форму, умацаваны з трох бакоў слаба выяўленымі контрфорсамі. Верхняя частка вежаў мае васьмігранную форму. Усходнія вежы цыліндрычнай формы.

У 1985 г. мы праводзілі архітэктурна-археалагічнае даследаванне помніка ў сувязі з распрацоўкай праекта яго кансервацыі [51]. Устаноўлена, што сцены царквы ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (26—27×13—13,5×7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. У апсідах цэгла пакладзена тычкамі вонкі, напэўна, па канструкцыйных меркаваннях, каб надаць іх сценам паўкруглую форму. Таўшчыня швоў рошчыны — 2—4 см. Яны былі падрэзаныя і мелі трохвугольную форму.

Падмуркі царквы выканаьы з цэглы (?×13,5—14×7 см) і валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. Назіраецца 5—7 радоў валуноў. Кожны рад выраўноўваецца 1—3 радамі цэглы. Прамежкі паміж валунамі таксама запоўнены цэглай.

У падмурку валуны розных памераў не размеркаваны паслядоўна. Падэшва падмурка залягае на глыбіні 3—3,5 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні. У паўночным нефе пад драўлянай падлогай выяўлены пахаванні, змешчаныя ў камеры з цэглы, якія не былі перакрыты скляпеннямі. Рэшткі цаглянай падлогі, пра якую пісаў І. Ядкоўскі, не прасочаны [142, *306*].

Падмуркі прытвора магутнасцю 1,6 м узведзены з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне з вялікімі дамешкамі дробных камянёў. Паміж падмуркамі прытвора і асноўнага аб'ёму царквы адсутнічае перавязка, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. На гэта ўказвае і неаднолькавы фармат цэглы. Яе памеры ў прытворы — 27×14×7 см [51, *3—4*]. М. А. Ткачоў лічыць, і мы падзяляем яго думку, што прытвор паставілі не пазней



*47. Сынковіцкая царква. Крыжовае скляпенне цэнтральнага нефа*

XVI ст. [78, *69*]. Пра гэта сведчыць тэхніка муроўкі яго сцен, склад рошчыны, якія амаль ідэнтычныя выкарыстаным у сценах царквы.

Цікава, што першапачаткова ўваход у прытвор знаходзіўся ў паўднёвай сцяне. Гэта дазваляла больш эфектыўна весці абарону храма. Па заходніх вуглах прытвора былі ўзведзены вежачкі цыліндрычнай формы, якія спрыялі ўдалай мастацкай увязцы гэтай прыбудовы з асноўным аб'ёмам царквы.

У адрозненне ад Мураванкаўскага і Супрасльскага храмаў у Сынковіцкай царкве не было над уваходам мураваных хораў, а толькі, напэўна, драўляныя, якія не захаваліся.

Чатыры слупы падзяляюць унутраную прастору помніка на тры нефы аднолькавай вышыні. Аснова слупоў у сячэнні квадратнай формы, а вышэй — васьмігранная. На гэтым узроўні грані слупоў маюць як роўную, так і моцна ўвагнутую паверхню, што добра падкрэсліла іх вертыкальнасць. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, паўднёва-ўсходняя апсіда — сотавым, уласцівым гатычнай архітэктуры.





*48. Сынковіцкая царква. Бакавы выгляд, план і падоўжны разрэз байніцы паўночна-заходняй вежы. Абмеры аўтара. Выканаў Л. Міронччык*

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў травеях усходняй часткі асноўнага аб'ёму царквы не былі зроблены вокны. Гэта прывяло да нераўнамернага асвятлення інтэр'ера. Такое размяшчэнне вокнаў можна растлумачыць пралікам пры размеркаванні паміж контрфорсамі і ўсходнімі вежамі праслаў бакавых сцен. Вокны маюць характэрную для готыкі спічастую форму.

У інтэр'еры сцены падзелены на асобныя праслы лапаткамі прамавугольнай формы, якія звязаны са слупамі падпружнымі аркамі. Звонку лапаткам адпавядаюць контрфорсы. Лапаткі маюць вынас 0,25—0,27 м і разам з нішамі апсід ажыўляюць аднародную паверхню сцен.

На фасадах царквы амаль не ўжывалася перапаленая цэгла. З яе вымураваны толькі крыж невялікіх памераў на адной з граняў паўночна-заходняй вежы.

Усходні і заходні фасады заканчваюцца франтонамі трохвугольнай формы, якія значна танейшыя за сцены і аддзяляюцца ад іх гзымсам складанага профілю. Гзымс раздзелены байніцамі-машыкулямі на асобныя часткі, што ўтвараюць своеасаблівую аркатуру, якая добра гарманіруе з поясам паўцыркульных арачак алтарных апсід і ўсходніх вежаў.

Франтоны ўпрыгожаны шматлікімі нішамі розных формаў і памераў, якія згладжваюць абарончы характар царквы і надаюць яе знешняму выгляду сціплую ўрачыстасць. У гэтым кантрастным чаргаванні

дэкаратыўных элементаў прасочваюцца рысы тэктанічнай структуры рэнесансавага фасада.

На заходнім фасадзе звяртае ўвагу добра выяўленая вось сіметрыі, падкрэсленая акном, якое размяшчаецца над уваходам у храм і асвятляе пераважна цэнтральны неф, а таксама дзвюма нішамі і эркерам. Нішы знаходзяцца на аднолькавай адлегласці адносна гэтай восі, дзякуючы чаму царква выглядае цэльнай і ўраўнаважанай. Усходні франтон, як і першапачаткова, амаль увесь закрыты высокім конусападобным дахам, таму нішы ўпрыгожваюць толькі яго бакавыя часткі.

У дэкаратыўным афармленні Сынковіцкай царквы прасочваецца шэраг аналогій з замкам у Міры [142, *305*], што ўпершыню было адзначана І. Ядкоўскім і пацверджана іншымі даследчыкамі беларускага дойлідства. Гэта дазволіла ім выказаць меркаванне, што Мірскі замак і Сынковіцкую царкву ўзводзілі адны і тыя ж майстры. Мы не выключаем такой магчымасці, тым больш што храналагічныя рамкі будаўніцтва помнікаў не супярэчаць гэтаму.

Аднак яшчэ больш агульных рысаў знаходзім мы ў архітэктуры Сынковіцкай царквы і Троіцкага храма першай паловы XVI ст. у Вільні. Гэта і вельмі падобны іх першапачатковы план, ужыванне тромпаў у завяршэнні сцен апсід, упрыгожанне аркатурным поясам толькі сцен усходніх вежаў і апсід. Таму, відавочна, мы можам сцвярджаць, што гэтыя помнікі — вынік працы адных і тых жа дойлідаў.




*49. Сынковіцкая царква. План баявой галерэі. Выканала група архітэктараў пад кіраўніцтвам Г. Жаровінай*




*50. Сынковіцкая царква. Падоўжны разрэз байніцы-машыкулі. Выканаў Л. Міронччык*

Да апошняга часу абарончая сістэма Сынковіцкага храма не была дэталёва ахарактарызавана. Даследчыкі ў асноўным адзначалі толькі наяўнасць байніц у вежах і на паддашку, аднак не прыводзілі іх планы і разрэзы, не апісвалі сістэму размяшчэння.

Вежы храма да ўзроўню гзымса маюць байніцы рознай формы і размешчаны ўразбіўку. Большасць байніц маюць прамавугольную ў плане нішу. Радзей сустракаюцца байніцы з нішай, якая паўтарае ў плане формы трапецыі, шырокая аснова яе звернута ўнутр вежаў. Вышэй узроўню гзымса знаходзяцца байніцы, якія ўтвараюць тры ярусы. У кожным ярусе іх налічваецца 4—5. Размешчаны яны ў неглыбокіх паўцыркульных нішах прамавугольнай формы.

Унутры вежаў зроблены вінтавыя ўсходы. Яны вядуць на паддашак, дзе ў завяршэнні сцен маецца баявая галерэя. Складаецца яна з двух тыпаў байніц, якія чаргуюцца паміж сабой. Першы тып прадстаўлены байніцамі-машыкулямі. Аднак гэтыя байніцы нельга было выкарыстаць паводле іх прызначэння (ліццё вару, смалы, скідванне камянёў). Яны былі зручнымі толькі для абстрэлу подступаў да храма з ручной агністрэльнай зброі.

Да другога тыпу належаць байніцы, што зроблены ў дастаткова




*51. Сынковіцкая царква. Бакавы выгляд, план, падоўжны разрэз байніцы баявой галерэі. Абмеры аўтара. Выканаў Л. Міронччык*

глыбокіх і высокіх нішах, якія завяршаюцца паўцыркульнай перамычкай. Раструбы шчок расшыраюцца ўнутр. Нішы вялікіх памераў дазвалялі абстрэльваць праз байніцы як подступы, так і прылеглую да храма тэрыторыю. Цікава, што ўздоўж сцен па скляпеннях, аб чым сведчаць заглыбленні ў іх, быў пакладзены драўляны насціл для перамяшчэння абаронцаў на выпадак бою. У завяршэнні заходняга франтона зроблены эркер з байніцай, адкуль можна было не толькі страляць, але і назіраць за праціўнікам.

Як бачым, байніцы знаходзяцца ў вежах і завяршэнні сцен храма, што сведчыць пра размежаванне ў ім культавых і абарончых функцый.



*52. Сынковіцкая царква. Выгляд з усходняга боку. Фота 30-х гг. XX ст.*

Першапачаткова помнік меў высокі двухсхільны дах, абшыты гонтай. Пра гэта сведчаць ганціны, што захаваліся ў байніцах паўночна-заходняй вежы і звонку ў адтулінах ад рыштаванняў. У XVIII ст. у цэнтры даху царквы ўзвышалася невялікая драўляная вежа-званічка.

Арыгінальны прыём выкарыстаны пры перакрыцці апсід. Звычайна кожная з іх мела асобны дах. Аднак у Сынковіцкай царкве ўсе тры апсіды знаходзяцца пад адным дахам. Гэта стала магчымым за кошт узвядзення паміж апсідамі ў завяршэнні сцен тромпаў, якія ператвараюць дах пабудовы з трохапсідным планам у аднаапсідны варыянт. Такі прыём спрашчае канструкцыю даху і спрыяе цэльнасці аб'ёмнай кампазіцыі.

Не менш цікавым чатырохвежавым храмам з'яўляецца **Мураванкаўская царква,** што ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, у мастацтвазнаўчай літаратуры вядомая пад назвай Маламажэйкаўскай.

Мураванкаўскую царкву вывучалі І. Ядкоўскі, М. Шчакаціхін, А. Шышка-Богуш, У. Чантурыя, М. Ткачоў, А. Трусаў. Аднак да апошняга часу не праводзілася ўсебаковага і дэталёвага вывучэння помніка. З-за гэтага яшчэ і зараз трапляюцца навукова неабгрунтаваныя думкі наконт яго прыналежнасці да архітэктуры Літвы і датавання.

Так, у адрозненне ад вядучага даследчыка беларускага дойлідства ў Літве А. Янкявічэне [274] маскоўскі вучоны А. Фліер бяздоказна сцвярджае, што Мураванкаўская царква з'яўляецца помнікам літоўскай готыкі. Зыходзіць ён з таго, што царква пабудавана ў месцы канцэнтрацыі літоўскага насельніцтва і сам фундатар Шымка Мацкевіч



*53. Мураванкаўская царква. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*

паходзіў з літоўскага роду Юндзілаў [249, *164*]. Краязнаўца У. Супрун, як і аўтары артыкулаў другой паловы XIX — пачатку XX ст. [189, *187*], лічыць, што «Мураванка» ўзведзена ў 1407 г., а не ў першай палове XVI ст. [234, *34—36*].

У літаратуры XIX ст. царква датавана пачаткам XV ст. на падставе вельмі спрэчнага дакумента 1648 г. У ім гаворыцца, што «Отец Феодосий Воротынский, протопоп Лидский, до книг митрополитных... в Новогрудку будучи... подал лист ограниченный церкви Мало Мажейковской Мурованой грунтов, лесов, сеножатей, самого седлиска и прочих принадлежностей, сходно ста-

родавнего фундуша, учиненного чрез зошлого его милости Шимка Мацкевича Шкленского, подконюшего Виленского, державцы Ушпальского, Пенянского и Радунского, наданых и належачих на тую ж церковь Мурованую, в повете Лидском лежачую и им побудованую, року 1407 мая 10 дня» [243, *271—272*]. Дакладнасць гэтага дакумента не даказаная, бо няма спасылак на першакрыніцу. Яго супярэчлівасць таксама ў тым, што ў 1407 г. Шымкі Мацкевіча яшчэ не было на свеце. У 1542 г. ён зрабіў завяшчанне на карысць царквы [142, *271*]. Вось тады яна ўжо стаяла.

Асноўны аргумент У. Супруна — той факт, што ў час рамонту 1871—1872 гг. быў адкапаны ў храме камень з надпісам «Христово раб Иерей Авраам, 1469 г.» Значыць, царква ўжо існавала ў XV ст., на яго думку, і пабудавана вялікім князем Вялікага княства Літоўскага Вітаўтам у далёкім ад дарог і значных населеных пунктаў месцы [234, *36*]. Аднак і гэтая знаходка неабгрунтаваная, бо невядома, як валун трапіў у царкву. Напрыклад, яго маглі пакласці тут у час цырымоніі перанясення мошчаў духоўнай асобы з ранейшага драўлянага храма, што даволі часта практыкавалася ў той час. Не выключана, што гэты камень быў падабраны пры нарыхтоўцы будаўнічых матэрыялаў, але выпадкова не трапіў у муроўку. Выкарыстанне надмагільных пліт у падмурках храмаў прасочана ў рус-



*54. Мураванкаўская царква. Выгляд з паўднёва-заходняга боку. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*

кай архітэктуры XVII—XVIII стст. (Георгіеўская царква Георгіеўскага манастыра ў Маскве) [115, *36*]. Без археалагічных даследаванняў в. Мураванкі нельга сцвярджаць, што Мураванкаўская царква пастаўлена далёка ад мястэчка. Трэба ўлічваць, што ўзвядзенне такой пабудовы патрабавала не толькі шмат матэрыяльных сродкаў, але і вялікай колькасці майстроў, а таксама падсобных рабочых. Таму ніякі фундатар не стаў бы ўзводзіць храм у чыстым полі. Хутчэй за ўсё яго будавалі калі не ў вялікім мястэчку, то побач з ім.

Што датычыць сцвярджэння А. Фліера, то ён пярэчыць сабе, бо большасць насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім складалі беларусы, якія пераважна былі праваслаўнымі. Пакуль што з-за адсутнасці дакументаў немагчыма канкрэтна сказаць што-небудзь пра паходжанне фундатара. Калі б ім быў Шымка Мацкевіч, то не ён складаў у 1542 г. завяшчанне на набажэнства ва ўласнай царкве за здароўе сваё і сваіх родных [234, *35*]. Магчыма, храм пабудаваў князь Васіль Палубенскі, які ў 1514 г. атрымаў ад караля Жыгімонта I пацвярджальную грамату на маёнтак Мажэйкаў у Жалудоцкім павеце [142, *274*].



*55. Унутраны выгляд Мураванкаўскай царквы з акварэлі Пятрова. Сярэдзіна XIX ст.*

За час свайго існавання Мураванкаўская царква-крэпасць неаднойчы падвяргалася выпрабаванням. У час руска-польскай вайны 1656 г. яна была моцна пашкоджана і адноўлена толькі праз некалькі гадоў. У 1706 г. войскі Карла XII, ідучы праз Жалудок на Палтаву, абстралялі па загаду караля царкву, якая здзівіла яго сваім незвычайным выглядам. Пасля гэтага яна моцна запусцела і была ў такім стане да пачатку XIX ст. [240, *123*] (у інвентары царквы за 1804 г. зроблены запіс пра яе занядбанасць). Адноўлена яна была, па адных крыніцах, у 1817 г. [240, *123*], па другіх — у 1822 г. [142, *282*]. Пералік рамонтных работ не прыводзіцца ў літаратуры. Вядома толькі, што быў перароблены верх франтонаў і адрамантаваны дах. Больш значна зменена аблічча храма ў выніку рамонту 1871—1872 гг. Заходнія вежы былі ўзняты на сажань і ў адной з іх зрабілі званіцу. Да заходняга фасада прыбудавалі прытвор. Ва ўсходніх вежах зніклі драўляныя лесвіцы, была замуравана частка байніц [332, *300*]. У адзін з рамонтаў XIX ст. у перадалтарнай частцы пабудавана сцяна. Яна ёсць на плане царквы, які зрабіў А. Шышка-Богуш. Паводле інвен-

тарнага апісання за 1796 г., яе тады яшчэ не было. Безумоўна, гэта адбылося ў XIX ст., бо ў пачатку XX ст. пра сцяну ўжо пісаў І. Ядкоўскі [142, *282*]. Яна добра прасочваецца на выяўленай намі акварэлі «Мураванкі». У 20—30-я гады XX ст. сцяну разбурылі. У XIX ст. вакол храма была пастаўлена агароджа.

І. Ядкоўскі, які па даручэнні Маскоўскага археалагічнага таварыства даследаваў у 1913 г. шэраг помнікаў абароннага дойлідства, датаваў яго першай паловай XVI ст. М. М. Шчакаціхін на аснове мастацтвазнаўчага аналізу прыйшоў да вываду, што найбольш верагодны час будаўніцтва храма — першая палова XVI ст. М. А. Ткачоў таксама датуе яго першай паловай XVI ст., дзесьці паміж 1516 і 1542 гг. Мы далучаемся да гэтага меркавання.

Мураванкаўская царква ўяўляе сабой трохнефавае аднаапсіднае збудаванне, амаль квадратнае ў плане. Агульная даўжыня храма — 21,7 м, шырыня — 14,8 м. У час даследаванняў не выключалася магчымасць, што помнік пабудаваны на месцы ці на падмурку ранейшага храма. У сувязі з гэтым было праведзена дэталёвае вывучэнне падмуркаў Мураванкаўскай царквы і прылягаючага да яе культурнага слоя. Устаноўлена, што падмуркі складзены з неапрацаваных валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне з запаўненнем вялікіх пустот бітай цэглай і дробным каменнем. Валуны розных памераў ляжаць у падмурках нераўнамерна. Глыбіня залягання па-




*56. Мураванкаўская царква. План скляпенняў. Выкананы групай архітэктараў пад кіраўніцтвам Л. Паўлавай*



*57. Мураванкаўская царква. Фрагмент падмурка апсіды. Фота аўтара. 1985 г.*

на стыку сцен усходніх вежаў і апсіды востры вугал у падмурку, майстры пашырылі яго ў гэтым месцы. У шурфе, які быў закладзены звонку па цэнтру апсіды, падмурак не выступае за плошчу сцяны і раўняецца прыкладна яе таўшчыні. Тут ён больш шчодра заліты рошчынай, што надало яму гарызантальна-слаістую структуру. Па ўсім перыметры храма цагляная муроўка сцен пачынаецца ад верхняга абрэза падмуркаў. Старажытны ўзровень зямлі XVI ст. знаходзіцца на глыбіні 0,6 м [49, *56*].

У інтэр'еры храма археалагічнымі даследаваннямі не ўдалося выявіць не толькі рэшткаў, але нават і ўзроўню старажытнай падлогі, якую разабралі для будаўнічых



*58. Мураванкаўская царква. Партал. Фота аўтара. 1985 г.*

дэшвы падмуркаў царквы ад узроўню сучаснай дзённай паверхні складае 2,8—3 м. Іх магутнасць ад верхняга абрэза да падэшвы — 2,4 м. Падмурак выступае ад вонкавай плоскасці сцен на 0,5—0,7 м. Яго агульная таўшчыня дасягае амаль 3 м.

У шурфе, закладзеным у вугле, які ўтвораны сцяной паўднёва-заходняй вежы і паўднёвым фасадам царквы, на глыбіні 0,8—1 м прасочана забутоўка (шырыня 0,9 м, вышыня 1,2 м) з валуноў рознай велічыні, пакладзеных насуха. Ніякай канструкцыйнай сувязі з падмуркам гэтая забутоўка не мае. Лічым, што ўтварылася яна ў працэсе засыпкі падмуркавых рвоў. Каля паўночнага, а таксама ўсходняй паловы паўднёвага фасада аналагічных забутовак не знойдзена. Каб не выкладаць



*59. Мураванкаўская царква. Зорчатыя скляпенні. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*

патрэб у час аднаго з рамонтаў XIX ст. Аднак няма сумнення, што яна была высцелена са спецыяльна выробленай цэглы памерам 25—27,5×21—22×8—9, 22—23×21—22×7 см. Гэтая цэгла выяўлена ўнутры царквы на рознай глыбіні, у прыступках вінтавых лесвіц заходніх вежаў і ў сотавых скляпеннях [165, *30—32*]. Такім чынам, слядоў ранейшага храма няма. Не пацвердзілася існаванне падземнага хода з царквы і другога вялікага сутарэння, аддзеленага ад наяўнага каменнай сцяной [91, *129*].

Сцены храма таўшчынёй каля 2 м узведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі (28—29×13—14×7—8 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Амаль тых жа памераў цэгла ўжыта ў такіх помніках першай паловы XVI ст., як Троіцкая і Мікалаеўская цэрквы ў Вільні, Барысаглебская царква ў Навагрудку. Уся цэгла добра абпаленая. Выкарыстанне перапаленай, амаль чорнай з зеленаватым адценнем цэглы са светла-чырвонай і жоўта-карычневай надае маляўнічасць фасадам царквы. Над парэбрыкам у шахматным парадку з перапаленай цэглы зроблены своеасаблівы дэкаратыўны паясок [165, *30*]. На вонкавых паверхнях сцен прасочана правільнае чаргаванне лажкоў-тычкоў і перавязка швоў суседніх радоў. Швы (таўшчынёй 3,5—2 см) старанна падрэзаны і маюць у профілі трохвугольную форму. Самая ранняя расшыўка швоў у беларускай архітэктуры датуецца другой паловай XIII ст. У XIV — першай палове XV ст. гэтая традыцыя была забыта. У куль-

тавым дойлідстве да яе вярнуліся толькі ў другой палове XV ст. [245, *152—153*]. Добрай якасці цэгла і акуратная падрэзка швоў надалі муроўцы высокую мастацкую дасканаласць.

Храм мае адзін уваход. Гэта паўцыркульная арка, якая размешчана на восі сіметрыі галоўнага фасада. Дзвярны праём акцэнтаваны нішай спічастай формы і валікавай цягай, што ахоплівае яго суцэльнай стужкай. Уваход у храм, як сведчаць літаратурныя крыніцы XIX — пачатку XX ст., раней зачыняўся жалезнымі дзвярыма і абарончай кратай-герсай, якую знялі ў першай палове XIX ст. [332, *347*]. Калі яна існавала, то знаходзілася ў нішы, што ёсць унутры над уваходам. Аднак натурнымі даследаваннямі архітэктараў інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» пад кіраўніцтвам Л. Паўлавай не выяўлена слядоў шчыліны, праз якую яе маглі апускаць.

Заходнюю частку храма на шырыню цэнтральнага нефа займаюць мураваныя хоры, якія абапіраюцца на два слупы і заходнюю сцяну. У цэнтры галоўнага фасада — круглае акно, тыповае для раманскай і гатычнай архітэктуры. Узыходзілі на хоры па лесвіцы паўднёва-заходняй вежы.

Унутраная прастора храма перакрыта зорчатымі і сотавымі скляпеннямі, цяжар якіх перададзены ў цэнтральнай частцы на васьміграннія слупы. У нервюрах зорчатых скляпенняў цэнтральнага нефа і апсіды выкарыстана цэгла (7,5×9×30 см) стрэлападобнай формы. З такой цэглы вымураваны амаль



*60. Мураванкаўская царква. Сотавыя скляпенні. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*



*61. Мураванкаўская царква. Зорчатыя скляпенні алтарнай часткі. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*

усе падпружныя аркі, што зрабіла іх завостранымі. Па кампазіцыі нервюры вельмі блізкія да нервюраў скляпенняў касцёлаў Прыбалтыкі. Цікава, што зорчатыя скляпенні з'явіліся ў Заходняй Еўропе ў другой палове XIII ст., а ў XV ст. запазычаны дойлідамі Беларусі і Літвы.

Бакавыя нефы перакрыты сотавымі скляпеннямі. Яны больш складаныя па тэхніцы муроўкі, чым зорчатыя. У Мураванкаўскай царкве сотавыя скляпенні зроблены з квадратнай і брусочнай цэглы, пакладзенай так, каб на паверхню выступалі кароткія бакі, якія і складаюць рэбры скляпенняў.

Дойліды, што працавалі над узвядзеннем храма, добра ведалі канструкцыйна-тэктанічную структуру гэтых скляпенняў, якія маюць вялікую ўласную вагу, і таму перакрылі імі нязначныя бакавыя пралёты нефаў. Упершыню сотавыя скляпенні выкарыстаны ў Саксоніі ў 70-х гадах XV ст. [212, *219*]. Найбольш раннія прыклады ў Чэхіі, Славакіі і Польшчы датуюцца апошняй чвэрцю XV ст. У літоўскім, беларускім дойлідстве гэтыя скляпенні адносяцца да першай паловы XVI ст. [79, *228*]. Нервюры Мураванкаўскай царквы выконваюць пераважна дэкаратыўную ролю, паколькі нагрузкі ва ўсёй абалонцы скляпенняў размяркоўваюцца раўнамерна. У сувязі з гэтым адпала неабходнасць у іх спічастым профілі. Сістэма скляпенняў «Мураванкі» ў параўнанні з крыжовымі скляпеннямі Сынковіцкай царквы больш

развітая, што сведчыць пра багатыя дэкаратыўныя магчымасці гатычных канструкцый [266, *256*].

Асноўны аб'ём царквы вышэйшы за алтарную частку, злучаецца з ёю аркай, якая мае спічастыя абрысы і абапіраецца на ўсходнюю сцяну. Праём аркі амаль адпавядае шырыні апсіды. На арку перададзена нагрузка франтона і — часткова — скляпенняў асноўнага аб'ёму і апсіды. У адрозненне ад Супрасльскага храма Мураванкаўская царква-крэпасць не была ўпрыгожана фрэскамі, як лічыць хімік інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» М. Цэйтліна, а толькі пакрыта таніраванай тынкоўкай. У кожнай травеі бакавых нефаў знаходзіцца акно, што сведчыць аб суладнасці чляненняў фасадаў з арганізацыяй унутранай прасторы. У апсідзе спачатку планавалася вымураваць тры акны, ніжэй, чым яны існуюць зараз. Аднак, мяркуючы па саставу рошчыны і фарматаў цэглы, яны былі адразу ж замураваны, напэўна, па фартыфікацыйных разліках і выведзены на ўзровень вокнаў асноўнай часткі храма. Як устанавіла група архітэктараў-рэстаўратараў пад кіраўніцтвам Л. Паўлавай, звонку іх адкосы былі аформлены двума радамі прафіляванай цэглы (выкружка).

Па вуглах храма размешчаны вежы цыліндрычнай формы, якія былі калісьці аднолькавай вышыні. У адрозненне ад Сынковіцкай царквы тут яны, наадварот, як бы ўцягнуты ў вуглы, што надало ўсяму аб'ёму кампактнасць. Заходнія вежы ў дыяметры большыя за ўсходнія. Ва ўсходніх былі драўляныя, у заходніх — мураваныя вінтавыя лесвіцы. Яны вядуць да верхніх ярусаў вежавых байніц, а таксама да байніц баявой галерэі на паддашку. У заходніх вежах пяць ярусаў байніц, ва ўсходніх — чатыры. Усе ярусы адрозніваюцца колькасцю байніц, іх памерамі і формай.

План байніц першага яруса заходніх вежаў і апсіды мае форму трапецыі, якая звернута шырокім бокам унутр. У аснове гэтых вежаў знаходзяцца па тры мураваныя байніцы. Наяўнасць у алтарнай частцы дзвюх выяўленых намі байніц сведчыць аб тым, што ў Мураванкаўскай царкве не былі размежаваны культавыя і абарончыя функцыі, што таксама характэрна для касцёла XVI ст. у Брохаве (Польская Рэспубліка), Багаяўленскай царквы Астрожскага замка сярэдзіны XV ст. на Украіне. У другім ярусе наліч-




*62. Мураванкаўская царква. План, падоўжны разрэз, бакавы выгляд байніц. Схематычныя абмеры аўтара. Выканаў А. Спорык*

ваецца па дзве байніцы, якія пашыраюцца ўнутр. Такой жа формы і байніцы першых двух ярусаў усходніх вежаў. Трэці ярус паўднёва-заходняй вежы складаюць чатыры байніцы, а паўночна-заходняй — тры. Іх раструбы шчок таксама пашыраюцца ўнутр вежы. Чацвёрты ярус гэтых вежаў пададзены трыма спаранымі байніцамі-машыкулямі, а пяты — трыма байніцамі з паўцыркульным завяршэннем.

Ва ўсходніх вежах — чатыры ярусы байніц: у першым ярусе паўночна-ўсходняй вежы — дзве, паўднёва-ўсходняй — адна, у другім — па тры, у трэцім ярусе — па тры байніцы-машыкулі, у чацвёртым столькі ж з завяршэннем паўцыркульнай формы. У адрозненне ад Сынковіцкай і Супрасльскай цэркваў на паддашку Мураванкаўскага храма няма такога мноства байніц. Праз байніцы-машыкулі галерэі, а таксама вежаў можна было весці абстрэл толькі подступаў да царквы. Па дзве байніцы былі ў франтонах; ва ўсходнім франтоне — у форме замочнай шчыліны, у заходнім — вокнападобныя.



*63. Мураванкаўская царква. Падоўжны разрэз. Выканала група архітэктараў пад кіраўніцтвам Л. Паўлавай*

Памеры і формы байніц Мураванкаўскай царквы сведчаць, што яны былі прыстасаваны для ручной агнястрэльнай зброі. З першага яруса абстрэльвалася прылеглая тэрыторыя, з астатніх — як подступы да муроў, так і далёкая адлегласць. Можна пагадзіцца з М. Ткачовым, што Мураванкаўская царква і астатнія абарончыя храмы не маглі процістаяць значнаму войску. У іх мясцовае насельніцтва магло схавацца і арганізаваць адпор толькі невялікім варожым атрадам, якія спустошалі край.

Дойлід, што кіраваў будаўніцтвам гэтага помніка, быў не толькі добрым архітэктарам, фартыфікатарам, але таксама вытанчаным мастакомдэкаратарам. Ён праявіў выдатнае веданне канструкцыйных і эстэтычных якасцей будаўнічага матэрыялу. У аснову дэкору фасадаў царквы пакладзена чаргаванне нішаў розных абрысаў і велічыні. Дзякуючы такой кантрастнасці, пашыранай, дарэчы, у рэнесансавай архітэктуры, удалося пазбегнуць манатоннасці і сухасці гэтых элементаў.

Цікавасць уяўляюць і спараныя паўцыркульныя нішы з невялікім замком, якія ўласцівы раманскай і гатычнай архітэктуры. У XV ст. яны часта сустракаюцца ў гатычных пабудовах Гданьска, у канцы XV ст. з'явіліся ў Літве, у касцёле Св. Гертруды ў Коўне [291, *241*]. У першай палове XVI ст. шырока выкарыстоўваліся ў архітэктуры Беларусі (замак у Міры, храм у Кодне, Сынковіцкая царква, Гнезнаўскі касцёл). У адрозненне ад Сынковіцкай царквы нішы тут упрыгожваюць не толькі франтоны, але і бакавыя фасады, апсіду, вежы, што разам з цокалем, парэбрыкам, карнізам стварае яшчэ большую кампазіцыйную цэласнасць. Пабеленыя нішы выразна кантраставалі з чырвоным фонам цаглянай муроўкі. Яны заглыблены ў сцены з такім разлікам, каб не паказаць іх сапраўднай таўшчыні. Гэтыя рытмічна размешчаныя дэкаратыўныя элементы ўнеслі ў мастацкі вобраз храма прыўзнятасць і непаўторнасць.

Усходнія і заходнія фасады царквы завяршаюцца высокімі франтонамі. Каб палегчыць канструкцыі франтонаў, дойліды зрабілі іх танейшымі за сцены, а на вонкавых паверхнях размясцілі вялікія дэкаратыўныя нішы. Кампазіцыя франтонаў царквы вызначаецца паярусным чляненнем і сіметрыяй дэкаратыўных элементаў. Заходні франтон падзелены на дзве часткі па гарызанталі вузкім карнізам. У ніжняй частцы паўцыркульныя нішы змяшчаюць яшчэ спараныя з невялікім замком. У верхняй частцы, надбудаванай у XIX ст., зроблены дзве нішы з паўцыркульнымі перамычкамі.

Усходні франтон падзяляецца гарызантальнай паласой парэбрыка на два ярусы. У ніжнім ёсць дзве пары ніш, у верхнім — тры, сапсаваныя пераробкай пад звычайныя вокны ў XIX ст. У. Гарнастаеў, які агледзеў Мураванкаўскую царкву ў 1864 г., сцвярджаў, што франтоны перабудаваны ў час рамонту 1822 г., каб зрабіць яго больш танным [14, *47*]. Не выключана, што заходняму франтону тады былі нададзены першапачатковыя абрысы. Паярусныя напластаванні дэкаратыўных элементаў і сіметрычнасць іх кампазіцыі на франтонах і фасадах царквы выклікаюць адчуванне ўраўнаважанасці і асаблівай урачыстасці.

Важная рыса агульнай кампазіцыі Мураванкаўскай царквы — маштабнасць, якая ўласціва ўсім сярэдневяковым пабудовам. Помнік



*64. Мураванкаўская царква ў сярэдзіне XIX ст. Акварэль Пятрова*

пабудаваны на ўзвышаным месцы і відаць здалёк. Выразнасць маштабу надаюць нішы і вокны, што разлічаны на шырока адкрытую прастору. Велічыня іх падкрэслена малымі памерамі цэглы, дахоўкі, адтулін байніц [176, *71*].

Спачатку храм быў пакрыты двухсхільным дахам, што выяўлена па рэштках кроквеннай сістэмы на франтонах. У ім была ўжыта пляскатая дахоўка (38,5×16×2 см) чырвонага колеру. Яна мае адзін закруглены бок і трохвугольны мацавальны выступ вышынёй 4,5 см. На вонкавай паверхні трапляюцца неглыбокія баразны — сляды пальцаў майстра. Цікава, што дахоўка збераглася ў паўночным схіле даху асноўнага аб'ёму і апсіды, а таксама прасочана ў падмурках, сценах сутарэння.

Добра вядомым помнікам з'яўляецца **Супрасльская царква** (Польская Рэспубліка), на левым беразе р. Супрасль. Пабудавана яна на сродкі берасцейскага старосты, навагрудскага ваяводы, маршалка Вялікага княства Літоўскага Аляксандра Хадкевіча ў 1505—1511 гг. [297, *356*].

У літаратуры XIX ст. сустракаецца некалькі іншых яе датаванняў. У параўнанні з прыведзенай няма істотных храналагічных разыходжанняў. Аднак неабходна іх згадаць і растлумачыць.

Так, адны аўтары лічылі, што царква пастаўлена ў 1503—1509 гг. [160, *3*], другія сцвярджалі, што яе пачалі ўзводзіць у 1505 г. [154, *47*], трэція яе датавалі 1509—1516 гг. [13, *14*].

У двух першых датаваннях маюцца нязначныя разыходжанні пры вызначэнні пачатку будаўніцт-

6*



*65. Супрасльская царква. Агульны выгляд. Другая палова XIX ст.*

ва царквы. Так атрымалася таму, што падрыхтоўчы перыяд да яе ўзвядзення, які быў пачаты ў 1503 г. і працягваўся каля двух гадоў, у другім выпадку не ўлічваўся. Толькі ў 1505 г. прыступілі да будаўніцтва храма, калі Аляксандр Хадкевіч атрымаў благаслаўленне ад канстанцінопальскага патрыярха Іякіма [142, *254*]. У 1509 г. кароль польскі, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Зыгмунт I падпісаў грамату, якой дазваляў узводзіць Супрасльскую царкву. Аднак да гэтага часу яна ўжо была амаль пабудавана, таму грамата насіла фармальны характар. У 1510—1511 гг. Благавешчанскую царкву ў Супраслі і манастыр пры ёй асвяцілі. У 1516 г. гэта зрабілі паўторна, бо першыя святары былі абвінавачаны ў схізме [297, *362*].

У 1550 г. да паўднёва-ўсходняга вугла алтарнай часткі царквы прыбудавалі рызніцу. У 1614 г. Суп-



*66. Выгляд Супрасльскага манастыра з боку р. Супрасль. Другая палова XIX ст.*

расльскі манастыр быў перададзены уніятам, а ў 1832 г. вернуты праваслаўнаму духавенству [160, *3*]. У другой палове XVIII ст. побач з царквой пабудавана званіца. Завяршэнне вежаў храма перарабілі ў 1908 г. [211, *225*]. У 1944 г. Благавешчанская царква ў Супраслі была ўзарвана.

Гэта было трохнефавае з трыма апсідамі збудаванне. Алтарная частка мела аднолькавую вышыню з асноўным аб'ёмам. Сярэдняя апсіда была значна вынесена за вонкавы контур сцен бакавых апсід. Па вуглах царквы ўзвышаліся чатыры вежы цыліндрычнай формы. Да галоўнага фасада прымыкаў прытвор. Сцены царквы былі ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (30×15×8 см) чырвонага колеру [297, *369*]. Пад час будаўніцтва прытвора, відавочна, у XVII ст., ужыта цэгла памерам 29,5×14××6,5 см [142, *258*].

Над уваходам у царкву на шырыню асноўнага аб'ёму былі зроблены мураваныя хоры. На іх вяла вінтавая лесвіца паўночна-заходняй вежы. Інтэр'ер помніка перакрывалі крыжовыя, зорчатыя і сотавыя скляпенні. У стварэнні выразнай урачыстасці інтэр'ера вялікую ролю адыгралі фрэскі, выкананыя ў сярэдзіне XVI ст. групай жывапісцаў пад кіраўніцтвам сербскага майстра Нектарыя. Стыль супрасльскіх фрэсак вельмі блізкі да твораў мараўскай школы сербскага манументальнага жывапісу. Нектарый кіраваў таксама працай па стварэнні іканастаса гэтай царквы [228, *332*].

Святло ў інтэр'ер паступала пераважна праз вокны бакавых фасадаў і апсіды. Звонку яны былі акаймаваны нішамі прамавугольнай формы. Круглыя вокны заходняга фасада і раздзеленыя на дзве часткі вокны заходняй паловы бакавых нефаў былі прызначаны для асвятлення хораў. У адрозненне ад Сынковіцкай і Мураванкаўскай цэркваў



*67. Выгляд Супрасльскага манастыра з заходняга боку. Другая палова XIX ст.*



*68. Супрасльская царква. Фрагмент завяршэння паўночнай сцяны. Малюнак У. Гразнова. XIX ст.*

бакавыя нефы Супрасльскай царквы значна вузейшыя за цэнтральны, які адпавядаў шырыні апсіды.

Фасады храма ўпрыгожваў шырокі гарызантальны пояс сеткападобнага арнамента, выкананы з перапаленай цэглы. Сцены завяршаў гзымс складанай формы, раздзелены, як і ў Сынковіцкай царкве, байніцамі баявой галерэі на асобныя часткі.

У цэнтры асноўнага аб'ёму быў узведзены вежападобны купал, які дамінаваў над чатырма вежамі. Цікавым элементам аб'ёмнай кампазіцыі помніка з'яўляюцца фігурныя франтоны, якія завяршалі фасады. Такое іх завяршэнне напамінае закамары ўсходнеславянскіх храмаў XII ст. Не выключана, што ў XVI ст. франтоны мелі іншую форму, таму што дах закрываў тынкоўку купала [211, *234*].

Вежы царквы аднолькавай формы і вышыні. Выява храма з іконы 1644 г. сведчыць, што першапачаткова яны завяршаліся глаўкамі. Байніцы ў вежах былі размешчаны ўразбіўку. Байніцы на паддашку Супрасльскага храма былі зроблены не толькі ў завяршэнні сцен асноўнага аб'ёму, але і апсіды. Для зручнага падыходу да байніц на скляпеннях быў пакладзены драўляны насціл. У франтонах меліся тры ярусы байніц.

Уваход у храм абараняла жалезная крата-герса, якую падымалі на ланцугах праз шчыліну, зробленую на хорах [211, *235*].

Наступным абарончым храмам гэтага тыпу з'яўляецца **Троіцкая**




*69. Выява Супрасльскай царквы з іконы 1644 г. Перамаляваў П. Пакрышкін*

**царква** ў Вільні, пастаўленая на месцы драўлянага храма на сродкі гетмана Канстанціна Астрожскага, які ў 1516 г. атрымаў дазвол караля польскага, вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Зыгмунта I на яе будаўніцтва [235, *14*]. У 1608 г. царква была перададзена уніятам, якія ў 1622—1624 гг. да яе бакавых фасадаў прыбудавалі тры капліцы. У 1620 г. пры царкве замест драўлянага ўзвялі мураваны кляштар. Яна была моцна пашкоджана ў 1706 г. у час вялікага пажару Вільні. Царква зноў гарэла ў 1748 г. У хуткім часе была аднаўлена ў барочным стылі. У 1792 г. яе зноў рамантавалі. На месцы заходняй сцяны храма зрабілі прыбудову, якая павялічыла яго даўжыню. У 1839 г. помнік перадалі праваслаўнаму духавенству. Дзве вежачкі, што ў завяршэнні заходняй сцяны, былі па-



*70. Троіцкая царква ў Вільні. Паўднёвы фасад. Архітэктар А. Самукене*

будаваны ў 1878 г. [132, *129*; 146, *143*; 162, *212*].

Зараз гэта прамавугольнае трохнефавае збудаванне з трыма паўкруглымі апсідамі. Інтэр'ер перакрываюць крыжовыя скляпенні. Да паўночнага і паўднёвага фасадаў прымыкаюць тры капліцы. Па вуглах усходняй часткі асноўнага аб'ёму знаходзяцца дзве вежы круглай формы. У іх зроблены мураваныя вінтавыя ўсходы. Храм накрыты двухсхільным дахам.

Першапачаткова асноўны аб'ём царквы меў план квадратнай формы. Сцены ўмацоўвалі контрфорсы, рэшткі якіх прасочваюцца ў сутарэннях прыбудоў да храма. Апсіды і ўсходнія вежы Троіцкай царквы, як і Сынковіцкай, упрыгожаны арачным поясам. Зближае гэтыя помнікі і аднолькавы канструкцыйны прыём завяршэння апсід, які дазволіў перакрыць іх адным дахам. Для будаўніцтва храма Св. Тройцы ў Вільні ўжыта цэгла (29×14×8 см) цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру, якая пакладзена ў гатычнай тэхніцы муроўкі на вапнава-пясчанай рошчыне. Таўшчыня швоў 3—4 см. Магчыма, звонку пад тынкоўкай сцен маецца арнамент з тарцоў перапа-



*71. Троіцкая царква ў Вільні. План. Архітэктар А. Самукене*

ленай цэглы, якая ўпрыгожвала амаль кожны мураваны будынак Вільні XV—XVI стст. [273, *5*].

Уявіць першапачатковы выгляд помніка можна на аснове чарцяжа 1550 г. з атласа Г. Брауна, а таксама панарамы і гравюры Вільні пачатку XVII ст. Т. Макоўскага. Храм з моцна выцягнутым у вышыню заходнім франтонам і высокім двухсхільным дахам. Першапачаткова гэты франтон, напэўна, меў прыступкавую форму. У цэнтры даху асноўнага аб'ёму, як бачна з гравюр, была вежачка. Побач з храмам узвышалася званіца, якая захавалася да нашага часу. Цікава, што на гэтых гравюрах не паказаны ўсходнія вежы, пабудаваныя, як намі ўстаноўлена, адначасова з асноўным аб'ёмам. Гэта дазваляе заключыць, што на гравюрах Вільні XVI—XVII стст. недакладна перададзены выгляд царквы. На іх лаканічна паказаны толькі яе архітэктурны сілуэт, які дазваляў адрозніваць яе ад іншых збудаванняў. Мастакі праявілі поўную абыякавасць да адлюстравання дробных формаў пры такой шчыльнай гарадской забудове. Безумоўна, аўтары гэтых гравюр выбіралі высокія кропкі рэльефу, аднак вежы цяжка было разгледзець. Яны былі крыху вышэйшыя за ўзровень гзымса, мелі нязначны вынас за знешнія паверхні сцен і таму не з'яўляліся дамінантамі аб'ёмнай кампазіцыі помніка. У асноўным гэтай сукупнасцю прычын можна растлумачыць адсутнасць на гравюрах выявы не толькі ўсходніх вежаў храма, якія захаваліся, але і заходніх. У існаванні апошніх не даводзіцца сумнявацца пасля зандажу, зробленага літоўскімі рэстаўратарамі пад кіраўніцтвам архітэктара А. Самукене на паўднёвым фасадзе. Тут імі адкрыты, як мы лічым, рэшткі паўд-




*72. Троіцкая царква ў Вільні. Выгляд з усходняга боку. Малюнак 30-х гг. XX ст.*



*73. Троіцкая царква ў Вільні. Малюнак І. Труткева. Другая палова XIX ст.*

нёва-заходняй вежы, разбуранай у 1792 г. Значыць, аналагічная вежа была і на паўночна-заходнім вугле храма. Размяшчэнне помніка каля гарадскіх варот, наяўнасць вежаў з байніцамі па вуглах сведчаць пра яго абарончае прыстасаванне.

Не меншую цікавасць уяўляе таксама віленская **Прачысценская царква** першай паловы XVI ст. Пабудавана яна на сродкі таго ж фундатара, што і Троіцкі храм, на месцы царквы XIV ст.

У 1610 г. помнік пашкодзіў пажар, у 1612 г. яго аднавілі. Затым ён яшчэ неаднаразова гарэў (1652, 1716, 1748). Доўгі час, з сярэдзіны да другой паловы XVIII ст., пуставаў. У 1785 г. яго адрамантавалі і ў 1795 г. перадалі базыльянам. У 1810 г. інтэр'ер царквы раздзялілі на два паверхі для размяшчэння універсітэцкай анатамічнай залы, прызначэнне якой на працягу другой паловы XIX ст. неаднаразова мянялася. У 1864—1868 гг. царква адноўлена па праекце архітэктараў А. І. Разанава і А. І. Чагіна [106, *179—183*; 107, *35—36*; 108, *86*; 233, *8—13*) і ў такім выглядзе захавалася да нашага часу.



*74. Прачысценская царква ў Вільні. Выгляд на пачатку XVII ст. Перамаляваў з інвентара храма У. Гразной*



*75. Прачысценская царква ў Вільні. Выгляд на пачатку XIX ст. З кнігі Т. Нарбута*

Будынак складаецца з асноўнага аб'ёму, які мае план амаль квадратнай формы, і трохапсіднай алтарнай часткі. Па вуглах узвышаюцца чатыры вежы цыліндрычнай формы. Аб'ёмная кампазіцыя завяршаецца купалам.

Гісторык Ф. Дабранскі лічыў, што рэканструкцыя храма ў XIX ст. была праведзена з улікам яго ранейшай планіровачнай структуры. У прыватнасці, ён пісаў, што да таго часу захавалася паўднёва-ўсходняя вежа [132, *142*], якая прасочваецца на малюнку 1805 г. На трох астатніх вуглах царквы выяўлены падмуркі вежаў, якім пры аднаўленні была нададзена першапачатковая цыліндрычная форма. Немагчыма пагадзіцца з ім, што храм з чатырма вежамі быў узведзены ўжо ў XIV ст. [132, *142*]. На думку Т. Нарбута, Прачысценская царква пабудавана ў першай палове XVI ст. на падмурках старажытнага храма [313, *216*]. Член Віленскай археаграфічнай камісіі А. Вінаградаў сцвярджаў, што ў XIX ст. храм аднавілі ў першапачатковым выглядзе. Польскія гісторыкі Я. Фіялек і М. Лаўмяньская лічылі, што апісаны Т. Нарбутам выгляд Прачысцен-

лах. З гравюр бачна, што гэта быў гатычны будынак, які меў франтоны трохвугольнай формы і высокі двухсхільны дах.

Разгледжанымі храмамі не вычэрпваецца кола даследуемых помнікаў. Напрыклад, на гравюры Брэста другой паловы XVII ст. **Мікалаеўская царква,** дакладная дата будаўніцтва якой невядома, мае па вуглах чатыры вежы і глаўку ў цэнтры даху. У 1596 г. у гэтай царкве была абвешчана Брэсцкая царкоўная унія. Рэканструкцыю гэтага помніка прапанавала І. Б. Лаўроўская [177, *44*]. Не менш цікавы помнік зафіксаваны на гравюры Гродна пачатку XVII ст. Т. Макоўскага — храм з чатырма вежамі, які знахо-



*76. Прачысценская царква ў Вільні. Малюнак У. Гразнова. 1864 г.*

ская царква атрымала ў першай палове XVI ст. [287, *141*; 305, *350*]. А. С. Янкявічэне адзначае, што Т. Нарбут і астатнія гісторыкі памыліліся, датуючы храм XVI ст., таму што вежы па вуглах помніка не паказаны на гравюрах Вільні XVI—XVII стст. [273, *9*]. Аднак на іх, як сказана вышэй, не зафіксаваны і ўсходнія вежы Троіцкай царквы.

Вынікі праведзенага намі даследавання муроўкі, фармату цэглы (29—30×14×8—8,5 см), складу рошчыны паўднёва-ўсходняй вежы Прачысценскай царквы дазваляюць лічыць больш праўдападобнай гіпотэзу, што ў першай палове XVI ст. яе зрабілі з чатырма вежамі па вуг-



*77. Прачысценская царква ў Вільні. Пасля перабудовы ў сярэдзіне XIX ст. Малюнак У. Гразнова*



*78. Гравюра Брэста першай паловы XVII ст. F — Мікалаеўская царква*

дзіўся непадалёку ад фары Вітаўта.

На заканчэнне правамерна параўнаць абарончыя храмы Беларусі з аналагічнымі пабудовамі XV—XVII стст. Літвы і Украіны.

У дойлідстве Літвы аналогіяй разгледжаным храмам з'яўляецца бернардынскі касцёл 1516 г. у Вільні, які мае вежы толькі на трох вуглах.

У архітэктуры Украіны вядома некалькі тыпаў храмаў, прыстасаваных да абароны. Самы старажытны — Багаяўленская царква сярэдзіны XV ст. у Астрозе. Гэта трохнефавая з трыма апсідамі пабудова. Яе паўночная сцяна складае частку замкавай і прарэзана байніцамі. Цікавым помнікам з'яўляецца таксама Троіцкая царква XVI ст. Троіцкага манастыра ў Дзярмані. У завяршэнні яе сцен на паддашку зроблены байніцы. Найбольш вядомы абарончы храм — царква ў с. Суткаўцы (1476) на Падоллі. Да яе асноўнага аб'ёму прымыкаюць чатыры вежы, раздзеленыя на два паверхі. Кожны з паверхаў прыстасаваны да абароны. Успенская царква XVI ст. у с. Зімна Валынскай вобласці мела па вуглах чатыры вежы. У трохчасткавых бяскупальных храмах Украіны XVI ст. абарончая вежа знаходзілася над прытворам (Петрапаўлаўская царква 1530 г. у Камянцы-Падольскім). Ва Успенскай царкве XVI ст. у Межыбажы дзве вежы з байніцамі меліся над асноўным аб'ёмам і прытворам. У канцы XVI ст. з'явіліся байніцы на паддашку Троіцкай царквы сярэдзіны XV ст. у Мяжэрычах, якая ўяўляла сабой трохнефавую з трыма апсідамі пабудову [114, *359—360*].

З помнікаў Украіны толькі ў Багаяўленскай царкве Астрожскага замка і Троіцкай у Мяжэрычах найбольш рэльефна прасочваецца шэраг агульных рысаў (план асноўнага аб'ёму, колькасць і форма апсід, франтоны-закамары) з абарончымі



*79. Мікалаеўская царква ў Брэсце. Копія царквы з інвентарнага ліста Брэсцкай уніі 1596 г.*




*80. Мікалаеўская царква ў Брэсце. Рэканструкцыя І. Лаўроўскай і выгляд храма на гравюры 1657 г.*

храмамі Беларусі. Аднак яны сведчаць не толькі пра кампазіцыйнае і стылістычнае адзінства гэтых помнікаў, а і пра іх агульную канфесійную прыналежнасць і сувязь з мясцовымі архітэктурнымі традыцыямі папярэдняй эпохі.

Разгледжаныя трохнефавыя з чатырма вежамі па вуглах храмы Беларусі і прыведзеныя паралелі з архітэктуры Літвы і Украіны даюць падставы сцвярджаць, што ў канцы XV — пачатку XVI ст. у беларускім дойлідстве быў створаны рэдкі і самабытны тып абарончага чатырохвежавага храма. Помнікі гэтага тыпу генетычна ўзыходзяць да Полацкай Сафіі, узведзены амаль сінхронна, ахопліваюць значны рэгіён і з'яўляюцца праваслаўнымі храмамі. На пачатку XVII ст. быў пабудаваны касцёл з чатырма вежамі па вуглах

у Камаях (Віцебская вобл.) [240, *132*]. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што інкастэляваныя храмы на працягу значнага перыяду былі выразнікамі эканамічнага і сацыяльна-палітычнага стану беларускіх зямель. Іх будавалі ў мястэчках, гарадах і манастырах. Цікава было б параўнаць, якія цэрквы лепш прыстасаваны да абароны: тыя, што знаходзіліся за гарадскімі ўмацаваннямі ці ў адкрытай мясцовасці. Аднак гэтага не дазваляе зрабіць дрэнная захаванасць помнікаў.

Нягледзячы на адносна высокую інтэнсіўнасць будаўніцтва чатырохвежавых храмаў, падабенства планіровачнай структуры, аб'ёмнай кампазіцыі, аднолькавы будаўнічы матэрыял, кожны з гэтых помнікаў з'яўляецца непаўторным і своеасаблівым. Дасягнута гэта было дзякуючы неадэкватнасці канфігурацыі і памераў плана, афармленню інтэр'ераў, кампазіцыі фасадаў. Гэтыя пабудовы ўяўляюць сабой сінтэз візантыйскага, гатычнага і рэнесансавага дойлідства.

## АДНАНЕФАВЫЯ ПАБУДОВЫ

Гэтую тыпалагічную групу помнікаў адкрывае **Мікалаеўскі касцёл** першай паловы XVI ст. у в. Геранёны (Гродзенская вобл.). Яго фундаваў у 1529 г. як капліцу віленскі ваявода Альберт Гаштольд, пра што сведчыць фундуш помніка, упамянуты ў пераліку яго дакументаў за 1786 г. [67, 68]. Пасля пажару 1799 г. касцёл быў адрамантаваны на грошы Яна Гераніма Пробача, напэўна, заможнага мясцовага шляхціца. Тады ўзвялі франтоны касцёла. У 1859 г. да прэсбітэрыя прыбудавалі сакрысцію і капліцу [63, *1 адв.*], а побач з касцёлам з'явілася званіца. У 1883 г. да галоўнага фасада прымкнуў прытвор [17, *1*], у 1890 г. адрамантаваны франтон [65, *13*]. У XIX ст. асноўны аб'ём касцёла перакрывалі драўляныя скляпенні, а сакрысцію — мураваныя. Над уваходам былі драўляныя хоры.

У другой палове XIX ст. падлога асноўнага аб'ёму была цаглянай, а сакрысціі і капліцы — драўлянай [64, *1*; 65, *6*]. Дах быў з гонты. У 1928—1929 гг. праведзена рэстаўрацыя касцёла [65, *14*].

Помнік складаецца з асноўнага аб'ёму прамавугольнай у плане формы, прытвора і прэсбітэрыя з характэрнай для гатычнай архітэктуры гранёнай апсідай. Да прэсбітэрыя прымыкаюць сакрысціі.

У выніку архітэктурна-археалагічнага вывучэння касцёла [59] устаноўлена, што яго сцены ўзведзены на падмурках магутнасцю 2 м у тэхніцы бутавай муроўкі ў апалубцы на вапнава-пясчанай рошчыне. Цагляная муроўка пачынаецца на глыбіні 0,2 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні. Ужыта цэгла фарматам 31×14×7—8 см. Амаль аналагічных памераў цэгла прасочана ў Петрапаўлаўскім касцёле канца XV ст. у Іўі.

Асноўны аб'ём і прэсбітэрый перакрыты драўлянымі скляпеннямі, сакрысціі — плоскай драўлянай столлю. Хоры і падлога таксама драўляныя. Сцены прарэзаны вокнамі, якія маюць паўцыркульную перамычку. Галоўны фасад помніка расчлянёны пілястрамі і фланкіраваны контрфорсамі. Ён завяршаецца франтонам, які ўпрыгожваюць лапаткі.



*81. Мікалаеўскі касцёл у Геранёнах. План*

**Касцёл Св. Міхаіла** ў в. Гнезна (Гродзенская вобл.) — адзін з самых цікавых помнікаў беларускай архітэктуры. У 1524 г. уладальнікамі маёнтка Гнезна Янам і Эльжбетай Шамятовічамі быў выдадзены фундуш на пабудаваны за іх сродкі касцёл [71, *3 адв.*]. У 1555 г. маёнтак Гнезна купіў Геранім Хадкевіч — прадстаўнік аднаго з буйнейшых родаў Вялікага княства Літоўскага, актыўны прыхільнік рэфармацыі. Дакументы сведчаць, што ў другой палове XVI ст. касцёл быў ператвораны ў кальвінскі збор, а ў 1643 г. з наступленнем контррэфармацыі зноў стаў каталіцкім.

Крыніцы XVII ст. утрымліваюць лаканічныя звесткі пра знешні і ўнутраны выгляд касцёла. Так, у інвентары 1679 г. адзначана, што яго інтэр'ер перакрыты плоскай драўлянай столлю [213, *25*]. Касцёл быў моцна пашкоджаны ў час Паўночнай вайны. Плябан касцёла С. Гарбоўскі і арандатар маёнтка Я. Трапінскі за некалькі гадоў, пачынаючы з 1718 г., правялі ў касцёле рамонт. Тады перасланы драўляную падлогу, столь, замянілі 12 драўляных слупоў, што яе падтрымлівалі. Пад вежай зрабілі два драўляныя



*82. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. Малюнак Н. Орды. 60-я гг. XIX ст.*



*83. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. Выгляд з паўднёва-ўсходняга боку. Фота аўтара. 1986 г.*

склепы. Быў таксама перакрыты гонтай дах і зроблены новыя аконныя рамы. Паводле інвентароў XVII ст., касцёл меў вежу на галоўным фасадзе. Пры апісанні інтэр'ера ўпамінаюцца падлога, столь, хоры, зробленыя з дошак. Адзначана таксама, што касцёл мае пяць вокнаў, два ўваходы, гонтавы дах [72, *1*]. Інвентары канца XVIII — пачатку XIX ст. сведчаць пра занядбанасць касцёла. У 1787 г. да яго паўднёвага фасада прыбудавалі сакрысцію. Прыкладна тады ў паўночным фасадзе было зроблена акно. У 1798 г. дах касцёла перакрылі новай гонтай.

У час Айчыннай вайны 1812 г. згарэў дах касцёла, плябань і іншыя будынкі. Праз некаторы час храм быў адрамантаваны, а вакол яго ўзвялі мураваную агароджу [213, *25*].

У інвентарах 1820 і 1830 гг. прыведзены памеры касцёла: даўжыня — 33 локці (21, 45 м), шырыня — 21 локаць (13,65 м), вышыня — 15 локцяў (9,75 м). Вышыня вежы — 49 локцяў (31 м) [71, *910*].

У 1839 г. у касцёле быў моцны

пажар, пасля якога храм адрамантавалі на сродкі мясцовага памешчыка Г. Тарасевіча. Тады ж адбудавалі вежу, якая на гэты раз мела вышыню каля 20 м, а таксама разбурылі сакрысцію. Касцёл накрылі пляскатай дахоўкай, зрабілі цаглянную падлогу і замуравалі ўваход у сутарэнне з боку галоўнага алтара.

У 90-х гадах XIX ст. у касцёле яшчэ раз правялі рамонт. Паставілі мураваны галоўны алтар, зноў прыбудавалі сакрысцію, паклалі тэракотавую падлогу і замуравалі другі ўваход у сутарэнне. Аднак касцёл патрабаваў грунтоўнай рэстаўрацыі [213, *26*]. Для яе правядзення быў створаны ў 1924 г. падрыхтоўчы камітэт. У наступныя гады абнаўлялі агароджу, фарбавалі сцены і столь. З вясны 1931 г. пачалі рэстаўрыраваць фасады. Замуравалі акно паўночнага фасада, дабудавалі вежу, перарабілі сакрысцію [68, *1—3*]. Яе план стаў не шматгранны, а прамавугольны. У асноўным з такімі зменамі касцёл захаваўся да нашага часу.



*84. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. Паўднёвы фасад вежы. Фота У. Суцягіна. 1986 г.*

Гнезнаўскі касцёл — збудаванне з адной вежай, з усходу заканчваецца трохграннай алтарнай часткай. У XV—XVI стст. аналагічны тып касцёла быў распаўсюджаны на тэрыторыі Польшчы (Мазовія), а ў дойлідстве Літвы невядомы [274, *19*]. Унутры касцёл даволі прасторны. Даўжыня яго 21 м, шырыня — 12 м. У заходняй частцы над уваходам размешчаны хоры на двух мураваных слупах. Злева ад уваходу ў тоўшчы заходняй сцяны знаходзяцца нешырокія ўсходы на хоры і ў вежу. Асноўны аб'ём да нядаўняга часу быў пакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Прыклады драўлянага перакрыцця ўнутранай прасторы аднанефавых і трохнефавых храмаў вядомы таксама ў літоўскай архітэктуры [272, *242*].

Сцены касцёла таўшчынёй 1 м узведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі памерам 28×13,5×7 см на вапнава-пясчанай рошчыне. Таўшчыня швоў — 2—3,5 см. Яны падрэзаны і маюць ў профілі трохгранную форму. Заходняя сцяна касцёла стаіць на падмурку з валуноў. Падмуркі вежы і астатніх сцен выкананы ў тэхніцы змешанай муроўкі. Падэшва знаходзіцца на глыбіні 2 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні зямлі.

Унутры касцёла падмуркі слупоў



*85. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. 20-я гг. XX ст.*

не знойдзены, што сведчыць пра адсутнасць у ім мураваных скляпенняў. Іх сляды таксама не выяўлены ў завяршэнні сцен.

Архітэктуры храма ўласцівы гатычныя рысы, якія выяўляюцца ў рытмічным чляненні сцен контрфорсамі. У паўднёвым фасадзе і алтарнай частцы знаходзяцца высокія спічастыя вокны — таксама стылістычная асаблівасць гатычнага дойлідства. Першапачаткова вокны былі больш высокімі. Іх адхоны апрацаваны двума радамі фасоннай цэглы, якая мае ў профілі хвалістую вырабку. Своеасаблівым фонам для вокнаў з'яўляюцца нішы прамавугольнай формы, якія таксама ўпрыгожаны фасоннай цэглай (выкружка). Акрамя гэтай і вышэйадзначанай цэглы на фасадах касцёла прасочаны яшчэ яе два віды — скос і валік.

Міхайлаўскі касцёл у Гнезне — адзін з помнікаў беларускай архітэктуры XV—XVI стст., дзе шырока ўжыта для аздаблення фасадаў фасонная цэгла. Вядома, што такую цэглу часта выкарыстоўвалі ў дойлідстве польскага Памор'я, у лівонскай грамадзянскай і культавай архітэктуры. У канцы XV ст. яе пачалі ўжываць як дэкор у дойлідстве Літвы [272, *240*].

Дзвярны праём паўднёвага фасада вядзе з касцёла ў сакрысцію. Яго акцэнтуе акно круглай формы, якое ў адпаведнасці з законамі раманскай і гатычнай архітэктуры знаходзіцца над галоўным уваходам у храм. У выніку натурных даследаванняў у гэтым дзвярным праёме выяўлены аформлены фасоннай цэглай першапачатковы партал, па архітэктурнай пластыцы багацейшы за вежавыя парталы і пакуль што не-




*86. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. План і схема размяшчэння шурфоў*

вядомы ў іншых помніках беларускай архітэктуры. Дэкор партала паўднёвага фасада касцёла аналагічны афармленню дзвярнога праёма ратушы ў Коўне, што сведчыць пра падабенства літоўскай і беларускай архітэктуры [213, *27*].

Да заходняга фасада касцёла прымыкае васьмігранная, на невысокай аснове вежа, якая ўтварае самастойную частку аб'ёмнай кампазіцыі і з'яўляецца яе дамінантай. У адрозненне ад прыземістага асноўнага аб'ёму касцёла вежа мае стройныя прапорцыі, больш разнастайны набор дэкаратыўных элементаў і складаецца з чатырох ярусаў, утвораных на яе фасадах вертыкальнымі і гарызантальнымі чляненнямі. Амаль усе ярусы адпавядаюць унутранаму перакрыццю і аддзелены адзін ад аднаго гзымсамі і гарызантальнымі паясамі. Апошнія ўяўляюць сабой шырокі гладкі фрыз, які акаймоўваюць два рады цэглы, што выступаюць з плоскасці сцен. Такімі паясамі аздоблены таксама фасады касцёла [172, *48*].

Першы ярус вежы прарэзаны з трох бакоў дзвярнымі праёмамі. Кожны праём — гэта невысокая паўцыркульная арка, падкрэсленая акаймоўкай з фасоннай цэглы. На ўзроўні першага і трэцяга ярусаў вежу ўпрыгожваюць таксама нішы, якія маюць кілепадобнае завяршэнне. Унутры першыя два ярусы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Астатнія чатыры ярусы перакрыты драўлянымі насцiламі і злучаны лесвіцай.

Будаўніцтва вежы можна падзя-



*87. Касцёл Св. Міхаіла ў Гнезне. Фрагмент падмурка заходняй сцяны*

ліць на тры перыяды, пра што сведчыць неаднолькавая тэхніка яе муроўкі. У першым — трэцім ярусах яна такая ж, як і ў сценах асноўнага аб'ёму касцёла.

Адсутнасць перавязкі паміж вежай і заходняй сцяной касцёла сведчыць пра розны час іх будаўніцтва. Аднак фармат ужытай цэглы і расшыўка швоў указваюць на ханалагічна блізкія тэрміны. Затым вежа была дабудавана ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі да ўзроўню падлогі чацвёртага яруса і будаўніцтва спынілі ці яе поўнасцю ўзвялі ў другой палове XVI — пачатку XVII ст., а пазней панізілі. Цяперашні трэці паверх вежы нельга лічыць поўным, бо ён захаваў толькі палову першапачатковай вышыні. Не выключана, што вежа спачатку мела план квадратнай формы на ўсю вышыню. Муроўка трэцяга тыпу на ўзроўні пятага паверха выканана ў 1931—1932 гг., калі праводзілася рэстаўрацыя касцёла [213, *27*].

Такім чынам, у архітэктуры Гнезнаўскага касцёла прасочваюцца элементы позняй готыкі (шматпрыступкавыя контрфорсы, акаймоўка вокнаў, дзвярных праёмаў, нішы з кілепадобным завяршэннем), а таксама рэнесансу (шматлікія гзымсы, гарызантальныя паясы, аркі над вокнамі другога яруса вежы).

Яшчэ адной аднанефавай пабудовай з'яўляўся **касцёл Св. Духа** на былой Дамініканскай вуліцы ў Гродне, фундаваны ў 1551 г. каралевай Бонай. У 1792 г. быў праведзены яго рамонт, да кляштара, які існаваў пры касцёле, зроблены прыбудовы. Ім на чарцяжы 1811 г. адпавядаюць памяшканні, не перакры-

тыя скляпеннямі. У 1824 г. касцёл разбурылі.

Гэта была аднанефавая з паўкруглай апсідай пабудова, перакрытая ўнутры крыжовымі скляпеннямі спічастай формы. Вокны былі на галоўным фасадзе і ў апсідзе, бо да бакавых фасадаў прымыкаў кляштар. Галоўны фасад завяршаў высокі трохвугольны франтон. Такіх абрысаў франтон і скляпенні спічастай формы з'яўляюцца прыкметамі гатычнай архітэктуры, а паўкруглая апсіда — рэнесансу [149, *79—80*].

Працягвае гэтую тыпалагічную групу помнікаў **Троіцкі касцёл** сярэдзіны XVI ст. у Клецку, узведзены па заказу каралевы Боны на месцы храма сярэдзіны XV ст., напэўна драўлянага, які фундаваў Андрэй Масцівілоўскі [280, *529*]. Вядомы прыхільнік кальвінізму Мікалай Радзівіл Чорны ў другой палове XVI ст. ператварыў касцёл у кальвінскі збор, дзе ў 1560 г. выступаў з пратэстанцкімі пропаведзямі Сымон Будны [119, *166*]. У канцы XVI ст. быў перададзены каталіцкай царкве. У 1810 г. у ім здарыўся пажар. У хуткім часе касцёл адрамантавалі на сродкі Ю. Радзівіла. У 50-я гады XX ст. помнік быў разбураны [164, *39*].



*88. Святадухаўскі касцёл у Гродне. План і папярэчны разрэз*



*89. Троіцкі касцёл у Клецку. З гравюры Клецка пачатку XVII ст.*

Інвентарныя вопісы канца XVIII—XIX ст. сведчаць, што яго агульная даўжыня раўнялася 59 аршынам, шырыня — 25 аршынам. Над уваходам у касцёл былі драўляныя хоры. У паўночнай сцяне прэсбітэрыя быў дзвярны праём, праз які можна было трапіць у сенцы, што знаходзіліся перад сакрысціяй і мелі два акны. Сакрысція, як і ў Ішкалдскім касцёле, была двухпавярховай. Другі яе паверх быў перакрыты плоскай драўлянай столлю і прыстасаваны пад скарбніцу. У касцёле мелася 11 вокнаў. Падлога была высцелена з цэглы і толькі ў цэнтры асноўнага аб'ёму ляжала некалькі каменных пліт. Пад прэс-



*90. Троіцкі касцёл у Клецку. Выгляд з паўднёва-ўсходняга боку. Фота 30-х гг. XX ст.*

бітэрыем было зроблена сутарэнне.

Троіцкі касцёл у Клецку быў аднанефавай пабудовай, якая з усходу заканчвалася прэсбітэрыем з гранёнай апсідай. Унутраную прастору перакрывалі цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі над вокнамі. У вугле, утвораным усходнім фасадам асноўнага аб'ёму і паўночнай сцяной прэсбітэрыя, знаходзілася сакрысція. Да галоўнага фасада прымыкала шмат'ярусная вежа. Сцены храма былі ўмацаваны контрфорсамі, якія ў плане былі блізкія да квадрата. Аналагічныя контрфорсы ўжыты таксама ў іншых аднанефавых касцёлах Беларусі XVI ст. (вв. Дзераўное, Чарнаўчыцы).

Цікава, што вуглавыя контрфорсы асноўнага аб'ёму былі ўзведзены перпендыкулярна бакавым фасадам. Такое размяшчэнне таксама прасочваецца ў помніках Літвы (касцёлы XV ст. у Меркіне, сярэдзіны XVI ст. у Запішкісе).

Галоўны фасад касцёла завяршаўся франтонам трохвугольнай формы. У ім для асвятлення паддашку былі зроблены два круглыя акны. Над прэсбітэрыем узвышалася драўляная вежа-званічка.

Сцены храма былі ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (26—27×12,5—13×6,5—7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. На некаторых участках сцен не прасочана характэрнае для готыкі правільнае чаргаванне лажкоў-тычкоў цэглы. Па фармату яна супадае з цэглай Ішкалдскага касцёла 1472 г. Вельмі блізкая таксама да цэглы такіх помнікаў другой паловы XVI ст., як Троіцкі касцёл у Чарнаўчыцах і кальвінскі збор у Кухцічах.

Падмуркі касцёла магутнасцю 1,5—2 м выкананы з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў. Знешні край падмуркаў вынесены ад вонкавай плоскасці сцен на 0,15—0,3 см. Цагляная муроўка пачынаецца на глыбіні 0,9 м, тынкоўка — 0,5 м.

Пасля ўзвядзення асноўнага аб'ёму была прыбудавана вежа. Пра гэта сведчыць адсутнасць штрабы на галоўным фасадзе. Зараз адназначна цяжка сказаць, чым было выклікана будаўніцтва вежы. Магчыма, першапачаткова яна прызначалася для абароны, а пазней была прыстасавана пад званіцу.

З гравюры Клецка пачатку XVII ст. бачна, што спачатку вежа была больш высокай, чым на фотаздымках 30-х гадоў XX ст. Аднак яна паранейшаму дамінавала ў аб'ёмнай кампазіцыі. Першы ярус вежы меў план квадратнай формы. Верхнія ярусы былі васьміграннымі і таму ў параўнанні з асновай больш плаўнай формы. Зрокава лёгкая васьміграння вежа кантраставала з ма-



*91. Троіцкі касцёл у Клецку. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку. Фота 30-х гг. XX ст.*

сіўнымі і статычнымі формамі асноўнага аб'ёму, што надавала ўсяму будынку дынамічнасць. У формах вежы і прыёмах стварэння кантрастнай дынамічнай кампазіцыі бачны рэнесансавыя рысы [119, *116*].

Вялікую цікавасць выклікае таксама **Спаса-Праабражэнская царква** ў Заслаўі, пабудаваная ў 1557 г. па загаду віленскага ваяводы Івана Глебавіча [255, *39—40*]. Звесткі, што царква ўзведзена ў X ст., з'яўляюцца легендарнымі [20, *46*]. Першапачаткова гэта быў кальвінскі збор, які, на думку З. Даўгялы, перароблены з раней пабудаванага касцёла [131, *117*]. Аднак Г. В. Штыхаў у працэсе археалагічнага вывучэння помніка не выявіў архітэктурных рыс, уласцівых касцёлам [265]. У 1628 г. віленскі кашталян, сын фундатара, Мікалай Глебавіч перадаў збор католікам, якія яго прыстасавалі пад касцёл Міхаіла Архангела. У 1676 г. Казімір Сапега заснаваў пры ім дамініканскі кляштар. У 1678 г. храм быў перабудаваны. У XVIII ст. яго даўжыня складала 43 локці, шырыня — 23 локці, вышыня — 14 локцяў. Інтэр'ер упрыгожвалі пяць алтароў: галоўны — мураваны, а астатнія — драўляныя. У 1839—1864 гг. кляштар закрылі, а храм у 1865 г. прыстасавалі пад праваслаўную Спаса-Праабражэнскую царкву. Тады быў праведзены чарговы рамонт помніка



*92. Троіцкі касцёл у Клецку. Галоўны фасад. Фота 30-х гг. XX ст.*

[326, *14*, *442*; 140, кн. 2, *47*; 203, *81*]. У 1968—1972 гг. яго рэстаўрыравалі.

Царква з'яўляецца аднанефавай прамавугольнай у плане безапсіднай пабудовай. Да галоўнага фасада прымыкае шмат'ярусная вежа. Пры будаўніцтве храма была ўжыта цэгла (30—31×14,5—15×7—7,5 см). У час раскопак каля паўднёва-ўсходняга вугла Г. В. Штыхаў устанавіў, што яго падмуркі выкананы пад нахілам унутр з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне. У іх аснове прасочаны валуны і цэгла. Падэшва залягае на глыбіні 5,5 м ад узроўню сучаснай дзённай паверхні. Узровень зямлі перыяду будаўніцтва храма знаходзіцца на глыбіні 4 м [265, *139—140*].

У аб'ёмнай кампазіцыі царквы дамінуе пяціярусная вежа. У першым ярусе зроблены два дзвярныя праёмы. Гэты ярус вежы выкарыстоўваецца як бабінец. Над уваходам маюцца драўляныя хоры. Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі. Пад царквой знаходзіцца крыпта з цыліндрычнымі скляпеннямі. Унутры і звонку сцены царквы ўпрыгожаны пілястрамі. Першапачаткова на месцы пілястраў быў складаны па малюнку арнамент, які счасалі, напэўна, у XVII ст. Гэты арнамент выяўлены ў час апошняй рэстаўрацыі храма на паўночным фасадзе. Вуглы царквы дэкарыраваны рустам. Завяршаюцца сцены атыкам, уласцівым рэнесан-



*93. Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі. Выгляд з паўночна-заходняга боку. Фота В. Карбоўскага. 1988 г.*



*94. Троіцкі касцёл у Чарнаўчыцах. Паўднёвы фасад*

савай архітэктуры. Даследчыкі не выключаюць магчымасці, што на гэтым узроўні ў царкве былі байніцы [240, *135*]. Атык з гарызантальнымі і вертыкальнымі чляненнямі ўсходняга франтона надае параўнальна невялікіх памераў пабудове манументальны выгляд.

**Троіцкі касцёл** у Чарнаўчыцах (Брэсцкі р-н) пастаўлены ў 1585 г. на сродкі Мікалая Крыштафа Радзівіла. Пра гэта сведчаць, хоць і некалькі ўскосна, інвентарныя вопісы храма канца XVIII—XIX ст., а таксама літаратурныя крыніцы XIX ст. [3, *21*; 4, *1*; 11, *1*; 326, I, *820*]. Гэта аднанефавае з дастаткова развітым трансептам і паўкруглай апсідай збудаванне. Да трансепта і сцен прэсбітэрыя прымыкаюць прыбудовы і вежа цыліндрычнай формы з драўлянымі вінтавымі ўсходамі. Перад галоўным уваходам у касцёл зроблены прытвор. Помнік накрыты двухсхільным дахам. На паўночным захадзе ад касцёла стаіць трох'ярусная званіца.

Сцены касцёла пабудаваны ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (26,5—29×12,5—13×6,5—7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Падмуркі зроблены ў тэхніцы змешанай муроўкі з цэглы (27—29×12,5—13××7—7,5 см) і валуноў вялікіх і сярэдніх памераў. Падэшва знаходзіцца на глыбіні 3,2 м. Пад час археалагічных даследаванняў таксама выяўлена, што сакрысція, рызніца і вежа прыбудаваны да прэсбітэрыя, напэўна, у XVII ст. Пра гэта сведчыць не толькі адсутнасць перавязкі паміж падмуркамі, але і тое, што вежа часткова закрывае першапачатковае акно і гзымс. Аналагічнае акно было таксама і ў паўночнай сцяне прэсбітэрыя. Зараз яно замуравана. Калі вежа пабудавана пазней, чым асноўны аб'ём, то цяжка ўявіць, як можна было трапіць на паддашак касцёла. Не выключана, што першапачаткова планавалася паставіць вежу перад галоўным фасадам, аднак па якіх-небудзь абставінах гэта не было зроблена. Уста-

ноўлена таксама, што дах касцёла быў пакрыты гонтай у канцы XVI—XVIII ст., таму што не знойдзены фрагменты дахоўкі гэтага часу.

Інтэр'ер асноўнага аб'ёму і прэсбітэрыя перакрывае паўцыркульнае скляпенне, упрыгожанае сеткавым арнаментам ляпных кесонаў, што з'яўляецца элементам рэнесансавай архітэктуры. Узмацняюць пластыку інтэр'ераў пілястры, якія падкрэсліваюць не толькі дэкаратыўнае афармленне скляпенняў, але і сцен касцёла. Вокны прэсбітэрыя былі замураваны, у выніку чаго асвятленне




*95. Троіцкі касцёл у Чарнаўчыцах. План*



*96. Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержні. Галоўны фасад. Фота 30-х гг. XX ст.*

алтарнай часткі стала нераўнамерным у адрозненне ад добра асветленага інтэр'ера асноўнага аб'ёму, што адмоўна адбілася на адзінстве ўнутранай прасторы касцёла.

Яго сцены ўмацаваны контрфорсамі, якія маюць нязначны вынас ад вонкавай плоскасці сцен, што ўласціва тэктанічнай структуры познегатычнага фасада. Франтон галоўнага фасада дэкарыраваны нішамі прамавугольнай формы і вертыкальнымі цягамі, якія з'яўляюцца элементамі рэнесансу.

**Петрапаўлаўскі касцёл** у Новым Свержні (Мінская вобл.) — помнік беларускай архітэктуры апошняй чвэрці XVI ст. Праўда, у шэрагу сучасных навуковых выданняў лічыц-

ца, што Петрапаўлаўскі касцёл пабудаваны ў сярэдзіне XVI ст. і спачатку з'яўляўся кальвінскім зборам [140, II, *242*]. Гэтыя звесткі, на нашу думку, запазычаны з гістарычнай і краязнаўчай літаратуры XIX ст. Аднак сярод аўтараў, якія ў той час пісалі пра Свержань, не было адзінай думкі, каму з рэфарматараў належаў гэты храм. М. Балінскі паведамляў, што ён быў кальвінскім зборам [280, *537*]. У. Сыракомля дакладна не ведаў, да якой рэфармацыйнай плыні яго аднесці [329, *105*]. У. Каратынскі адзначаў, што спачатку храм належаў кальвіністам, а затым арыянам [286, *383*].

Аднак аналіз выяўленых намі ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Літоўскай Рэспублікі копій яго фундушаў, якія зроблены ў XVIII ст., сведчыць: яго заснаваў у 1588 г. Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка). Гэтыя дакументы не пацвярджаюць інфармацыі, што помнік першапачаткова з'яўляўся кальвінскім зборам. Наадварот, у іх адзначана, што Мікалай Крыштаф Радзівіл даў сродкі і пляц пад каталіцкі касцёл, дзе служба павінна праводзіцца па рымскаму абраду [70, *59*; 75, *27*].

З гэтага яскрава вынікае, што добравядомая рэфарматарская дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага абмінула мястэчка Новы Свержань, якое да 1571 г. знаходзілася ва ўладанні Храптовічаў, вядомых тым, што яны да канца XVI ст. змагаліся за захаванне праваслаўнай веры. Радзівіл Чорны не мог фундаваць гэты храм яшчэ і па той прычыне, што яго сын набыў Новы Свержань толькі ў 1575 г. [326, II, *678*].

План помніка ўяўляе аднанефавую прамавугольную пабудову са слаба акрэсленым трансептам. З усходу храм заканчваецца невысокай паўкруглай апсідай. З захаду да яго прымыкае трох'ярусная вежа.

У выніку візуальнага даследавання ўстаноўлена, што сцены асноўнага аб'ёму і апсіды пабудаваны ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (28—27×13—12,5×7,5 — 7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне.

У адрозненне ад асноўнага аб'ёму вежа ўзведзена ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі з цэглы-пальчаткі фарматам 28—27×13,5—13×7,5—7 см. У муроўцы вежы і асноўнага аб'ёму касцёла швы рошчыны не былі расшыты. Аднак першапачаткова звонку храм не быў атынкаваны. У самых ранніх вядомых нам інвентарных вопісах за 1720 і 1740 гг. адзначана, што «з боку вуліцы касцёл не пакрыты тынкоўкай» [75, *9—10 адв.*]. З больш позніх вопісаў вынікае, што яго не тынкавалі да 1820 г.

У працэсе архітэктурна-археалагічных даследаванняў [53] устаноўлена, што сцены касцёла стаяць на падмурках, падэшва якіх залягае на глыбіні 4,1 м. Падмуркі ўзведзены ў тэхніцы бутавай муроўкі ў апалубцы на вапнава-пясчанай рошчыне. Для апалубкі выкарыстоўваліся колатыя дошкі шырынёй 23—40 см, таўшчынёй 5 см. Пры будаўніцтве падмуркаў апсіды дошкі ставілі вертыкальна, а асноўнага аб'ёму — гарызантальна. У якасці бута выкарыстоўваліся валуны вялікіх і сярэдніх памераў, а таксама пашкоджаная цэгла. Знешні край падмурка знаходзіцца на адлегласці 0,3—0,4 м ад вонкавай плоскасці сцяны.

У аналагічнай тэхніцы муроўкі выкананы падмуркі палаца Стэфана Баторыя другой паловы XVI ст. Гродзенскага замка, Мікалаеўскага касцёла канца XVI — пачатку XVII ст. у г. п. Мір, Нясвіжскага замка канца XVI—XVIII ст.

Паміж падмуркамі вежы і асноўнага аб'ёму касцёла не прасочана перавязка. Яе адсутнасць, як і розная тэхніка муроўкі сцен, неаднолькавыя фарматы цэглы, неаднародная стылістычная арганізацыя кампазіцыі фасадаў, сведчыць пра несінхроннасць будаўніцтва гэтых двух аб'ёмаў. Аднак блізкая па памерах цэгла, склад рошчыны, а таксама ідэнтычная тэхніка ўзвядзення падмуркаў дазваляюць сцвярджаць, што прыбудова вежы была ажыццёўлена не пазней канца XVI — пачатку XVII ст. Хутчэй за ўсё дойліды па канструкцыйна-тэхнічных меркаваннях не сталі рабіць два розныя па нагрузцы аб'ёмы касцёла з перавязкай. Відаць, узвядзенне вежы было адным з запланаваных этапаў яго будаўніцтва. На тэрыторыі Беларусі вядома яшчэ шэраг касцёлаў (Гнезна, Клецк), дзе ў хуткім часе пасля ўзвядзення асноўнага аб'ёму прыбудавана вежа.

Унутраная прастора складаецца з трох памяшканняў, якія маюць неаднолькавыя памеры. Хоць вежа прыбудавана, аднак складаецца ўражанне, што яе першы паверх не прымыкае да асноўнага аб'ёму, а ўтварае з ім арганічнае цэлае, бо адкрыты на ўсю шырыню і вышыню ўнутр касцёла. Яго інтэр'ер перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі над вокнамі.

Фасады касцёла ажыўлены аконнымі праёмамі, нішамі і пілястрамі. У XVIII — пачатку XIX ст. у вокнах было ўжыта блакітнае і жоўтае шкло дыскападобнай формы. Дзве такія шыбіны выяўлены ў працэсе археалагічнага даследавання помніка. Усходняя сцяна касцёла завяршаецца франтонам трохвугольнай формы. Яго дэкор нагадвае драўляныя дэталі фахверкавага будынка.

У знешнім абліччы помніка прасочваецца парушаная прапарцыянальная сувязь аб'ёму вежы і асноўнай часткі касцёла. Як сведчаць архіўныя крыніцы, першапачаткова вежа была значна вышэйшай. У 1818 г. ураган знёс дах, а таксама часткова разбурыў яе верх. Падаючы, канструкцыі разламалі драўляны прытвор, які размяшчаўся перад галоўным уваходам у касцёл, а таксама пашкодзілі дах яго асноўнага аб'ёму [12, *1*]. У хуткім часе прытвор аднавілі. Вежу дзеля бяспекі зрабілі ніжэйшай, і зараз цяжка ўявіць яе першапачатковы сілуэт. Дах вежы і прытвора перакрылі гонтай [27, *1*].

Тады ж побач з касцёлам пабудавалі драўляную званіцу. У час пажару 1890 г., што ахапіў амаль усё мястэчка, яна згарэла разам з іншымі пабудовамі плябані. У хуткім часе званы былі паноўлены і




*97. Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержні. Фасады, план. Архітэктар Г. Босак*

зноў размешчаны ў вежы касцёла [24, *12 адв.*]. У XIX ст. касцёл быў накрыты дахоўкай. Паводле інвентарных вопісаў, у асноўным аб'ёме яна была ўжо ў першай палове XVIII ст. Вежа і апсіда былі тады яшчэ накрыты гонтай [75, *9*], якую ў апошняй чвэрці XVIII ст. замянілі на хвалістую дахоўку [26, *1*]. Першапачаткова касцёл быў накрыты пляскатай дахоўкай (?×16—15,5×3,2 см), што мае на супрацьлеглым ад мацавальнага выступа акруглы край. Гэтая дахоўка выяўлена намі пад час архітэктурна-археалагічных даследаванняў помніка. У пачатку XX ст. касцёл накрылі бляхай. Тады ж вакол касцёла была зроблена агароджа [13, *77*].

Зараз аб'ём вежы складаецца з трох ярусаў. Першы ярус прарэзаны дзвярным праёмам прамавугольнай формы і акном з паўцыркульным завяршэннем. Дзвярны праём акцэнтаваны акаймоўкай нескладанага профілю. На ўзроўні гэтага яруса кутнія часткі вежы ўзмоцнены контрфорсамі. Першы ярус вежы складаецца з уваходу ў касцёл і хораў, якія адкрыты ўнутр храма невялікім арачным праёмам паўцыркульнай формы. На хоры можна падняцца па ўсходах, зробленых у тоўшчы паўднёвай сцяны вежы. Гэты ж ярус перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Астатнія два ярусы вежы прыстасаваны пад званіцу. Яны злучаюцца з памяшканнем першага яруса драўлянай лесвіцай. Усе ярусы вежы маюць неаднолькавую вышыню і рознае дэкаратыўнае афармленне, што надае ёй дастаткова жывапісны выгляд. Другі ярус аздоблены пілястрамі, трэці — неглыбокімі паўцыркульнымі нішамі. Вежа накрыта чатырохсхільным шатром.

За доўгі час існавання помнік, напэўна, неаднойчы быў пашкоджаны. Так, у 1706 г. Новы Свержань спалілі шведы. Не абмінулі яго і падзеі Айчыннай вайны 1812 г. Тады пад мястэчкам адбылася сутычка рускіх войскаў з французамі [326, II, *678*]. У 1915 г. Новы Свержань быў акупіраваны нямецкімі войскамі. У час Вялікай Айчыннай вайны былі часткова пашкоджаны вежа і алтарная частка касцёла. Пасля вайны ён заставаўся зачынены і не рамантаваўся. У 1950 г. храм прыстасавалі пад зернесховішча.

У 1959 г. Дзяржаўны камітэт па справах будаўніцтва і архітэктуры




*98. Петрапаўлаўскі касцёл у в. Дзерағная. План*

пасля «...усебаковага вывучэння ...знайшоў магчымым зняць з дзяржаўнага ўліку шэраг помнікаў, у тым ліку і касцёл Пятра і Паўла ў в. Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці як збудаванне, якое не мае вялікага гісторыка-архітэктурнага значэння». Гэтая пастанова нанесла вялікую шкоду помніку, бо спрыяла яго разбурэнню, у прыватнасці інтэр'ера [174, *36*].

Папаўняе групу аднанефавых пабудоў **Петрапаўлаўскі касцёл** у в. Дзераўная (Мінская вобл.). Да апошняга часу лічылася, што ён быў узведзены ў 1590 г. Мікалаем Крыштафам Радзівілам і першапачаткова з'яўляўся кальвінскім зборам [315, *199;* 323, II, 7]. Аднак Мікалай Радзівіл, як устанавіў І. Ядкоўскі, набыў яго ў Мікалая Русецкага толькі ў 1594 г. [143, *305*]. Да таго ж у 1567 г. Мікалай Радзівіл адмовіўся ад кальвінізму і прыняў каталіцкую веру [281, *228*]. З гэтага вынікае, што помнік узведзены не раней 1594—1595 гг.

У інвентары 1789 г. паведамляецца, што яго фундавалі ў 1598 г. пад назвай Св. Марыі Мікалай Крыштаф і Яўфемія Радзівілы [26, *40*].

У 1788 г. быў праведзены рамонт вежы, у 1841 г. зроблены ўваход у касцёл у паўднёвай сцяне, у 1861 г. перароблены вокны (143, *305*).

Гэта аднанефавае з адной вежай, прэсбітэрыем з гранёнай апсідай збудаванне. Да прэсбітэрыя прымыкаюць дзве сакрысціі.

Сцены касцёла пабудаваны ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі з цэглы (27,6—28×12—12,5×7—8 см). Падмуркі з глыбінёй залягання 2,6 м выкананы з валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне. Цікава, што ў вежы ўжыта цэгла не такога фармату (22,5—23×15×5,5—6 см), як у асноўным аб'ёме касцёла. Такія памеры сустракаюцца пераважна ў помніках беларускай архітэктуры другой паловы XVII ст. [245, *108*]. Відавочна, вежа касцёла, як і папярэдніх аднатыпных помнікаў, таксама ўзведзена ў XVII ст.

Над уваходам у касцёл зроблены драўляныя хоры. На іх можна падняцца па ўсходах, што маюцца ў паўночнай і паўднёвай сценах храма. Хоры звязаны з унутраным памяшканнем другога яруса вежы арачным праёмам. На два апошнія ярусы, перакрытыя драўлянымі насціламі, вядуць прыстаўныя драўляныя лесвіцы.

Унутраная прастора асноўнага аб'ёму перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі над вокнамі, а сакрысцій — крыжовымі скляпеннямі. Бакавыя адрэзкі падпружных арак скляпенняў галоўнай часткі злучаны з пілястрамі, якія з'яўляюцца адзіным архітэктурным упрыгожаннем інтэр'ера. Гэтаму храму, як і асноўнай колькасці помнікаў другой паловы XVI ст., уласціва сціпласць дэкаратыўнага афармлення інтэр'ераў і фасадаў.

Бакавыя фасады расчляняюць высокія з нязначным вынасам контрфорсы. У аб'ёмнай кампазіцыі помніка дамінуе трох'ярусная вежа. Ніжні ярус да ўзроўню гзымса сцен мае план амаль квадратнай формы. Вуглы вежы ў ніжняй частцы, як і ў Петрапаўлаўскім касцёле апошняй чвэрці XVI ст. у Новым Свержні, Мікалаеўскім касцёле канца XVI— пачатку XVII ст. у Міры, умацаваны контрфорсамі. Верхнія ярусы чатырохграннай і васьміграннай формы. Разам з нішамі, якія ўпрыгожваюць яе фасады, яны ўзмацнілі пластычную выразнасць помніка, у архітэктуры якога прасочваюцца элементы готыкі і рэнесансу.



*99. Успенская царква ў Новым Свержні. Фота 30-х гг. XX ст.*

Аднанефавай пабудовай з'яўляецца таксама **Успенская царква** ў Новым Свержні (Мінская вобл.). Адносна яе датавання існуе шэраг меркаванняў. Адны даследчыкі лічаць, што ўзведзена яна ў 1511—1520 гг. (326, XI, *677*), другія — у 1590 г. Трэція выказваюць думку, што яна перабудавана ў канцы XVI—пачатку XVII ст. з праваслаўнай царквы на касцёл базыльянскага кляштара (203, *108*).

Царква складаецца з бабінца, над якім узведзена вежа, асноўнага аб'ёму прамавугольнай формы і апсіды з двума рызніцамі. Помнік арыентаваны галоўным фасадам на поўнач. Сцены царквы пабудаваны ў тэхніцы змешанай муроўкі з цэглы-пальчаткі (27—28×12,5—13×6—7 см) і валуноў сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. Цэгла амаль аналагічных памераў ужыта пры ўзвядзенні ў апошняй чвэрці XVI ст. мясцовага Петрапаўлаўскага касцёла. Таму на аснове памераў цэглы, складу рошчыны царкву можна датаваць канцом XVI—пачаткам XVII ст.

Сцены апсіды і прытвораў пабудаваны ў тэхніцы лажок-тычок з цэглы (26—27×12,5—13×6—6,5 см), якая мае гладкія шырокія паверхні. Падмурак сцен бабінца і асноўнага аб'ёму глыбінёй залягання 1,7 м зроблены ў тэхніцы бутавай муроўкі ў апалубцы, падмурак апсіды і рызніц магутнасцю 2 м — бутавай муроўкі. Паміж падмуркамі асноўнага аб'ёму храма і алтарнай часткі адсутнічае перавязка — сведчанне іх рознач асовага будаўніцтва. Фармат цэглы і яе фактура, склад рошчыны дазваляюць сцвярджаць, што апсіда

з рызніцамі пастаўлена ў другой палове XVIII—пачатку XIX ст. [54].

Унутры царквы, каля заходняй сцяны апсіды, прасочаны падмурак больш ранняй пабудовы шырынёй 1,3 м. Паміж праслямі паўднёвай сцяны выяўлены падмурак шырынёй 1,2 м. Цікава, што фармат цэглы, будаўнічая тэхніка гэтых падмуркаў адпавядае ўжытым у падмурках асноўнага аб'ёму храма. Значыць, алтарная частка ўзведзена на месцы больш ранняй апсіды ці прытвора.

Для ўваходу ў храм ва ўсходняй і заходняй сценах бабінца зроблены два дзвярныя праёмы. У бабінцы ёсць драўляная лесвіца, па якой можна падняцца на хоры, размешчаныя над уваходам у асноўную частку царквы. Інтэр'ер царквы перакрыты плоскай драўлянай столлю.




*100. Успенская царква ў Новым Свержні. Фасады, план. Архітэктар Г. Босак*

Сцены прарэзаны вокнамі з паўцыркульнай перамычкай. Звонку царкву ўпрыгожвае партал, зроблены над дзвярным праёмам заходняй сцяны бабінца. Над ім у XVIII ст. была ўзведзена, як сведчыць фармат цэглы таго часу (28—31×14—16×6—6,5 см), вежа з барочнай главкай. Першапачаткова дах царквы накрылі гонтай, якую ў XVIII ст. замянілі на хвалістую дахоўку.

**Кальвінскі збор** у в. Асташына (Гродзенская вобл.) быў пабудаваны ў канцы XVI ст. на сродкі Яна Швыкоўскага [326, IV, *664*].

Помнік меў аднанефавую гатычную структуру і заканчваўся granёнай апсідай. Да галоўнага фасада прымыкала шмат'ярусная вежа. Першы яе ярус па шырыні адпавядаў галоўнаму фасаду. Затым шырыня кожнага яруса памяншалася. Інтэр'ер храма перакрывалі цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі над вокнамі. Помнік быў разбураны пад час апошняй вайны.

Завяршае гэтую тыпалагічную групу пабудоў **касцёл Ушэсця Прасвятой Багародзіцы** ў Магілёве. Помнік узведзены ў 1594—1604 г. У XVIII—XIX стст. неаднаразова перабудоўваўся. У 1961 г. яго цалкам разбурылі. Першапачатковую планіровачную структуру касцёла можна ўявіць па плане 1868 г. Асноўны аб'ём меў план прамавугольнай формы, заканчваўся прэсбітэрыем з гранёнай апсідай, якая сведчыць пра ўплыў готыкі на беларускую архітэктуру канца XVI—пачатку XVII ст. [149, *80—81*]. Магчыма, інтэр'ер касцёла быў перакрыты мураванымі скляпеннямі, а сцены ўмацаваны контрфорсамі.



*101. Кальвінскі збор у Асташыне. Фота 30-х гг. XX ст.*



*102. Кальвінскі збор у Асташыне. Паўднёвы фасад. 40—50-я гг. XX ст.*



103. Кальвінскі збор у Асташыне. Фрагмент інтэр'ера. 40—50-я гг. XX ст.




104. Касцёл Ушэсця Прасвятой Багародзіцы ў Магілёве. План

Калі параўнаць аднанефавыя храмы Беларусі і Літвы (касцёл у Запішкісе другой паловы XVI ст., касцёл Св. Ганны 1581 г. у Вільні), то атрымліваецца, што агульным для архітэктуры гэтых помнікаў з'яўляецца план прамавугольнай формы асноўнага аб'ёму. Шэрагу касцёлаў Беларусі (вв. Дзераўная, Чарнаўчыцы, г. Клецк) і Літвы (касцёл Св. Ганны ў Вільні) уласцівы таксама доўгі прэсбітэрый і контрфорсы. Адрозненне іх у тым, што інтэр'еры і фасады касцёлаў Літвы значна больш насычаны дэкаратыўнымі элементамі.

Як бачна, многія разгледжаныя помнікі першапачаткова не мелі вежы ў цэнтры галоўнага фасада, якая дабудоўвалася ў хуткім часе пасля ўзвядзення асноўнага аб'ёму. Напэўна, дойліды лічылі немагчымым адразу ўзводзіць з перавязкай неаднолькавыя па канструкцыйнай нагрузцы аб'ёмы. Таму ўзвядзенне вежаў было, відаць, першапачаткова запланаваным этапам будаўніцтва помнікаў.

Амаль ва ўсіх аднанефавых пабудовах Беларусі XVI ст. назіраюцца готыка-рэнесансавыя рысы. У асноўным готыка праявілася ў тэхніцы муроўкі сцен, высокіх двухсхільных дахах, шматгранных апсідах, контрфорсах, якія маюць нязначны вынас ад вонкавай плоскасці сцен. Таму яны амаль не нясуць канструкцыйнай нагрузкі. Элементамі рэнесансавага дойлідства з'яўляюцца атынкаваныя фасады, цыліндрычныя скляпенні, нішы прамавугольнай і круглай формы, вертыкальныя цягі.

Сярод аднанефавых храмаў ёсць і рэнесансавыя пабудовы (касцёл у Новым Свержні, кальвінскі збор у Заслаўі). Аднак большасці помнікаў уласціва стылістычная раздвоенасць.

## ПОМНІКІ З ЦЭНТРЫЧНЫМ ПЛАНАМ

Адзін з іх — **кальвінскі збор** у Кухцічах (п. Першамайскі Мінскай вобл.), пабудаваны ў 60—70-я гады XVI ст. на сродкі вядомага беларускага кальвініста Мацея Кавячынскага, уладальніка Кухціч, паплечніка гуманіста і асветніка С. Буднага [244].

Аб'ёмная кампазіцыя храма складаецца з асноўнай часткі, якая мае ўнутры акруглую, а звонку шматгранную форму, а таксама апсіды і прытвора. Па вуглах прытвор фланкіраваны дзвюма вежамі цыліндрычнай формы.

Сцены пабудаваны ў тэхніцы раўнаслойнай муроўкі з цэглы (27—27,5×13—13,5×6,5—7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Цэгла аналагічнага фармату ўжыта ў Троіцкім касцёле сярэдзіны XVI ст. у Клецку, Петрапаўлаўскім касцёле другой паловы XVI ст. у Новым Свержні. Вежы ўзведзены ў тэхніцы тычковай муроўкі з цэглы (?×13,5—15×6,5—7 см). Рошчына па складу блізкая да ўжытай у сценах храма.

Падмуркі з глыбінёй залягання 2 м зроблены ў тэхніцы змешанай муроўкі з цэглы і валуноў. Паміж падмуркамі вежаў і прытвора перавязка адсутнічае. Яна таксама не прасочана і паміж іх сценамі. Усё гэта дазваляе сцвярджаць, што вежы прыбудавалі ў хуткім часе пасля ўзвядзення храма, напэўна,



*105. Кальвінскі збор у Кухцічах. Паўднёвы фасад. Фота аўтара. 1989 г.*




*106. Кальвінскі збор у Кухцічах. План і схема размяшчэння шурфоў. Архітэктар Г. Жаровіна*

на працягу другой паловы XVI ст.

У інтэр'еры сцены расчлянёны канеліраванымі пілястрамі і завершаны гзымсам. Звонку помнік упрыгожваюць плоскія лапаткі на галоўным фасадзе прытвора, ляпныя геральдычныя выявы над уваходам, а таксама гзымс у завяршэнні сцен. Яны прарэзаны вокнамі круглай формы, а таксама прамавугольнай з паўцыркульным завяршэннем. Першапачаткова падлога была высцелена, напэўна, з тэракотавых і зялёных паліваных плітак (18×18×3 см), якія ляжалі ў шахматным парадку. Гэтыя пліткі выяўлены пад час археалагічнага вывучэння помніка.

Зараз з-за пераробкі верхніх частак сцен цяжка сказаць, ці былі інтэр'еры перакрыты муравалымі скляпеннямі. Цыліндрычныя скляпенні апсіды і крыжовыя прытворы ўзведзены, відаць, у XIX ст. Тады была надбудавана апсіда ад узроўню першапачатковага гзымса.

У другой палове XVI—XVII ст. помнік накрылі пляскатай зялёнай паліванай дахоўкай (?×18×2 см) з мацавальным выступам (вышыня 3 см) трохвугольнай формы. Была ўжыта таксама непаліваная (?××14×2 см) аналагічнай формы. Вышыня яе мацавальнага выступа 2 см. На адной шырокай паверхні гэтай дахоўкі прасочаны сляды драўлянай формы, на другой — чатыры неглыбокія канаўкі ад пальцаў майстра.



*107. Кальвінскі збор у Смаргоні. План*

**Кальвінскі збор** у Смаргоні (Гродзенская вобл.) таксама цэнтрычны ў плане. У дакументах XV ст. Смаргонь згадваецца як уладанне Дэспат-Зяновічаў. У канцы XVII ст. мястэчка перайшло да Радзівілаў. У пачатку XIX ст. ім валодалі Пшэздзецкія [139, *320*]. Даследчыкі называюць некалькі дат узвядзення помніка: пабудаваны ў 1505 г. па волі слонімскага старосты Юрыя Зяновіча і ў сярэдзіне XVI ст. перароблены на кальвінскі збор [257, *99*; 292, *173*]; у 1553 г.— як кальвінскі збор брэсцкім ваяводам Крыштафам Зяновічам [114, *468*; 280, *187*; 326, X, *915*]; фундаваны гэтым жа Зяновічам у 1611 г. [300, *260*]; узведзены ў 1606—1612 гг. [90, *368*].

Наяўнасць шматлікіх датаванняў кальвінскага збора ў Смаргоні можна растлумачыць у першую чаргу тым, што час яго будаўніцтва памылкова атаясамліваецца з заснаваннем навагрудскім ваяводам Ежы Зяновічам у 1503 г. драўлянага касцёла Св. Міхаіла на беразе ракі Аксна, дзе былі могілкі [298, *6*]. У 1553 г. Крыштаф Зяновіч не мог узвесці збор, бо яго яшчэ не было на свеце [281, *419*]. Выяўленая намі выпіска 1808 г. з ведамасці фундуша смаргонскай плябані дазваляе сцвярджаць, што гэта ім, напэўна, не было зроблена і ў пачатку XVII ст. У дадзеным дакуменце адзначана, што ў 1617 г. брэсцкі ваявода Крыштаф Зяновіч разам з сынам, мінскім ваяводам, прапойскім



*108. Кальвінскі збор у Смаргоні. Фота У. Суцягіна. 1983 г.*



*109. Фара Вітаўта ў Гродне. Фрагмент гравюры М. Цюнда. 1568—1572 гг.*

старостам Мікалаем Багуславам Зяновічам, даюць рэнавацыю на касцёл і алтар, а таксама далучаюцца да даўніх фундушаў драўлянага і новага мураванага касцёлаў [75, *1*]. Гэта сведчыць, што кальвінскі збор у Смаргоні пабудаваў хтосьці з Зяновічаў, відавочна, у апошняй чвэрці XVI—пачатку XVII ст. У 1863 г. помнік адрамантавалі, а ў 1866 г. перадалі праваслаўнаму духавенству. У 1923—1925 гг. зноў быў праведзены яго рамонт.

Асноўны аб'ём храма мае план васьміграннай формы. З захаду да яго прымыкае двух'ярусная вежа. Да 1866 г. вежа была значна вышэйшая і ў ёй знаходзіўся гадзіннік [298, *27*].

Інтэр'ер перакрывае купал сферычнай формы. Яго ніжняя частка звонку закрыта характэрным для рэнесансавай архітэктуры атыкам, які дэкарыраваны пілястрамі і спаранымі паўцыркульнымі нішамі з гіркамі. Для хораў прыстасаваны другі ярус вежы, які адкрыты ўнутр паўцыркульнай аркай. Шматлікія нішы паўцыркульнай формы ў спалучэнні з дзвярнымі праёмамі і вокнамі ствараюць адчуванне велічнасці інтэр'ера.

Як бачна, у архітэктуры Беларусі другой паловы XVI—пачатку XVII ст. існуюць два вельмі арыгінальныя помнікі, якія ўзведзены пад уплывам ідэй Рэфармацыі. Спецыфічнасць іх архітэктуры, відаць, абумоўлена тым, што ў кальвінскіх зборах асноўная ўвага надаецца не алтарнай частцы, а кафедры прамоўцы [114, IV, *451*]. У дойлідстве Літвы разгледжаным храмам няма аналогій. У архітэктуры Польшчы XVII—пачатку XVIII ст. маецца шэраг помнікаў з цэнтрычна-шматгранным планам [138, *224*].

## ХРАМЫ-БАЗІЛІКІ

Гэтая група помнікаў звязана з **фарным касцёлам** (фара Вітаўта) у Гродне. Як сведчыць грамата 1389 г. вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Вітаўта гродзенскім яўрэям, помнік у гэты час ужо існаваў і спачатку быў драўлянай пабудовай. К. Д. Квітніцкая выказала меркаванне, што ў 1494 г. вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч паставіў на яго месцы мураваны касцёл [149, *24*]. На гравюры М. Цюнда ён паказаны ў выглядзе аднанефавага храма, накрытага двухсхільным дахам. Каля паўднёва-ўсходняга вугла знаходзілася шмат'ярусная вежа [150, *30—31*].

Аднак выяўленыя польскім гісторыкам Е. Пашэндам матэрыялы дазволілі яму сцвярджаць, што мураваны прыходскі касцёл у Гродне ўзведзены ў 1579—1586 гг. на сродкі караля Стэфана Баторыя, які хацеў запрасіць у Гродна езуітаў. У перапісцы з правінцыялам Янам Паўлам Кампана Стэфан Баторый адзначыў, што гродзенскі прыходскі касцёл «самы вялікі і самы цудоўны ў Вялікім княстве Літоўскім, але драўляны», а ён плануе збудаваць мураваны храм, у якім жадае быць пахаваным, калегіум і школу. У 1584—1587 гг. касцёл быў пастаўлены [208, *182—183*]. З гравюры Гродна пачатку XVII ст. Т. Макоўскага бачна, што помнік уяўляў сабой трохнефавае прамавугольнае збудаванне, якое заканчвалася з усходу прэсбітэрыем з гранёнай апсідай. Да галоўнага фасада прымыкала шмат'-




*110. Фара Вітаўта ў Гродне. Фрагмент гравюры Т. Макоўскага. 1600 г.*



*112. Фара Вітаўта ў Гродне. Малюнак Н. Орды. 60-я гг. XIX ст.*



*111. Фара Вітаўта ў Гродне. Абмеры 1803 г. План, разрэз, паўднёвы фасад (паводле К. Квітніцкай)*



*113. Фара Вітаўта ў Гродне. Паўднёвы фасад да пажару 1892 г. Абмеры архітэктара М. Чагіна*



*114. Фара Вітаўта ў Гродне. Пасля пажару 1892 г.*

ярусная вежа, якая з'яўлялася галоўнай дамінантай яго аб'ёмнай кампазіцыі. Над дахам у цэнтры асноўнага аб'ёму ўзвышалася невялікая драўляная вежа-званіца з глаўкай. Фасады касцёла ўпрыгожвалі глухія аркі.

У XVII—XVIII стст. касцёл шмат разоў гарэў і адраджаўся. Значныя пашкоджанні яму былі нанесены ў 1782 г. у час вялікага пажару [121, *38*]. Доўгі час пасля гэтага касцёл знаходзіўся ў запусценні — да самага пачатку XIX ст., калі быў перададзены праваслаўнаму духавенству. У 1804—1807 гг. праводзілася праца па яго аднаўленні, пасля чаго ён быў асвечаны ў імя Св. Сафіі [159, *5—6*]. Цікава, што праваслаўны храм амаль цалкам захаваў фасады касцёла.

Параўнанне абмераў 1803 г. з гравюрай Т. Макоўскага сведчыць, што фасады касцёла ў асноўным захаваліся ў першапачатковым стане. Гэта можна сказаць і адносна ўнутранай планіровачнай структуры. У пачатку XIX ст. касцёл з'яўляўся трохнефавай пабудовай, цэнтральны неф якога ў адрозненне ад іншых храмаў Беларусі XV—XVI стст. быў некалькі вышэйшы за бакавыя. Даўжыня касцёла складала 58,6 м, шырыня — 23 м, што значна перавышала памеры астатніх помнікаў беларускага культавага дойлідства. Таму колькасць слупоў, звычайна роўная чатыром, тут павялічана да

васьмі. Цэнтральны неф меў аднолькавую шырыню з прэсбітэрыем, які быў яго непасрэдным працягам.

Да прэсбітэрыя з поўначы прымыкала сакрысція. Сцены касцёла члянілі высокія прамавугольныя ў плане контрфорсы. Паміж імі знаходзіліся высокія вокны спічастай формы [121, *39*]. Гэтыя элементы выразна паказваюць сувязь з традыцыямі гатычнай архітэктуры. У той жа час глухія аркі фасадаў сведчаць пра ўплывы рэнесансу.

У 1847 г. у саборы быў праведзены значны рамонт [204, *157*]. Тады, відавочна, над глухімі аркамі прэсбітэрыя быў пабудаваны атык, які можна бачыць на малюнку Н. Орды, выкананым у 1861—1869 гг., а так-




*115. Фара Вітаўта ў Гродне. Праект перабудовы М. Чагіна. 1893 г.*



*116. Фара Вітаўта ў Гродне. Пасля перабудовы канца XIX ст.*



*117. Фара Вітаўта ў Гродне. Да перабудовы 20-х гг. XX ст.*



*118. Фара Вітаўта ў Гродне. 50-я гг. XX ст.*

сама на фота сабора пасля пажару 1892 г. У час пажару былі часткова разбураны скляпенні. У 1896—1898 гг. сабор капітальна перабудавалі па праекту архітэктара А. І. Чагіна, у інтэр'еры ўзвялі новыя слупы і скляпенні. У прэсбітэрыі скляпенні былі зроблены значна ніжэй, чым да пажару [293, *9*].

Пасля перабудовы выгляд храма моцна змяніўся. Яго завяршалі пяць глаў на высокіх барабанах. Ніжэй іх помнік апаясвалі паўкруглыя какошнікі. Да паўночнага фасада была прыбудавана яшчэ адна капліца. Капліцы і апсіды завяршаліся шатрамі.

У 1922 г. храм зноў згарэў. У перыяд знаходжання Гродна ў складзе Польшчы яго значна перабудавалі і ператварылі ў гарнізонны касцёл. У 1961 г. гэты адзін з каштоўнейшых храмаў Беларусі ўзарвалі па рашэнню Гродзенскага гарвыканкама [121, *39*].

## ДВУХВЕЖАВЫЯ ТРОХНЕФАВЫЯ ПАБУДОВЫ

Помнікам дадзенай тыпалагічнай групы з'яўляецца выяўлены намі сумесна з архітэктарам інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» У. С. Маскалёвым **храм другой паловы XVI ст. у Гальшанах** (Гродзенская вобл.).

Вялікая гістарычная і архітэктурна-археалагічная каштоўнасць Гальшан у асноўным абумоўлена наяўнасцю такіх выдатных помнікаў беларускай архітэктуры XVI—XVIII стст., як рэшткі замка і францысканскі кляштар. Кляштар складаецца з касцёла, жыллёвага корпуса, які абнесены мураванай агароджай з цаглянымі брамамі і двух'яруснай званіцай, што размешчана насупраць галоўнага ўваходу. Касцёл уяўляе трохнефавую прамавугольную ў плане базіліку, перакрытую крыжовымі скляпеннямі. Да паўднёвай сцяны касцёла прымыкае П-падобны ў плане корпус кляштара. Комплекс размешчаны на гандлёвай плошчы мястэчка, дзе перасякаюцца галоўныя вуліцы.

У сувязі з распрацоўкай праекта рэстаўрацыі помніка намі ў 1985 г. было распачата архітэктурна-археалагічнае даследаванне, якое з нязначнымі перапынкамі працягвалася да 1990 г. Яго вынікі далі магчымасць канкрэтызаваць і асвятліць будаўнічую гісторыю касцёла і кляштара.

Архіўныя дакументы сведчаць, што сучасны выгляд помніка адпавядае яго апісанню ў інвентары 1820 г. У вопісе 1675 г. гаворыцца пра касцёл з трыма купаламі (адзін цэнтральны), дзвюма капліцамі, уваходам з заходняга боку [195, *10—11*]. Літаратурныя крыніцы XIX ст. згадваюць у Гальшанах кальвінскі збор [306, II, *17*]. Таксама маюцца звесткі пра будаўніцтва тут у канцы XV ст. касцёла Іаана Хрысціцеля [280, *188*; 299, *196*].

Пад час архітэктурна-археалагічных даследаванняў (1985—1987, 1990) устаноўлена, што тэрмін узвядзення касцёла і кляштара даволі працяглы. На аснове вывучэння падмуркаў і ўжытай цэглы вылучаны тры этапы будаўніцтва касцёла. Кожнаму з іх адпавядае свая тэхніка муроўкі падмуркаў, якая дазваляе больш дакладна вызначыць гэтыя этапы, чым тэхніка муроўкі сцен (рэнесансавая). Сцены ўсходняй часткі касцёла пабудаваны ў тэхніцы лажок-тычок.

Падмурак 1 зроблены ў змешанай тэхніцы з цэглы (28—29×14—15×7—6 см; 25—26×11—12×6—6,5 см), якая мае канаўкі на адной з шырокіх паверхняў, і валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнавапясчанай рошчыне. Валуны размеркаваны вельмі рэдка. Прамежкі паміж імі запоўнены цэглай. Цэгла першага фармату пераважае ў муроўцы і блізкая па памерах да цэглы шэрагу помнікаў XVI ст. (царква ў Мураванцы, касцёл у Гнезне) [258, *42*]. Амаль аналагічнага памеру цэгла ўжыта пры будаўніцтве



*119. Касцёл францысканскага кляштара ў Гальшанах. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку. Фота У. Суцягіна. 1985 г.*

паўночна-заходняга корпуса з бакавой вежай Гальшанскага замка. І. Чарняўскі, які праводзіў тут археалагічнае даследаванне, лічыць, што гэтая частка замка ўзведзена ў другой палове XVI ст. На аснове фармату цэглы, тэхнікі муроўкі падмуркаў і сцен гэтую частку касцёла можна датаваць другой паловай XVI—пачаткам XVII ст.

Падмурак 2 выкананы ў рэнесансавай тэхніцы з цэглы (29—30,5×14,5—16,5×7—8 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Па фармату гэтая цэгла амаль адпавядае ўжытай у браме Заслаўскага замка і замкавым бровары канца XVI—першай паловы XVII ст. у Магілёве [245, *107*]. Памеры цэглы, тэхніка муроўкі падмуркаў сведчаць, што заходняя частка касцёла ўзведзена ў другой палове XVI—першай палове XVII ст.

У падмурку 3 выкарыстаны валуны і цэгла (27—28,5×14—15×6—7 см; ?×11,5—12×6—6,5 см), якія па памерах ідэнтычныя той, што ўжыта ў падмурку 1. Прасочаны таксама асобныя кавалкі цаглянай муроўкі, якая пакрыта тынкоўкай. Гэта сведчанне таго, што цэглу бралі з раней пабудаванага касцёла ў працэсе яго вялікай перабудовы ў XVII ст.

Падмурак 4 узведзены ў раўнаслойнай тэхніцы з цэглы (28—30××15—16,5×7—8 см), якая мае канаўкі, на вапнава-пясчанай рошчыне. Кампазіцыя фасадаў указвае на тое, што ўсходняя частка касцёла пабудавана ў XVIII ст.

Звонку ў шурфах паміж гэтымі

падмуркамі не прасочана перавязкі. Не выяўлена яна і на паўночным і паўднёвым фасадах паміж асобнымі праслaмі сцен, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. Аднак унутры касцёла перавязка маецца паміж падмуркамі 1—2. Значыць, яны ўзведзены адначасова.

Каштоўныя звесткі для рэканструкцыі першапачатковай планіровачнай і аб'ёмнай кампазіцыі помніка былі атрыманы ў яго інтэр'еры. Там расчышчаны падмуркі трох слупоў — двух паўднёвых і паўночнага. У аснове яны мелі квадратную форму (1,35×1,36 м). Цагляная муроўка захавалася на вышыню 0,14—0,25 м ад верхняга абрэза іх падмуркаў. Ужыта цэгла 25—25,5× ×11×6—6,5 см. Швы муроўкі слупоў загладжаны і маюць роўную паверхню. Іх падмуркі зроблены з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне.

Знойдзены таксама падмуркі трох сцен раней існаваўшага касцёла. Аснова паўднёвай сцяны была выканана ў рэнесансавай тэхніцы муроўкі з аналагічнай, што і слупы, цэглы, а таксама фармату 28—29,5× 13,5—15×7—8 см. Такім жа чынам апрацаваны швы муроўкі гэтай сцяны. Усходняя і паўночная сцены былі цалкам разбураны. Памеры цэглы, склад рошчыны, тэхніка муроўкі сведчаць, што выяўленыя ўнутры касцёла сцены і слупы пабудаваны адначасова ў сярэдзіне—другой палове XVI ст.

Цікава, што падмуркі слупоў на глыбіні 0,3 м ад сучаснай падлогі перакрывае падлога, набраная з цэглы (28—30×14,5—16×6—6,5 см; 25—25,5×13—14×6—6,5 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Яе можна датаваць канцом XVI—першай паловай XVII ст., таму што ў другой палове XVII ст. таўшчыня брусочнай




*120. Францысканскі кляштар у Гальшанах. Стратыграфія тыпаў муровак падмуркаў. Выканаў У. Маскалёў*

цэглы была зменшана да 5—5,5 см [245, *107*]. У падлозе прасочана, хоць і не ў вялікай колькасці, цэгла квадратнай формы (21,5×21,5×5,5 см; 23,5—24×23,5—24,5×5—5,5 см; 25,5—26×22—22,5×5,5 см). Былі выкарыстаны таксама зялёныя паліваныя пліткі (24,5×24,5×4 см).

Важна заўважыць, што падлога гэтага яруса ляжыць вышэй ніжняга краю тынкоўкі заходняй сцяны. Значыць, падлогу набралі пасля афармлення інтэр'ера касцёла. Адначасова яна прымыкае да рэштказ сцен, што ўказвае на іх паўторнае выкарыстанне. Гэтая падлога прасочана ва ўсіх шурфах унутры касцёла, чаго нельга сказаць пра падлогу, выяўленую на глыбіні 0,58 м ад сучаснай. Яна знойдзена толькі каля рэштказ паўднёвай сцяны першапачатковага храма. Высцелена з цэглы (25,5×26×13,5—15×6—7 см; 30×15,5×7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Адна з шырокіх паверхняў цэглы гэтай падлогі, як і вышэйапісанай, вельмі выцертая ад працяглага тэрміну выкарыстання. Лічым, што гэта фрагмент падлогі храма сярэдзіны—другой паловы XVI ст., якую затым, відавочна, выкарысталі пад час яго перабудовы.

Сучасная падлога зроблена ў канцы XIX ст. з цэментных плітак (23×22,5×3 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Адна з яе шырокіх паверхняў адпаліравана. Гэтыя пліткі пакладзены на падрыхтоўку з цэглы квадратнай (38×38×3,5 см; 25×27×3—5 см) і зрэдку брусочнай (29×14,5×7 см) формы.

На глыбіні 0,25 м ад гэтай падлогі, у шурфе каля аднаго з слупоў паўночнай часткі касцёла, прасочана вельмі цікавая муроўка, якая пакрывае верхні абрэз падмурка слупа. Пры яе даследаванні склалася ўражанне, што гэта фрагмент яшчэ аднаго яруса падлогі, якую, напэўна, высцелілі пасля перабудовы касцёла ў XVIII ст. Тут ужыта цэгла (30×15×5,5—6 см), якая не мае канавак ні на адной з шырокіх паверхняў.

Пад час археалагічных даследаванняў у цэнтральнай і алтарнай частках касцёла сабрана шмат фрагментаў тынкоўкі, пакрытай фрэскамі, якія агледзела вядомая даследчыца беларускага мастацтва Н. Ф. Высоцкая. Яна іх датуе XVI—пачаткам XVII ст. Дрэнная захаванасць фрэсак не дазваляе нам вызначыць іх змест.

У сутарэннях усходняй часткі касцёла прасочаны рэшткі апсіды, якая мела паўкруглую форму. Пры іх расчыстцы знойдзены архітэктурныя дэталі надмагілля Сапегаў, выкананыя з шэра-чырвонага мармуру.

Пад час археалагічнага вывучэння кляштара на яго паўднёва-ўсходнім вугле расчышчаны падмуркі дзвюх вежаў, а ўнутры двара — галерэі.

Такім чынам, агульны комплекс архітэктурна-археалагічных даследаванняў і разлікаў дазваляе вызначыць канфігурацыю плана першапачатковага касцёла. Гэта была двухвежавая трохнефавая з развітым трансептам і паўкруглай апсідай пабудова. Выяўлены намі храм мы датуем другой паловай XVI ст. на аснове фармату цэглы, будаўнічай тэхнікі і супастаўлення архіўных матэрыялаў з вынікамі раскопак. Яго падлога была зроблена з цэглы. Дах пакрывала пляскатая дахоўка.

Калі параўнаць гэты помнік з апісаным у інвентары 1675 г., то бачна, што ў 1618 г. яго капітальна перабудавалі на сродкі падканцлера Вялікага княства Літоўскага Паўла Сапегі. У сярэдзіне XVIII ст. касцёл

яшчэ раз значна перарабілі. Тады яму быў нададзены сучасны выгляд.

Такім чынам, у другой палове XVI ст. у беларускай архітэктуры атрымаў распаўсюджанне базілікальны тып храма. Дрэнная захаванасць разгледжаных помнікаў дадзенага тыпу не дазваляе вызначыць, які яны мелі ўплыў на яе далейшае развіццё.

Трэба падкрэсліць, што ў параўнанні з папярэднім часам XVI стагоддзе было перыядам значна большай творчай актыўнасці ў культавай архітэктуры Беларусі. Асноўнымі тыпамі помнікаў з'яўляліся трохнефавыя і аднанефавыя пабудовы. Аднак у другой палове XVI ст. трохнефавыя зальныя храмы ўжо, напэўна, не ўзводзілі.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Культавае дойлідства XIII—XVI стст. пакінула значны след у гісторыі архітэктуры Беларусі. Аднак дэталёвая характарыстыка агульнай карціны развіцця культавай архітэктуры разглядаемай эпохі ўскладняецца дрэннай захаванасцю помнікаў XIV ст., якія зараз уяўляюць сабой толькі асобныя фрагменты цэльнага эвалюцыйнага працэсу. Відаць, таму архітэктура гэтага перыяду не знайшла адлюстравання ў выданнях па мастацтву Беларусі.

Беларускія летапісы XV—XVI стст., архіўныя дакументы XVII—XVIII стст., гістарычная і краязнаўчая літаратура XIX ст. сведчаць пра даволі інтэнсіўную будаўнічую дзейнасць па ўзвядзенні культавых пабудоў у XIV ст. Гэтыя крыніцы і вынікі архітэктурна-археалагічных даследаванняў Верхняй царквы канца XIII—пачатку XIV ст. у Гродне, храма XIV ст. Навагрудскага замка дазваляюць вызначыць, хоць і з пэўнай доляй гіпатэтычнасці, найбольш важныя рысы пачатковага этапу развіцця беларускага дойлідства, які прадстаўлены праваслаўнымі храмамі.

Працэс станаўлення культавага дойлідства Беларусі пачаўся ў XIII — пачатку XIV ст., а завяршыўся ў XVI ст. Распаўсюджваліся мастацкія і канструкцыйна-тэхнічныя асаблівасці готыкі, пры гэтым захоўваліся кампазіцыйныя асновы полацкай і гродзенскай школ дойлідства XII—пачатку XIII ст.

У XIV—XVI стст. мураванае дойлідства працягвала развівацца не толькі ў традыцыйных мастацкіх цэнтрах Беларусі. Адбылося пашырэнне яго тапаграфіі ў сувязі з пераносам сталіцы Вялікага княства Літоўскага з Навагрудка ў Трокі, а затым у Вільню. Праваслаўныя цэрквы XIV ст. былі аднымі з першых мураваных пабудоў гэтых гарадоў Літвы і мелі вялікае значэнне ў стварэнні іх адметнасці і непаўторнасці. Яны адыгрывалі ролю своеасаблівага творчага імпульсу для развіцця літоўскага дойлідства. Вільня як галоўны горад княства аказвала пастаянны ўплыў на развіццё архітэктуры ў іншых гарадах і мястэчках беларускіх зямель, вызначаючы накірунак эвалюцыі дойлідства Беларусі XIV—XVI стст.

Ужо на пачатковай стадыі станаўлення культавая архітэктура Беларусі набыла ўласцівую ёй своеасаблівасць. Перш за ўсё гэта наяўнасць у помніках XIV ст. шэрагу асноўных тыпалагічных рыс усходнеславянскага дойлідства XII—XIII стст. Іншаземныя майстры, якія, безумоўна, прымалі ўдзел у будаўніцтве храмаў на Беларусі, пры іх узвя-

дзенні маглі выкарыстоўваць па волі заказчыка ў якасці ўзору характэрныя элементы больш ранніх пабудоў. Гэты метад быў распаўсюджаны ў заходнееўрапейскай гатычнай архітэктуры, але, зразумела, не азначаў літаральную копію першакрыніцы [198, *224*]. Аднак археалагічныя даследаванні храмаў канца XIII—XIV ст. паказваюць, што над іх узвядзеннем працавалі і мясцовыя майстры, якія прадэманстравалі, з аднаго боку, добрае веданне асаблівасцей архітэктуры беларускіх зямель папярэдняга перыяду, з другога — яшчэ не зусім дасканалае валоданне тэхнікай будаўніцтва новага стылю. Замежныя дойліды пазбегнулі б такіх тэхнічных і інжынерных недахопаў, як недасканалая тэхніка муроўкі сцен (Верхняя царква ў Гродне), адсутнасць скляпенняў на пачатковым этапе ўзвядзення яе і храма Навагрудскага дзядзінца, таму што ў XIV ст. у архітэктуры суседніх краін (Польшча, Германія) готыка зацвердзілася дастаткова грунтоўна. Пралікі беларускіх майстроў трэба разглядаць не як прыкметы нізкага ўзроўню будаўнічых ведаў і навыкаў, а як вынік стылістычнай пераарыентацыі беларускай архітэктуры, калі новыя мастацкія ідэі аказаліся ў супярэчнасці з тэхнічнымі і канструкцыйнымі прыёмамі архітэктуры папярэдняга перыяду.

Распаўсюджванню готыкі на беларускіх землях паспрыялі такія фактары, як іх аб'яднанне ў складзе Вялікага княства Літоўскага, рост гарадоў і мястэчак, развіццё рамёстваў, гандлю, суседства з краінамі, у мастацтве якіх развіваўся гэты стыль. Трэба ўлічваць таксама рэлігійную талерантнасць тагачаснага насельніцтва Беларусі і гатоўнасць фундатараў да ўспрыняцця готыкі, якая была выпрацавана ў заходнееўрапейскім дойлідстве. На Беларусі яе элементы спачатку праявіліся ў праваслаўнай архітэктуры XIV ст.

У параўнанні з XIV ст. значна актывізаваліся архітэктурна-будаўнічыя працэсы ў культавым дойлідстве XV ст. Яно працягвала развівацца ў гатычным стылі, што добра прасочваецца на архітэктуры касцёлаў, у якіх знайшлі ўвасабленне прасторавая структура, кампазіцыя і канструкцыя цагляных гатычных пабудоў Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. На беларускіх землях у XV ст. узводзілі пераважна касцёлы, якія па канфігурацыі плана блізкія да мясцовых тыпаў праваслаўных храмаў. План асноўнага аб'ёму гэтых пабудоў амаль квадратнай формы, апсіда прэсбітэрыя, які толькі нязначна выступае за знешні контур усходняй сцяны, гранёная.

Пра архітэктуру праваслаўных храмаў Беларусі XV ст., якія не захаваліся, амаль нічога невядома. Аднак вывучэнне цэркваў як XIV, так і XVI ст. дазваляе сцвярджаць, што ў дойлідстве XV ст. засваенне гатычных традыцый адбывалася адначасова з перапрацоўкай сістэмы крыжова-купальнага тыпу храма. Праваслаўным храмам і касцёлам XVI ст. уласцівы аднолькавыя прыёмы арганізацыі ўнутранай прасторы, афармлення фасадаў і завяршэння аб'ёмнай кампазіцыі. На сувязь праваслаўных цэркваў Беларусі XVI ст. з усходнеславянскім дойлідствам XII—XIII стст. яскрава ўказвае толькі трохапсідная алтарная частка.

У развіцці культавай архітэктуры першай паловы XVI ст., якая прадстаўлена пераважна праваслаўнымі храмамі, прасочваецца тэндэнцыя нарошчвання дэкаратыў-

насці ў знешнім афармленні. Готыка-рэнесансавая выразнасць помнікаў сведчыць пра пачатак змены эстэтычных і мастацкіх поглядаў у культуры Беларусі ў сувязі з пранікненнем на беларускія землі ідэй Адраджэння і Рэфармацыі. Аднак на гэтай стадыі рысы рэнесансу выявіліся толькі ў дэкаратыўным афармленні фасадаў, што не з'яўляецца галоўным у архітэктуры і не адыгрывае рашаючую ролю ў вызначэнні стылявой прыналежнасці тагс ці іншага помніка. Таму храмы першай паловы XVI ст. па сваіх спецыфічных стылявых прыкметах з'яўляюцца гатычнымі пабудовамі, а больш дакладна — познегатычнымі. Адначасова з такімі помнікамі ўзводзілі пабудовы, якія не мелі элементаў позняй готыкі. Праўда, гэтыя храмы — рэдкае выключэнне (касцёл у Геранёнах) і таму фактычна не ўплываюць на агульную характарыстыку архітэктуры першай паловы XVI ст.

У культавым дойлідстве другой паловы XVI ст., ад якога захаваліся кальвінскія зборы і касцёлы, праяўляюцца традыцыі трох стыляў — готыкі, рэнесансу і барока. У гэты час пры разнастайнасці кампазіцыйных схем будавалі пераважна аднанефавыя храмы, якія для дадзенага храналагічнага адрэзка з'яўляюцца спецыфічным тыпам пабудоў. Аналагічны кампазіцыйны тып касцёла дамінаваў у архітэктуры Польшчы другой паловы XVI—пачатку XVII ст. У асноўным яе ўплывамі можна растлумачыць шырокае распаўсюджванне ў беларускім дойлідстве другой паловы XVI ст. аднанефавых культавых пабудоў, таму што пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 г. узмацнілася тэндэнцыя палітычнай і культурнай інтэграцыі Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай [139, *28*]. Назіраецца росквіт беларускага дойлідства, пра што сведчыць не толькі вялікая колькасць самабытных помнікаў, але і іх багатая тыпалогія. У сувязі з эканамічным уздымам пашырыўся сацыяльны склад заказчыка, што таксама паўплывала на мастацкі працэс. Храмы будавалі ў гарадах, мястэчках, замках і манастырах.

Канец XV—пачатак XVI ст. адзначаны стварэннем рэдкага тыпу абарончага чатырохвежавага храма, родапачынальніцай якога была Полацкая Сафія. Значыць, творчыя імпульсы ў архітэктуру Беларусі зыходзілі не толькі са сталіцы княства — Вільні, а таксама з мастацкіх цэнтраў, якія ўзніклі на беларускіх землях у XI—XII стст. і не страцілі значэння пазней.

У беларускім дойлідстве другой паловы XVI ст. сустракаюцца пабудовы, якія маюць цэнтрычную форму плана. Відаць, гэты тып храма не атрымаў тут шырокага распаўсюджання, таму прадстаўлены толькі двума помнікамі — кальвінскімі зборамі ў Кухцічах і Смаргоні, хоць не выключана, што былі яшчэ аналагічныя пабудовы, аднак яны не захаваліся.

Як паказалі вынікі археалагічных даследаванняў францысканскага кляштара ў Гальшанах, у другой палове XVI ст. быў узведзены раней невядомы беларускай архітэктуры трохнефавы, прамавугольнай формы, двухвежавы, з развітым трансептам і паўкруглай апсідай касцёл.

Шмат якія помнікі XVI ст. маюць ускладненую планіроўку ў параўнанні з храмамі XIV—XV стст., якая абумоўлена жаданнем фундатараў надаць ім паўфункцыянальнае выкарыстанне, што патрабавала ад дойлідаў шырокага архітэктурнага мыслення. У гэты перыяд удасканаль-

ваецца тэхніка муроўкі сцен, назапашваюцца веды па выкарыстанні будаўнічага матэрыялу. Храмы ўзводзяцца больш значных памераў, чым раней. Сярод помнікаў XVI ст. ёсць пабудовы, якія спачатку мелі даволі простае архітэктурнае выражэнне (касцёл у Геранёнах, царква ў Новым Свержні), аднак у працэсе далейшых перабудоў набылі новыя рысы.

Высокі архітэктурна-мастацкі ўзровень культавых пабудоў гэтага перыяду, самабытны і непаўторны выгляд кожнага з храмаў, нават калі яны складаюць адзіную тыпалагічную групу, ставяць іх у адзін шэраг з агульнавядомымі помнікамі заходнееўрапейскай архітэктуры.

У XVI ст. завяршыўся працэс станаўлення беларускага дойлідства. Наступныя стагоддзі, новыя мастацкія плыні наклалі на яго свой адбітак, узбагацілі выяўленчыя магчымасці, садзейнічалі далейшаму росквіту беларускай архітэктуры.

# ЛІТАРАТУРА

## АРХІЎНЫЯ КРЫНІЦЫ


1. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Расіі ў Санкт-Пецярбурзе, ф. 125, воп. 2, адз. зах. 2575.
2. Там жа, ф. 822, воп. 12, адз. зах. 2929.
3. Там жа, адз. зах. 2943.
4. Там жа, адз. зах. 2945.
5. Там жа, адз. зах. 2947.
6. Там жа, адз. зах. 2954.
7. Там жа, адз. зах. 2967.
8. Там жа, адз. зах. 2975.
9. Там жа, адз. зах. 2982.
10. Там жа, адз. зах. 3015.
11. Там жа, адз. зах. 3064.
12. Там жа, адз. зах. 3452.
13. Там жа, ф. 826, воп. 1, адз. зах. 899.
14. Архіў Санкт-Пецярбургскага Інстытута археалогіі Расійскай Акадэміі навук, ф. 3, адз. зах. 45.
15. Там жа, ф. 3, адз. зах. 137.
16. Там жа, ф. 4, адз. зах. 529.
17. Там жа, адз. зах. 1055.
18. Там жа, адз. зах. 1065.
19. Там жа, ф. 35, воп. 1, адз. зах. 80.
20. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Мінску, ф. 236, воп. 1, адз. зах. 40974.
21. Там жа, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1647.
22. Там жа, ф. 1781, воп. 1, адз. зах. 480.
23. Там жа, адз. зах. 540.
24. Там жа, ф. 1781, воп. 26, адз. зах. 1498.
25. Там жа, воп. 27, адз. зах. 220.
26. Там жа, адз. зах. 230.
27. Там жа, адз. зах. 428.
28. Там жа, адз. зах. 465.
29. Там жа, адз. зах. 480.
30. Там жа, адз. зах. 486.
31. Там жа, адз. зах. 489.
32. Там жа, адз. зах. 494.
33. Там жа, адз. зах. 497.
34. Там жа, адз. зах. 501.
35. Там жа, адз. зах. 509.
36. Там жа, адз. зах. 518.
37. Там жа, адз. зах. 524.
38. Там жа, адз. зах. 534.
39. Там жа, адз. зах. 542.
40. Там жа, адз. зах. 546.
41. Там жа, адз. зах. 549.
42. Там жа, адз. зах. 560.
43. Там жа, адз. зах. 563.
44. Там жа, адз. зах. 581.
45. Там жа, адз. зах. 591.
46. Там жа, адз. зах. 592.
47. Там жа, адз. зах. 593.
48. Там жа, адз. зах. 601.
49. Кушнеревич А. Н. Отчет аб археологических исследованиях в июле 1985 г. церкви XVI в. в д. Мурованка Гродненской области // Архіў Ін-та гісторыі АН Беларусі, адз. зах. 978.
50. Кушнеревич А. Н. Археологический отчет об исследованиях в июне 1986 г. францисканского монастыря XVII—XVIII вв. в д. Гольшаны Гродненской обл. // Там жа, адз. зах. 1006.
51. Кушнеревич А. Н. Церковь оборонного типа первой половины XVI в. в д. Сынковичи Гродненской области: Отчет об археологических исследованиях, проведенных в августе 1986 г. // Там жа, адз. зах. 1006а.
52. Кушнеревич А. Н. Отчет об археологических исследованиях в августе 1986 г. костела первой половины XVI в. в д. Гнезно Гродненской обл. // Там жа, адз. зах. 1006б.
53. Кушнеревич А. Н. Петропавловский костел XVI в. в д. Новый Свержень Минской обл.: Отчет об археологических исследованиях, проведенных в июне 1987 г. // Там жа, адз. зах. 1023.
54. Кушнеревич А. Н. Археологический отчет об исследованиях в июне 1987 г. Успенской церкви XVI в. в д. Новый Свержень Минской обл. // Там жа, адз. зах. 1023в.
55. Кушнеревич А. Н. Археологический отчет о проведении раскопок Вселюбского костела в мае—июне 1987 г. // Там жа, адз. зах. 1023.

